Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 6 (4755) 7 лютага 2014 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прывітаў удзельнікаў XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, якая адкрылася 5 лютага ў НВЦ «БелЭкспа». «За два апошнія дзесяцігоддзі айчынная кніжная справа атрымала значнае развіццё», — адзначыў Кіраўнік дзяржавы. Беларускія выданні захапляюць багаццем тэматыкі, жанравай разнастайнасцю і арыгінальнасцю. На паліцах кнігарняў прадстаўлены і творы класікаў, і работы нашых сучаснікаў. «Міжнародная выстаўка-кірмаш у Год гасціннасці адкрые новыя перспектывы культурнага і дзелавога супрацоўніцтва, стане надзейным арыенцірам на кніжным рынку», — гаворыцца ў прывітанні. Форум будзе працаваць да 9 лютага. Яго арганізатарамі выступілі Міністэрства інфармацыі Беларусі, ААТ «Белкніга» і ВК ТАА «Макбел».

✔ Кіраўнік дзяржавы назначыў стыпендыі на 2014 год 94 аспірантам, якія дабіліся асаблівых поспехаў у навукова-даследчай дзейнасці. Гэта маладыя вучоныя, якія своечасова і якасна вядуць падрыхтоўку кандыдацкіх дысертацый. 23 аспіранты паказваюць высокую датную паспяховасць, 10 з'яўляюцца аўтарамі (суаўтарамі) манаграфій, 26 маюць патэнты на вынаходніцтвы і карысныя мадэлі, 76 — акты аб укараненні вынікаў даследавання ў практыку. Назначэнне стыпендыі будзе садзейнічаць стымуляванню творчай актыўнасці аспірантаў, павышэнню эфектыўнасці і якасці іх навукова-даследчай дзейнасці.

✔ У Нацыянальным гістарычным музеі адкрылася ўнікальная фотавыстаўка «Беларусь у Першай сусветнай вайне», дзе можна пабачыць здымкі з фондаў розных музеяў нашай краіны, у ліку якіх — Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны, Лідскі гісторыка-мастацкі, Кобрынскі ваенна-гістарычны імя А. В. Суворава, а таксама прыватных калекцый Уладзіміра Багданава і Уладзіміра Ліхадзедава. Дакладныя копіі фотасведчанняў той эпохі ілюструюць мірны і ваенны час, жыццё гарадоў і вёсак, пакуты соцень тысяч бежанцаў. Фотаздымкі прадстаўлены ў высокатэхналагічнай экспазіцыі.

✔ Наведвальнікі полацкага Музея гісторыі архітэктуры Сафійскага сабора цяпер могуць скарыстацца індывідуальным партатыўным электронным экскурсаводам (аўдыягідам). Яны маюць магчымасць самастойна пазнаёміцца з экспазіцыяй, паслухаўшы трэкі на беларускай, рускай або англійскай мовах. Аснашчэнне Сафійскага сабора аўдыягідам — адно з мерапрыемстваў праекта міжнароднай тэхнічнай дапамогі «Музейная брама», які рэалізуецца ў Латвіі, Літве і Беларусі.

✔ У Брэсцкім абласным грамадска-культурным цэнтры адкрылася выстаўка маладых мастакоў Брэсцкай вобласці «Сёння — гэта мы». Яна ўяўляе сабой маладзёжны праект абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз мастакоў», падтрыманы Брэсцкім аблвыканкамам. Выстаўка аб'яднала дваццаць маладых аўтараў, якія працуюць у розных жанрах і тэхніках выяўленчага мастацтва. У экспазіцыі прадстаўлена больш як сотня арыгінальных работ.

**Падрыхтавала**
**Іна ЛАЗАРАВА**





*Фота Кастуся Дробава*

# Усе кнігі ў госці да нас

Менавіта пад такім дэвізам у сталічным выставачным цэнтры «БелЭкспа» праходзіць XXI Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Кнігавыдаўцы з 25 дзяржаў свету завіталі ў Мінск з высокай місіяй умацавання гуманітарнага супрацоўніцтва, наладжвання сяброўскіх і партнёрскіх адносін паміж нашымі дзяржавамі і народамі. У кніжным форуме бяруць удзел больш як 600 экспанентаў, а праграма выстаўкі ўключае амаль 200 імпрэз.

Азербайджан, Арменія, Вялікабрытанія, Венесуэла, Германія, ЗША, Ізраіль, Іран, Італія, Казахстан, Кітай, Куба, Літва, Палесціна, Расія, Сірыя, Таджыкістан, Туркменістан, Турцыя, Украіна, Фінляндыя, Францыя, Швецыя, Швейцарыя — менавіта гэтыя краіны сталі ўдзельнікамі кніжнага кірмашу ў Мінску, прадставіўшы на стэндах не толькі яркія кніжныя навінкі, але і адметныя рысы сваёй культуры.

Цырымонія адкрыцця XXI ММКВК прайшла на высокім дзяржаўным узроўні. У ёй узялі ўдзел кіраўнікі і прадстаўнікі органаў дзяржаўнага кіравання нашай краіны: Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў, Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі, міністэрстваў і ведамстваў, а таксама кіраўнікі і прадстаўнікі дыпламатычных місій, акрэдытаваных у Беларусі. Ганаровая роля перарэзаць сімвалічную стужачку і распачаць форум была прадастаўлена ўраджэнцу нашай краіны касманаўту Алегу Навіцкаму, першаму намесніку старшыні Выканаўчага камітэта — выканаўчаму сакратару СНД Уладзіміру Гаркуну, старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаю Чаргінцу, першаму намесніку міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліі Ананіч, а таксама дырэктару — галоўнаму рэдактару Выдавецкага дома «Звязда» Алесю Карлюкевічу (*на фота*).

Першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь падчас адкрыцця міжнароднага кніжнага форуму зачытала прывітальнае слова Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі на адрас удзельнікаў Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

Дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч падчас свайго выступлення падкрэсліў: «Свята гаворыць пра тое, што беларуская кніга крочыць шырока па ўсім свеце. Прадукцыя, прадстаўленая на стэндах, сведчыць: нашы выданні не меней цікавыя ў паліграфічным выкананні, мастацкім кантэксце, чым у іншых краінах».

Што да галоўных навінак і цікавостак кніжнага кірмашу, то сёлета варта адзначыць адкрыццё своеасаблівага «Адукацыйнага квартала» ў межах форуму, дзе прадстаўленая навучальная літаратура для школ і ВНУ, шырокая і грунтоўная прэзентацыя коміксаў на стэндзе пасольства ЗША ў Мінску, а таксама важкі акцэнт на гісторыі і культуры нашай краіны. Важная роля адводзіцца мінуўшчыне на другім паверсе НВЦ «БелЭкспа», дзе прадстаўленыя паштоўкі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава, чый праект «У пошуках страчанага» сёлета адзначае 10-годдзе.

Заканчэнне чытайце на стар. 2 ▶

# Усе кнігі ў госці да нас

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

Думаецца, варта наведаць стэнд з сімвалічнай назвай *Salon du livre de Minsk* — гасцёўня на кірмашы ў Мінску запрашае аматараў літаратуры пазнаёміцца з асноўнымі тэндэнцыямі развіцця сучаснага французскага кніжнага рынку.

З аднаго боку, форум у Мінску распачынае выставачны сезон і крыху прадвызначае асноўныя тэндэнцыі развіцця кнігавыдавецкай справы ў рэгіёне, але з іншага, выконвае ролю і пэўнага падсумавання вынікаў працы беларускіх кніжнікаў за папярэдні год. На стэндах прадстаўлены самыя лепшыя кнігі 2013 года, і наведвальнікі маюць магчымасць трапіць на прэзентацыі адметных выданняў.

Але, бадай, самым яркім акцэнтам першага дня кніжнага форуму традыцыйна з'яўляецца цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі». Сёлета яна прайшла ў Палацы Рэспублікі. Гран-пры конкурсу (у галоўнай намінацыі «Трыумф») удастоена Полацкае Евангелле, што пабачыла свет у Выдавецтве Беларускага Экзархата Маскоўскага Патрыярхата. У намінацыі «ЛІТ-фармат» (літаратурна-мастацкія выданні) лепшымі сталі серыі кніг «Маладзік» і «Залатая калекцыя беларускай літаратуры» выдавецтва «Мастацкая літаратура». А пераможцамі ў намінацыі «Разам з кнігай мы расцём» (кнігі для дзяцей і юнацтва) прызнаныя выданні серыі «Нашым дзеткам» (выдавецтва «Мастацкая літаратура»). Гэта кніга «Сябрына» Рыгора Барадуліна, «Ты не слухай Мішку, коцік» Раісы Баравіковай і іншыя. У намінацыі «Фотапогляд» (фотаальбомы, фотакнігі) самым лепшым быў названы альбом «Мінск. Сэрца Беларусі», што пабачыў свет у выдавецтве «Беларусь», а пераможцам у намінацыі «Залатыя скрыжалі» (даведачныя і энцыклапедычныя выданні) стала выданне Леаніда Маракова «Галоўная вуліца Мінска 1880 — 1940» (выдавецтва «Мастацкая літаратура»),

Лепшымі выданнямі па выяўленчым мастацтве ў намінацыі «АРТ-кніга» прызнаныя альбомы Уладзіміра Сцяпана «Настаўнік Сяргей Пятровіч Каткоў» і «Сяржук Цімохаў» (РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»). «Падручнікам новага веку» стала серыя навучальных выданняў выдавецтва «Аверсэв», а работа Вольгі Лабачэўскай «Беларускі народны тэкстыль: мастацкія асновы, узаемасувязі, навацыі» (выдавецкі дом «Беларуская навука») была прызнаная самай лепшай у намінацыі «Эўрыка» (навуковыя, навукова-папулярныя выданні). Працяг вядомай серыі «Энцыклапедыя рарытэтаў» выдавецтва «БелЭн імя П. Броўкі» — выданне «Кніжная культура. Ветка» стала лепшым у намінацыі «Духоўнасць» (выданні духоўна-асветніцкага напрамку).

Апроч тэматычных намінацый у конкурсе былі і спецыяльныя, а таксама персанальныя ўзнагароды. Так, лаўрэатам спецыяльнай намінацыі «За ўклад у нацыянальнае кнігавыданне» сёлета адзначана выдавецтва «Кніжны Дом» — за падрыхтоўку высакаякаснай, багата ілюстраванай фундаментальнай даведачнай, навучальнай, навуковай, навукова-папулярнай, дзіцячай і мастацкай літаратуры. Узнагароду ў спецыяльнай намінацыі «За ўклад у захаванне духоўнай спадчыны» атрымаў кандыдат мастацтвазнаўства Барыс Лазука, чыя новая кніга «Слуцкія паясы. Адраджэнне традыцый» не так даўно пабачыла свет у выдавецтве «Беларусь».

Серыя кніг «Сугучча сэрцаў» Выдавецкага дома «Звязда» стала лаўрэатам спецнамінацыі «Садружнасць». А заказныя кнігі «Старонкі гісторыі пажарнай службы Беларусі» і «Жабінкаўскі цукровы завод. 50 гадоў (1963 — 2013)» (навукова-вытворчая кампанія «Тэхналогія») прызнаны лепшымі ў новай намінацыі «У люстэрку часу».

Па традыцыі падчас 53-га Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» былі прысуджаныя і персанальныя дыпломы. Так, у намінацыі «Майстэрства» лепшым ілюстратарам кнігі была названая Вара Калеснікава — за малюнкі да кнігі Настассі Філіпавай «Плюшавыя казкі», лепшым дызайнерам кнігі стаў Аляксандр Цароў — за арыгінальны дызайн навучальных кніг выдавецтва «Аверсэв», а таксама міжвыдавецкай серыі «Школьная бібліятэка», лепшым фотамастаком кнігі названы Анатоль Дрыбас — за аўтарскія фотаздымкі для альбомаў, што выйшлі ў выдавецтве «БелЭн імя П. Броўкі» і «Беларусь».

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Прынятыя ў СПБ



**Алена Аляксандраўна БАЯРОВІЧ**

*Секцыя публіцыстыкі*

Нарадзілася 20 верасня 1977 года ў вёсцы Стукацічы Мінскага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і факультэт права Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь. Працуе ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Аб'яднаная рэдакцыя МУС Рэспублікі Беларусь». Актыўна друкуецца як публіцыст у рэспубліканскіх выданнях. З'яўляецца адным з аўтараў кнігі «Дзе жыве душа» (2003) і аўтарам кнігі «Испытание на прочность» (2012).

Лаўрэат некалькіх творчых конкурсаў. Член Беларускага саюза журналістаў.



**Алена Анатольеўна ДЗЕБІШ**

*Секцыя дзіцячай літаратуры*

Нарадзілася 29 чэрвеня 1993 года ў г. Брэсце. Студэнтка філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна па спецыяльнасці «Журналістыка». Актыўна друкуецца ў абласной і рэспубліканскай перыёдыцы. У 2012 годзе ў брэсцкім выдавецтве «Альтэрнатыва» выйшла яе першая кніга для дзяцей «Замок тайн». З'яўляецца лаўрэатам абласных і міжнародных літаратурных конкурсаў.



**Дзмітрый Уладзіміравіч САЎЧЫК**

*Секцыя дзіцячай літаратуры*

Нарадзіўся 26 лютага 1985 года ў г. Мазыры. Скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Працуе ў Нацыянальным акадэмічным канцэртным аркестры Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга.

Д. Саўчык актыўна друкуецца ў часопісах «Рюкзачок», «Незнайка». Лаўрэат Міжнароднага конкурсу маладых фантастаў (2011). У Выдавецкім доме «Звязда» выйшла яго кніга казак «Фабрика хорошего настроения» (2013), якая атрымала станоўчыя водгукі як чытачоў, так і крытыкі.

## З нагоды

# Дрэва без кораня не жыве

**У студзені гэтага года «Краязнаўчая газета», якую рыхтуюць супрацоўнікі Беларускага фонду культуры, адсвяткавала выхад у свет 500-га нумара. Сёння гэта адзінае агульнанацыянальнае выданне, прысвечанае краязнаўству і вывучэнню асаблівасцей розных рэгіёнаў краіны.**

За дзесяць гадоў газета стала своеасаблівую пляцоўкаю, дзе людзі, неабыякавыя да мінуўшчыны, традыцый і духоўнай спадчыны нашага народа, сустракаюцца, абменьваюцца досведам. Рэдакцыя праводзіць і ўласныя акцыі. Сярод іх — збор сродкаў на рэстаўрацыю фрэсак Свята-Еўфрасіннеўскага манастыра ў Полацку, збор кніг беларускіх пісьменнікаў для вясковых бібліятэк з аўтографамі творцаў і інш. Аўтары выдання — не толькі нашы землякі, яшчэ і жыхары Расіі, ЗША, Ізраіля, Украіны… Фонд культуры і рэдакцыя падтрымалі ініцыятыву навукоўцы Віталя Скалабана па стварэнні слоўніка сучасных краязнаўцаў і працягваюць збіраць звесткі пра тых, хто даследуе адметнасці свайго рэгіёна.

— Наша выданне, якое стала падмуркам для стварэння грамадскага краязнаўчага аб'яднання, вельмі патрэбнае беларусам, — распавёў старшыня Беларускага фонду культуры, рэдактар «Краязнаўчай газеты» Уладзімір Гілеп падчас прэс-прэзентацыі юбілейнага нумара ў Доме прэсы. — Сёлета мы распачнём новую ініцыятыву па стварэнні ў сельскіх раёнах, аграгарадках і былых мястэчках зямляцтваў — своеасаблівай формы вяртання выхадцаў з гэтых мясцін да каранёў радзіннага дрэва. Прынамсі, намаганнямі члена Рады БФК Навума Гальпяровіча створана зямляцтва ў Полацку. Спадзяюся, падобныя суполкі з'явяцца таксама ў іншых гарадах і вёсках. Такім чынам мы вырашылі б праблему адраджэння гісторыі населеных пунктаў Беларусі і іх развіцця ў будучым.

Дарэчы, Беларускі фонд культуры плануе ўстаноўку памятных знакаў, якія будуць сведчыць пра зніклыя вёскі, у тых месцах, дзе яны існавалі, паведаміў журналістам намеснік старшыні БФК Анатоль Бутэвіч. На знаках плануецца размяшчаць назвы вёсак, хутароў і нават прозвішчы сямей, што жылі тут калісьці. Бо не бывае дрэва без кораня.

**Раіса МАРЧУК**

# Подзвігу Ленінграда прысвячаецца

Урачыстае свята памяці, прысвечанае 70-годдзю вызвалення Ленінграда ад блакады, адбылося ў культурна-дзелавым цэнтры «Дом Масквы ў Мінску».

Большую частку прысутных складалі ветэраны-блакаднікі, якія жывуць у Беларусі. Падзея для іх — свята скрозь слёзы, але боль гоіць гонар подзвігу: без яго пераможны вынік вайны мог аказацца пад вялікім пытаннем. Унікальнасць ленінградскіх падзей 1941 — 1944 гг. падкрэсліў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Аляксандр Сурыкаў: «У гісторыі Вялікай Айчыннай блакада Ленінграда займае асаблівае месца як нябачаны ў свеце выпадак 900-дзённай асады горада і бяспрыкладны подзвіг яго жыхароў».

Ад імя былых жыхароў горада-героя Ленінграда выступіў Валерый Пак. Ён адзначыў, што агульная памяць пра ваеннае мінулае — моцны падмурак сяброўства і аднадумства народаў. «Беларуская зямля стала для нас другой радзімай. Я жыву тут ужо 68 год. Па нацыянальнасці — карэец, па выхаванні — савецкі чалавек, а па духу — беларус, таму што амаль усё жыццё пражыў у Беларусі».

Сапраўднай кульмінацыяй свята стала ўшанаванне памяці і подзвігу танкіста Зіновія Калабанава. Пра яго распавялі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец і падпалкоўнік у адстаўцы Сяргей Собалеў. У падначаленні старшага лейтэнанта З. Калабанава знаходзілася 5 танкаў — менавіта яны спынілі нямецкую атаку на Гатчынскім напрамку. Заняўшы выдатную стратэгічную пазіцыю, рота Калабанава знішчыла 43 фашысцкія танкі (з іх 22 — яго ўласны экіпаж) і вялікую колькасць нямецкай ваеннай тэхнікі. С. Собалеў: «Гэта нават больш чым подзвіг: фактычна яны выратавалі Ленінград. Ад Гатчыны да Палацавай плошчы — 40 хвілін танкавага ходу сярэдняй хуткасці…»

Між тым, ганаровага звання Героя Савецкага Саюза Зіновій Калабанаў так і не атрымаў. Толькі ў апошнія гады памяць пра выбітнага танкіста набыла шырокі розгалас — шмат у чым дзякуючы намаганням сваякоў. У знак высокай пашаны і гонару ў 2013 годзе адбылася веласіпедна-бегавая эстафета па маршруце «Мінск — Гатчына — Мінск» — сімвал яднання вызначальных кропак біяграфіі выбітнага танкіста. Сяргей Собалеў, кіраўнік эстафеты, адзначыў, што падтрымала праект Беларуская праваслаўная царква — прыход храма-помніка ў гонар Усіх святых.

**Лея ХАШЫМБА**

# «Не забывай: каханне вечнае!»

Літаратурны клуб «Шчырасць», створаны пры сталічнай бібліятэцы № 22, сустракаў гасцей. Нягледзячы на марознае надвор'е, вялікая зала кніжніцы была цалкам запоўнена прыхільнікамі творчасці вядомага паэта Міколы Шабовіча. А нагодай для імпрэзы стаў яго 55-ы дзень нараджэння.

Само жыццё ацэньвае яго «на выдатна», ды і ёсць за што: акрамя безумоўнага таленту паэта-лірыка і паэта-гумарыста Мікола Віктаравіч мае талент выдатнага перакладчыка, дарадцы маладых творцаў, якія толькі спрабуюць сілы на літаратурнай ніве. Сярод тых, хто прыйшоў на аўтарскі вечар паэта пад назвай «Не забывай: каханне вечнае!», было шмат моладзі. І гэта невыпадкова: Мікола Шабовіч — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства БДПУ імя Максіма Танка. Паслухаць паэта і яго сяброў пажадалі таксама вучні і настаўнікі СШ № 25, навучэнцы чыгуначнага каледжа, студэнты ваеннай кафедры БНТУ.

Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў павіншаваў юбіляра і ўручыў яму ад імя прэзідыума СПБ медаль «За вялікі ўклад у літаратуру». Шчырымі, цёплымі словамі віталі Міколу Шабовіча калегі па творчым цэху Уладзімір Ермалаеў, Валянціна Паліканіна, Дзмітрый Пятровіч, Іна Фралова, Вольга Шпакевіч і інш.

Анатоль Міхальчэнкаў і Алег Малашчыцкі цудоўна выканалі некалькі песень на словы віноўніка ўрачыстасці. Гучалі і песні ў выкананні Дзмітрыя Пятровіча, некаторыя з іх — на словы і музыку М. Шабовіча.

Вечарына прайшла на адным дыханні дзякуючы вялікай колькасці добрай паэзіі таленавітага аўтара, намаганням вядучага — паэта і сябра Міколы Шабовіча Міхася Башлакова, а таксама гасціннасці калектыву бібліятэкі.

**Ганна СТАРАДУБ**

*Конкурс*

# «Гуляй, зіма, твая часіна!..»

**Конкурс дзіцячых навагодніх пасланняў да Песняра «Гуляй, зіма, твая часіна!..» ладзіўся напярэдадні зімовых свят у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа ўжо другі год запар.**

На працягу 40 дзён паступалі навагоднія лісты да дзядулі Якуба, паштоўкі-віншаванні і малюнкі-ілюстрацыі да раздзелаў паэмы «Новая зямля» — «Зіма ў Парэччы», «На рэчцы», «Каляды». Дарэчы, сёлета ўдзельнікаў было больш, а іх склад «памаладзеў». Свае творчыя сілы выпрабавалі больш як 80 дзяцей з мінскіх школ, г. Заслаўя і з роднай Якубу Коласу Стаўбцоўшчыны, у тым ліку і трох-, чатырохгадовыя творцы.

Пераможцаў па ўзроставых катэгорыях і намінацыях вызначала прафесійнае журы з вядомых мастакоў, паэтаў і журналістаў. Спонсарамі выступілі выдавецтва «Шапакляк» і Рэспубліканскі камітэт Беларускага прафсаюза работнікаў культуры. Супрацоўнікі музея правялі вялікую арганізацыйную працу і разам з членамі журы вызначылі 36 лепшых твораў.



*Аўтограф ад Міхася Канстанцінавіча.*

Урачыстая цырымонія падвядзення вынікаў конкурсу адбылася 30 студзеня, напярэдадні дня народзін малодшага сына Песняра Міхася Канстанцінавіча, які цёпла павітаў прысутных і пажадаў ім не ленавацца, удасканальваць талент, часцей бываць у музеях, больш чытаць. Свае наказы дзецям, у тым ліку размаўляць, пісаць і думаць па-беларуску, далі таксама члены журы: мастак Уладзімір Уродніч, паэты Мікола Маляўка і Уладзімір Мазго.

Пераможцам былі ўручаны дыпломы, сертыфікаты на падпіску ад газеты «Шапакляк», каштоўныя падарункі. Прызам глядацкіх сімпатый за лепшы малюнак, прадстаўлены на выстаўцы конкурсных работ, узнагароджана Лізавета Пракапчук.

**Наталі КУПРЭВІЧ,**
**фота аўтара**



# Магія з матывамі дажджу

Пра асобу і творчасць маладой пісьменніцы Маргарыты Латышкевіч можна гаварыць доўга. Піша яна і вершы, і прозу — на рускай і беларускай мовах. Маргарыта — член Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат шматлікіх літаратурных конкурсаў. Бадай, самая яскравая перамога ў гэтым рэчышчы — месца ў дзясятцы дыпламантаў І Міжнароднага літаратурнага конкурсу маладых аўтараў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі «Мост дружбы». Вынікам карпатлівай творчай працы стаў першы ўласны паэтычны зборнік «Пульс навальніц» (Мінск, «Чатыры чвэрці», 2012).

На юбілейную творчую вечарыну, што адбылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, прыйшлі калегі Маргарыты па літаратурным цэху, а таксама яе маці і сябры. Вядучая імпрэзы, паэтэса Іна Фралова, узнагародзіла маладую творцу Ганаровай граматай Саюза пісьменнікаў Беларусі. А сама віноўніца ўрачыстасці распачала выступленне празаічным творам, эсэ пра часопісы са школьнай бібліятэкі, хобітаў і эльфаў, што раней друкавалася на старонках «ЛіМа» (№ 29, 2012).

У Доме Коласа гучалі і вершы Маргарыты — у выкананні майстроў паэтычнага слова Раісы Баравіковай і Уладзіміра Ермалаева, якія выступіў таксама і са сваімі гумарыстычнымі творамі. Павіншавалі яе паэтэса і бард Ганна Чумакова, журналіст Іна Дарашкевіч і аўтар гэтых радкоў.

Своеасаблівым лейтматывам сустрэчы сталіся вобразы котак (іх выявы дэманстраваліся на вялікім экране) і музыка дажджу, якую можна пачуць у многіх паэтычных творах дзяўчыны.

Вечарына ўключала і невялікае лялечнае тэатралізаванае прадстаўленне, і народныя вершаваныя загадкі, і сапраўдную паэтычную магію з элементамі фальклору. Каб падкрэсліць музыкальнасць сваіх твораў, на імпрэзу Маргарыта прынесла музычныя інструменты, гукі якіх і перадавалі рытм дажджу. А на развітанне зазначыла (вядома, радком верша): «За расстаннямі раннімі новыя будуць сустрэчы…» Каб жа адбываліся такія сустрэчы як мага часцей!

**Яна ЯВІЧ**

*З юбілейнай нагоды*

# А паэт чытаў свае новыя вершы

«Беражыце роднае слова!» — так называлася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 85-годдзю самабытнага паэта Міхася Мамонькі. Адбылася яна ў старажытным Тураве, у гарадскім Доме культуры, куды, нягледзячы на марознае надвор'е, прыйшлі дзясяткі прыхільнікаў творчасці літаратара.

Міхась Мамонька — ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі — у 2007 годзе з Мінска пераехаў разам з жонкай (карані яе адсюль) на пастаяннае месца жыхарства ў авеяны легендамі і паданнямі палескі горад на Прыпяці. Але паэт застаецца паэтам, нягледзячы на тое, куды яго завядзе жыццёвая дарога. Тут, у сэрцы Палесся, захоплены прыгажосцю краю, яго прыродай і цудоўнымі людзьмі, Міхась Паўлавіч стварыў нямала выдатных твораў, прысвечаных надзвычай багатай гісторыі, мове, краявідам Палесся.

Юбіляр прайшоў складаны жыццёвы шлях. Давялося яму перажыць нямала выпрабаванняў, у вайну падлеткам узяцца за зброю, страціць нямала родных і блізкіх. Пасля ваеннага ліхалецця, стаўшы педагогам, аддаваў веды і прывіваў любоў да беларускасці сваім вучням. А аднойчы востра адчуў, што мае патрэбу вершаваным радком звярнуцца да суайчыннікаў. Пасля з друку адзін за адным сталі выходзіць яго паэтычныя зборнікі, якія «дастукаліся» да чытача, удумлівага і патрабавальнага.

На памятнай вечарыне, да арганізацыі якой мела дачыненне Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Жыткавіцкага райвыканкама, паэт чытаў свае новыя вершы. Са сцэны гучалі пранікнёныя радкі, прысвечаныя Радзіме, беларусам, роднай мове і прыродзе.

Нацыю, як перакананы паэт, фарміруе найперш мова. І добра, што тут, на Тураўшчыне, дзе вытокі нашай агульнай гісторыі, нацыі і мовы, людзі яе шануюць. Надта хораша гучалі вершы, прысвечаныя каханай тураўлянцы — жонцы Кацярыне Карнееўне, людзям, якія жывуць побач.

На юбілейную вечарыну ў Тураў завітала нямала сяброў. Прыехалі і калегі па пісьменніцкім цэху. Таленавітым самародкам, творы якога — сапраўды народнага гучання, а не танная падробка пад народнасць, надзіва простым і шчырым беларусам з вялікай літары назваў старэйшага калегу старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі празаік Уладзімір Гаўрыловіч.

Ад імя Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі У. Гаўрыловіч уручыў юбіляру памятны знак СПБ «За асабісты ўклад у літаратуру», перадаў сардэчныя прывітанні ад кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў, мінскіх літаратараў. А ад імя гомельскай пісьменніцкай арганізацыі ўручыў Міхасю Мамоньку падарункі і розныя выданні абласнога аддзялення СПБ. Невялічкая бібліятэчка была перададзена кіраўніком абласнога аддзялення і Тураўскай гарадской бібліятэцы.

Цёплыя словы адрасавалі Міхасю Мамоньку і месцічы, прадстаўнікі сістэмы культуры раёна. Дырэктар Жыткавіцкай раённай бібліятэкі Людміла Кронда падзякавала паэту за творчыя сустрэчы з моладдзю, чытачамі раёна, якія прайшлі ў Тураве і Жыткавічах апошнім часам. Нямала цудоўных беларускіх песень як падарунак таленавітаму жыхару Турава выканаў народны калектыў Тураўскага ГДК «Залаты ўзрост». Трэба сказаць, што як вершы годнага аўтара, так і песні ў выкананні «тураўскіх князёўнаў» запалі ў душу сапраўдных аматараў мастацкага слова і народнай песні.

**Улад ПРЫАЗЁРНЫ**

# Зорка за посуд

**Напрыканцы студзеня ў музеі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля адкрылася выстаўка фарфору «Белае золата Белай Русі».**

Добрушскі фарфоравы завод — адзінае ў Беларусі прадпрыемства такога кшталту, дзе на працягу трох з паловай дзесяцігоддзяў з-пад рук майстроў выходзяць вырабы, якія ствараюць атмасферу прыгажосці і ўтульнасці ў нашых дамах. Посуд і дробная пластыка маюць уласны непаўторны стыль, цешаць разнастайнасцю форм і мастацкім афармленнем. Традыцыі вытворчасці з гадамі прымнажаюцца, а слава пра айчыннае «белае золата» дасягнула Турцыі, Германіі, Швейцарыі, Канады, Лівана.

За паспяховую працу па абнаўленні асартыменту і якасць прадукцыі прадпрыемства адзначана прызамі і ўзнагародамі. У 1993 годзе завод атрымаў «Дыяментавую зорку» ад нацыянальнага інстытута маркетынгу ў Мехіка, «Факел Бірмінгема» — за ўнёсак у развіццё міжнароднага праекта «За паспяховае выжыванне» (1995). У 1997-м быў узнагароджаны ў Германіі асацыяцыяй «Партнёрства дзеля прагрэсу» прэміяй «Залаты арол» з правам маркіроўкі прадукцыі і атрымаў «Залатую зорку» ў Мадрыдзе.

Акрамя таго, прадпрыемства чатыры разы станавілася лаўрэатам Прэміі Урада Рэспублікі Беларусь за дасягненні ў галіне якасці і лаўрэатам конкурсу «Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь — на рынку Расійскай Федэрацыі» з 2001 па 2013 гады. Добрушскі завод узнагароджаны таксама дыпломам за высокія вынікі і атэставаны па вышэйшай катэгорыі якасці, якая дазваляе маркіраваць сваю прадукцыю.

Выстаўка знаёміць з асноўнымі этапамі стварэння фарфору. Тут можна даведацца пра імёны майстроў і палюбавацца іх творамі. У экспазіцыі прадстаўлены як сучасныя вырабы, так і прадукцыя першых гадоў існавання прадпрыемства, а таксама аўтарскія працы некалькіх пакаленняў мастакоў з фондаў музея Гомельскага палацава-паркавага ансамбля і ўласнага збору завода.

Падчас прэзентацыі выстаўкі жывапісцы завода правялі майстар-клас па размалёўцы фарфоравых вырабаў.

**Раіса МАРЧУК**

### Каляндар знамянальных дат

### Люты

**4** — 80 гадоў з дня нараджэння Арсеня Ліса (1934), фалькларыста, літаратуразнаўца, краязнаўца.

**6** — 100 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Куляшова (1914 — 1978), народнага паэта Беларусі.

**8** — 100 гадоў з дня нараджэння Валянціна Таўлая (1914 — 1947), паэта, літаратуразнаўца, дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі.

**8** — 85 гадоў з дня нараджэння Леаніда Лыча (1929), доктара гістарычных навук, прафесара.

**21** — Міжнародны дзень роднай мовы.

Іван Капыловіч — вядомы беларускі пісьменнік. Нарадзіўся 2 лютага 1944 года ў вёсцы Забалацце Мазырскага раёна. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Служыў у Савецкай Арміі. Пасля заканчэння вучобы ва ўніверсітэце працаваў у газеце «Чырвоная змена». У адной з камандзіровак трапіў у аўтамабільную катастрофу, доўгі час быў прыкуты да бальнічнага ложка.

Аўтар кніг прозы «Сонца садзіцца ў травы» (1978), «Два дні ў лютым» (1981), «Асенні гром» (1985), «Сны не вяртаюцца» (1988), «Імянны гадзіннік» (1991), «Пасынак» (1993), «Крумкач» (1997), «Лісты з далёкай чужыны» (2000), «Калі трэба жыць» (2003). З вершамі выступаў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Маладосць» і «Полымя».

## Іван КАПЫЛОВІЧ



***

*Куды ні глянь — яшчэ зіма*
*Сваёй улады не губляе.*
*Ды спадзяюся не дарма —*
*Вясна дыхне вятрамі мая.*

*І хоць мяцеліца ўначы*
*Перамяла вясне дарогу,*
*Зіма збяжыць удалячынь:*
*Туды, ў мядзведжую бярлогу.*

*Убачу — кружацца буслы*
*Над паплавамі і над хатай.*
*Не, не стрымаць прыход вясны*
*Ніякай лютасцю заўзятай.*

*Заружавее потым бэз*
*І вэлюм яблыня адзене.*
*Пайду і я ў знаёмы лес,*
*Што майскім днём памаладзее.*

*Агорне думак глыбіня*
*Пад несціханы пошум дрэваў*
*І зойме думкі клопат дня:*
*Наладзіць дыялог з ім трэба.*

***

*Мой шлях зямны — выпрабаванні:*
*Пражыты кожны дзень і міг,*
*І халады, і спадзяванні,*
*І летуценныя світанні*
*Парою сцюжаў і адліг.*

*Мой спадарожнік — адзінота,*
*Яна са мною там і тут*
*Парою сонца, часам слоты*
*І гэтым днём не без турботаў,*
*Не без надзеяў і пакут.*

*Ісці мне давядзецца многа*
*Дарогай той не без імжы,*
*Дзе я шукаў сябе самога,*
*Звяртаўся да людзей і Бога,*
*Не знаючы, як далей жыць.*
*Хачу вярнуцца да вытокаў,*
*Якія гоняць карані*
*Таго, што мае сэнс глыбокі,*
*У часе блізкім і далёкім*
*Сябе чым буду бараніць.*

***

*Зімы пачую галашэнне*
*Скрод глыбокае начы —*
*Сон прападзе ў адно імгненне,*
*Я беспрычынна летуценю —*
*Лячу скрозь цемру ў далячынь.*

*Дыхне зіма мне ў твар сумётам,*
*Сіберным холадам ільдоў.*
*Зіма —*
*час дум аб незваротным.*
*Аб вельмі важным, неістотным,*
*Аб тым, што страціў і знайшоў.*

*Перамяце яна прасёлак*
*І сцюжай выйдзе на бальшак.*
*Не заўважаў я гэтай золі,*
*Наўсцяж гучала ветру сола —*
*З ім растававаца не спяшаў.*

*Я перайду рубеж зімовы*
*І зажурыся —*
*згіне снег.*
*Ён ручаём звініць вясновым,*
*Ён думаў час невыпадковы,*
*Журба аб ім — вясновы грэх.*

## Святлана АБДУЛАЕВА



***

*Насустрач горад запаліў агні —*
*Зімою вечар надыходзіць рана.*
*У тлуме гарадскім і мітусні*
*Я ўспамінаю пра цябе, каханы.*
*А снегапад на вуліцы — сцяной,*
*Такі густы, як не было ніколі!*
*Праз белы снег журботны позірк твой*
*Усплыў у маёй памяці міжволі.*
*І з нежаданнем нават хай мароз*
*Казырнай картай выпадзе на студзень —*
*Каханне нашае, што вытакаў лёс —*
*Зіма сваім дыханнем не астудзіць…*

## Снегіры

**1**

*Пушыстай шэранню пакрыты*
*Сад стары…*
*У ім сягоння фаварыты —*
*Снегіры…*

**2**

*Вось вам і казка —*
*З чырвонымі птушкамі*
*Голле гарыць,*
*Ці верасень спелыя яблыкі гушкае*
*Ў нашым двары?*

***

*Спускалася сонца*
*ў Балтыйскае мора…*
*Танула,*
*нібы карабель…*
*А хвалі рабілі*
*паўтор за паўторам*
*Набегі бясконца на мель.*
*На фоне пунсовым*
*над гладдзю марскою*
*Крык чаіцы белай паўіс…*
*Застыў у чарговым чаканні прыбою*
*Самотна-зняможаны пірс.*
*Спускалася сонца*
*зусім непрыкметна,*
*Хавала ў ваду праменні,*
*Нібыта якраз*
*у апошні дзень лета,*
*Падлічвала цёплыя дні…*

***

*Шыракалістыя каштаны*
*Святло лавілі ліхтара,*
*Што так рассейвалася цьмяна,*
*Наўкол прыціхлага двара.*
*Бяроз — каштанавых равесніц —*
*Ляглі маўклівa цені ў рад.*
*Застылі крокі каля весніц…*
*У змрок схаваўся далягляд.*

***

*За небасхіл каціўся сонца дыск,*
*І збажына туліла васількі…*
*Змярканне апускалася на Мінск,*
*У самыя глухія закуткі…*
*Спяшаліся машыны ў гаражы,*
*Вандроўнік рыхтаваў сабе начлег…*
*І хтосьці дзень у святасці пражыў,*
*А нехта свой ізноў падвоіў грэх…*

***

*На цёплым узмор'і —*
*усё, як калісьці…*
*І чайкі здалёку*
*зноў крыкам вітаюць.*
*А мне падаецца —*
*што белыя пісьмы*
*Пасланыя з чайкамі —*
*але не далятаюць.*
*Усё, як заўсёды на ціхім узмор'і…*
*А я адчуваю,*
*што ўсё тут —*
*іначай,*
*Хоць пірс той жа самы*
*і тое ж надвор'е…*
*Слядоў Вашых побач з сабою —*
*не бачу…*



## Зміцер АРЦЮХ



## Ад жыцця да Жыцця

*Як гэта цяжка — весці бой з сабою:*
*Сябе старога за жыццё спаліць,*

*І на Жыццё душу сваю настроіць,*
*І Небу сэрца чыстым падарыць.*

*І не забыць, што на зямлі — часова,*
*І час надыдзе вечнасць сустракаць…*

*Пакуль жа ў снезе сабіраю дровы*
*І ў печ старую мушу падкідаць.*

* * *

*Усё змяшалася ў душы:*
*Каханне, жарсць, любоў, пакута...*
*Як гэта цяжка — не грашыць,*
*Пачуццяў выпіўшы атруту.*

*Як гэта цяжка — не пісаць,*
*Калі пакута б'ецца ў скроні.*
*Давай навучымся маўчаць,*
*Схаваўшы ў кулакі далоні.*

## На скрыжаванні

*Я заблудзіўся між Дабром і Злом.*
*Стаю на скрыжаванні і не знаю,*
*Куды ісці, дзе мой сапраўдны дом?*
*Дзе ты, Жыццё? Я так цябе шукаю.*

*Я ведаю, што стане мне лягчэй,*
*Калі пайду шырокаю дарогай;*
*Але ж на час, які, нібыта змей,*
*Мяне спакусіць — і не дасць нічога.*

*І будзе выдумляць сваё «святло»,*
*Каб я ў тупік зайшоў да вечнай ночы.*
*І вось стаю на скрыжаванні сноў*
*З надзеяй зазірнуць*
*Сабе*
*У вочы.*

* * *

*А час вясны вядома, што настане,*
*І новы дзень народзіцца святлом.*
*І вернецца нам чыстае каханне,*
*Ад цёмнага ачысціцца наш дом.*

*І чыстаю зямля да Бога ў рукі*
*Патрапіць. І не будзе больш вайны,*
*І зла не будзе, толькі ты пастукай*
*У храм душы і дзверы адчыні*

*Для светлых сіл, вясновага настрою,*
*Для радасці, якую Бог нам даў.*
*Упэўнены: мы чысты свет адновім.*
*Для творчасці спрыяльны час настаў.*

## Дом

*На пяску будую дом з саломы*
*І думаю — яго не знішчыць вецер…*
*Праз дзень ці два не засталося дома,*
*Салома разляцелася па свеце.*

*І зноўку трэба брацца за будоўлю*
*І з камянёў узводзіць сцены хаткі…*
*Праз дзень ці два «ратуйце дом» прамоўлю,*
*Вада пясок размыла…*
*З хаткі ўзяткі гладкі.*

*Дык дзе ж мне адшукаць сабе прытулак?*
*Дзе дом сапраўдны: лёгкі і трывалы?*
*Скажыце мне… Скажыце, калі чулі...*
*«Благаславенна Царства…» адказалі.*

## Дзве душы

*Я злой душы сваёй*
*Ізноў паверыў,*
*Ізноў пусціў яе*
*У белы сад.*
*І чорны снег пайшоў*
*Па снезе белым,*
*Чырвоных слёз маіх паліўся град.*
*Ты вер, мая душа,*
*Бог злую ноч прагоніць*
*І будзе белы снег*
*Па чорным снезе падаць.*
*І райскі сад тады*
*З табою зноў успомнім*
*І прыйдзе новы дзень,*
*Які падорыць радасць.*

* * *

*Слабы…*
*Слабы, слабы й не перайначыць*
*Мяне слабога сілай хто надзеліць?*
*На Бога спадзяюся. Богу плачу:*
*Пусці мяне ў адчыненыя дзверы…*
*Хаця б апошнім*
*Дапаўзці да храма,*
*Хаця б апошнім на парог упасці.*
*Прабач мяне, мая Святая Мама.*
*Не заслужыў, не вымаліў я шчасця.*
*А Ты прабач, а Ты прымі, Царыца,*
*Скалечанага страсцю чалавека.*
*Я паспрабую Сыну памаліцца*
*Так, як умею, бо слабы,*
*Слабы калека.*



# Васіль ТКАЧОЎ

# Дом там, дзе мама

## *Жыццёвінкі*

### 1

Еду ў тралейбусе. Уладкаваўся ўдала, сяджу. Назіраю, што робіцца за акном. А што там робіцца? Хлопцы ў спецвопратцы мяняюць на суседняй вуліцы трубы ацяплення, узадралі асфальт, горы зямлі… Не паспелі за лета, прыхапілі восень. І ўсюды легкавікі, легкавікі. Налеплены каля офісаў і цягнуцца ўзбоч, спераду і ззаду. Нехта за спінай кажа: «Усе вуліцы ў горадзе, дзе толькі можна было, пашырылі, а ўсё роўна цесна. Хутка ў Гомелі нашым на працу будзем дабірацца, як у той Маскве… Столькі машын! А ў гаражах жа колькі іх стаіць!»

Ну і так далей. Едзем, адным словам. Нічым бы не запомнілася і гэтая чарговая мая паездка ў цэнтр горада, каб не разыграўся маленькі спектакль. Мужчына, які падсеў да мяне, працягнуў дзяўчыне, што стаяла бліжэй да кампосцера, талончык: прабі, родненькая. Дзяўчына зрабіла выгляд, што не чуе, тады ён тармаснуў яе за рукаў: ці чуеш ты? Нуль увагі. Талончык прабілі іншыя людзі. А дзяўчына хоць бы што — моўчкі трымалася за поручань. Потым ёй талончык працягнула бабулька. Тая ж рэакцыя. Мо недачувае? Дык не ж, тузаюць за рукаў. Ды і на твар паглядзіце яе — усё яна чуе і бачыць, проста прыкідваецца тралейбуснай прынцэсай: я вам хто? Ну дык вось! Свае праблемы самі і вырашайце — устаньце, не палянуйцеся і пракампасціруйце талончык. Лакеяў няма.

Той мужчына, што падсеў да мяне, не вытрымаў нарэшце і стаў выхоўваць дзяўчыну:

— І як табе не сорамна?!

Дзяўчына, злосна глянуўшы на мужчыну, папракнула яго:

— Не «табе», а «вам»!

А паколькі на тым прыпынку, дзе зайшла ў тралейбус дзяўчына, знаходзіцца інтэрнат медінстытута, то і мужчына прыняў яе за студэнтку:

— І вось такія людзі будуць нас лячыць! І як можна даверыць ім сваё жыццё, хто адкажа мне? Ай-яй-яй! Куды ідзём? Куды коцімся?

Вы б толькі бачылі, як прыемна запунсавеўся тварык у дзяўчыны, на ім усплыла лагода: яе прынялі за студэнтку, за будучага ўрача! Дык што вам тады трэба? Ведайце, з кім маеце справу, аднак!..

І яна горда трымала галаву, не зводзячы вачэй з кампосцера, які быў перад самым носам. Ну, цяжка табе закампасціраваць талончык — адыдзі, калі ласка, убок, іншыя гэта зробяць. Не — стаіць, як прыкіпела, на адным месцы.

…Праз тыдзень недзе я пазнаў у тым жа тралейбусе мужчыну, які абураўся паводзінамі дзяўчыны. Павіталіся, як старыя знаёмыя. Разгаварыліся. Прыгадалі і выпадак з кампасціраваннем талончыка.

— У той гісторыі ёсць працяг, — хітравата-загадкава паглядзеў на мяне мужчына. — Калі цікава, то раскажу. Не паверыце, але так было. Кіно дый толькі! Учора мой сын прыводзіць тую самую дзяўчыну дадому і заяўляе: мама, тата, пазнаёмцеся — Аксана, мы вырашылі пабрацца шлюбам. У мяне, адчуў, адразу падскочыў ціск, а дзяўчына — ну ці не нахабніца? — зрабіла выгляд, што ўпершыню мяне бачыць. Я нічога не адказаў сыну, моўчкі выйшаў з пакоя… Памыліўся я тады, ніякая яна не студэнтка, робіць на пошце апператарам… Вось так, братка… А з сынам я яшчэ добранька пагавару. Выберу час і пагавару. Трэба ратаваць хлопца… Хаця ж ці слухаюцца яны нас, маладыя?

### 2

Недзе ўвосень перабіраем з жонкай грыбы. Яна ў мяне з-пад Іжэўска, і таму гамонка больш пра тамтэйшыя грыбныя мясціны. Яшчэ б не! Бываў, бываў у лесе, ведаю: ёсць чым пахваліцца Валянціне — сапраўды, грыбоў там больш, бо і лясоў жа больш. А грыбнікоў, мусіць жа, стольнікі. Таму ўсё зразумела.

Каб не гэтыя грыбы, то і не пагаманілі б. Калі б яшчэ мы селі насупраць адно аднаго ды сталі ўспамінаць-прыгадваць? Няма ж часу! То тэлевізар, то камп'ютар, то кухня, то паход у краму… А тут грыбы прывязалі да стала. Дзякуй грыбам!

Жонка расказвае — у які ўжо раз! — пра свой род, пра дзяцінства, пра школу. Дарэчы, каля той школы, дзе яна вучылася, я праходзіў неяк і звярнуў увагу на шыльду, з якой даведаўся, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны там працаваў вядомы педагог-наватар з Кіраваградчыны Васіль Сухамлінскі.

Грыбы перабралі. А я не спяшаюся з-за стала. Гляджу на жонку і злёгку ўсміхаюся: стаяла, аказваецца, і ты ў куце. Прыгадаў і я кут у класе, у якім стаяў. Было. Толькі, у адрозненне ад жончынага класа, я не бачыў краем вока праз шыбіну, як бурылі царкву. Проста ў нас кут быў цёмны, ды і не было ў вёсцы царквы. Валі ж пашанцавала: нііхто з аднакласнікаў не бачыў, а яна — бачыла. Сфатаграфавала ў памяці той момант на ўсё жыццё.

А за што, пытаецеся, паставілі ў кут? Не магла вымавіць літару «р», а настаўніцу звалі Праскоўя Хрыстафораўна. Тая нічога не прыдумала лепшага, як пакарыць: «Пакуль не звернешся да мяне як трэба, стой у куце!»

Іншы раз з кута, аказваецца, далёка бачыцца… І на ўсё жыццё.

### 3

Была восень, халодная і дажджлівая. Амаль з усіх дрэў лісце асыпалася, услала дол жоўтым дыванком, і калі б дзе ў горадзе, то яго б, лісце тое, даўно згрэблі і адвезлі прэч з вачэй, а тут, у вёсцы, каля гэтае хаты няма каму прыбраць: памерлі даўно гаспадары. Хатка ж таксама ледзьве ліпіць на гэтым свеце — варта, здаецца, разгуляцца больш-менш моцнаму ўрагану, і ён спляжыць яе.

Якраз вось у такі восеньскі час і завітаў да хаты дзеда Саўкі і бабкі Ганны ўнук Іван Дзмітрыевіч Гапееў. Жыве ён у Санкт-Пецярбургу, ваенны пенсіянер. Ніколі не думаў, што звяжа свой лёс з арміяй, а так атрымалася, што пасля вучобы ў Брэсцкім ПТВ радыёэлектронікі хлопцу прапанавалі ў ваенкамаце паступаць у вайсковае вучылішча. Паслухаўся і не прагадаў, бо там ён цалкам, як аказалася, знайшоў сябе, шчодра рэалізаваў свой талент: мае шэраг вынаходніцтваў, некалькі ўзнагарод, даслужыўся да падпалкоўніка. Што б, здавалася, яшчэ трэба чалавеку? Пенсія неблагая, дочкі выйшлі замуж. Аднак не дае спакою родная бацькоўская зямля, прыходзіць не толькі ў сны, а пастаянна вярэдзіць душу. І пры першай магчымасці Іван Дзмітрыевіч стараецца наведацца ў вёску Іскань, што на Быхаўшчыне. Пастаіць каля магілак дарагіх людзей… А потым пойдзе да хат. Хаты — праз дарогу адна ад адной, насупраць. Бацькоўская з блокаў, не дужа яшчэ старая, таму ў ёй жывуць сёння чужыя людзі. А дзядулева з бабуляй — вось яна, адчыняй, заходзь. Яна — твая. Сёння, заўтра… назаўсёды. Зайсці хіба? Не, не хапае духу. Ці вытрымае сэрца? У гэтай хаце прайшло ягонае дзяцінства. Там усё так, як было, забралі толькі карткі са сцяны. Тая ж печ, той жа ўслон, той жа стол, той жа ложак… І — ціш-цішыня. Хоць, калі прыкласці вуха да сцяны, то можна, пэўна ж, пачуць, як гудзе плача хата. Няпроста глядзець на ўсё гэта. Цяжка.

У той апошні свой прыезд Іван Дзмітрыевіч папрасіў у суседа лом і шчэпці і сарваў з дзвярэй сенцаў клямку. Ён вёз яе ў Санкт-Пецярбург як самую каштоўную рэч. І ўзгадваў людзей, што браліся за клямку. І яму ад гэтага рабілася неяк светла на душы…

Цяпер яна будзе ў яго на дачы. Адчыняючы там дзверы, ён возьмецца за клямку і абавязкова адчуе цеплыню рук самых дарагіх яму людзей…

### 4

Максім Сцяпанавіч ездзіў да ўнукасалдата ў суседні горад, а калі вярнуўся, то доўга абураўся:

— Пазнаёміўся з камандзірам роты. Хлопец быццам бы нічога, талковы. Толькі адзін недахоп мае… І сур'ёзны. Салдат не ведае. «Радавы Пятроў» — і ўсё. Гэтага мала, сябра, ой як мала! Я ж, калі дырэктарам школы працаваў, кожнага вучня ведаў — як зваць, хто бацька, хто маці… Што п'юць і што ядуць… А ён пра майго ўнука і сказаў толькі ўсяго: "А, радавы Канцавы? Ён у трэцім узводзе, зараз паклічам". Я пацікавіўся: служыць Паўлік ужо паўгода, як ён? Камандзір паціснуў плячыма: узводны раскажа, ён бліжэй да салдата. Ён, бачыце, бліжэй… А што табе перашкаджае быць бліжэй? Э не, так нельга, братка. А ў мяне ж у школе было ў два разы больш чалавек, чым у роце, мабыць… Ды яшчэ настаўнікаў колькі…

Максім Сцяпанавіч вельмі шкадаваў, што не сказаў усяго гэтага ротнаму. І даў сабе слова зрабіць гэта, калі паедзе яшчэ праведаць унука. Праўду ж кажуць у народзе: «Добрая мысля прыходзіць апасля».

### 5

Атрымалася так, што ў Грышачкіна забралі вадзіцельскае пасведчанне. Міліцыянер ДАІ паднёс да яго рота трубачкуалкатэст, загадаў дыхнуць. Грышачкін і сам адчуваў, што пасля ўчарашняй п'янкі вынік будзе станоўчы. Спрачацца не стаў — дыхнуў. Гэта каб у яго была не фура, а легкавік, на якім ездзіць можна хіба што на рыбалку і па грыбы, ён бы і не бедаваў асабліва. Але ж яму трэба карміць сям'ю. Нічога іншага, як круціць «абаранак», рабіць не ўмее. Перад яго вачыма ў той час, калі стаяў твар у твар з міліцыянерам ДАІ, паплылі кругі, і ён нават пахіснуўся. Адразу ж убачыў раз'юшаны твар жонкі, якая, дарэчы, учора ў кампаніі — хто прыдумаў гэты дзень нараджэння адзначаць у нядзелю, перад працай, папытаць бы! — перасцерагала яго: «Міця, хопіць! Заўтра ж табе за руль!..»

Не паслухаўся, аднак. Што ж і сапраўды цяпер рабіць, як шукаць выйсце з гэтай складанай сітуацыі? Жонка пакрычала-павыхоўвала мужа, але ж і сцяміла, што адным крыкам справу не вырашыш, і яны селі за стол і доўга меркавалі: да каго б звярнуцца, каб паспрыяў вярнуць пасведчанне? Перабралі ўсіх сваякоў і знаёмых — няма такіх. Аднак потым жонка ўспомніла, што некалі вучылася ў адным класе з хлопцам, які цяпер займае высокую пасаду. Хіба да яго падысці? Усё ж — аднакласнік, зямляк. Ды і Міця павінен яго ведаць — у вёсцы ж сустракаліся, і не раз. Таму настрой у мужа і жонкі адразу падняўся, і яны сабраліся да свайго выратавальніка. І той увайшоў у становішча, паспрыяў, каб пасведчанне вадзіцеля Грышачкіну вярнулі.

Атрымаўшы дакументы, шчаслівы Грышачкін павёз неўзабаве груз у Маскву. Там яго сустрэў прадстаўнік фірмы, для якой прызначаўся груз, і прапанаваў спярша паснедаць (была раніца), а тады і заняцца справамі. Перакусілі паблізу ў кавярні, а калі вярнуліся, грузу ў фуры не аказалася. Больш цяжкай хвіліны ў жыцці шафёра не было. Знік груз на дваццаць тысяч долараў! Кінуліся туды-сюды — нічога не дапамагло. Так ні з чым і вярнуўся ў свой горад Грышачкін. Але дамоў не паехаў. Паехаў да жончынага земляка, увайшоў у кабінет, не зважаючы на пярэчанні сакратаркі, і з парога накінуўся на яго:

— Што ж ты нарабіў, землячок?! Навошта ты вярнуў мне правы? Навошта, я ў цябе пытаю, а?!

І, няўпэўнена ступаючы, Грышачкін пакінуў кабінет, нічога больш не сказаўшы чалавеку, які некалі выручыў яго з бяды. Але ж хто думаў, што да другой бяды, яшчэ больш жорсткай, цяжкай, так блізка — усяго адзін крок?..

### 6

На кавеньку, якая сіратліва стаяла, прыткнутая да касы, у краме адразу звярнулі ўвагу.

— Чый гэта кіёк? — першай узяла кавеньку адміністратар залы (так у яе было напісана на жэтончыку, прымацаваным да жакета).— Людзі, чый гэта кіёк?

Людзі ж праходзілі міма. Той-сёй моўчкі паціскаў плячыма, нехта раіў пачакаць, мауляў, хто забыўся — вернецца сам, забярэ, бяды тае.

Прайшло некалькі дзён. Па кавеньку так ніхто і не прыйшоў. Але яе не прыбіралі з віднага месца — а раптам знойдзецца гаспадар?

А жанчына з жэтончыкам на жакеце паглядзела аднойчы на кавеньку, усміхнулася і прамовіла сяброўкам:

— А ведаеце, некаму яна ўжо і не трэба, мусіць? Калі забыліся… Чалавек, значыць, паправіўся, не хварэе… А каб няможна было яму ісці ад нас, з крамы, дадому — адразу б успомніў пра яе. На аднаго здаровага чалавека, выходзіць, стала больш. Гэта ж вельмі добра!

### 7

Я сустрэў Івана на аўтавакзале. Колішні сусед па лесвічнай пляцоўцы, ён неяк ціха, непрыкметна выпаў з майго жыцця. Так бывае, калі чалавек не пакажацца табе на вочы колькі дзён, а то і тыдняў, запар. Паступова і пра Івана я забыў. Сапраўды ж, толькі вось сустрэўшы цяпер яго, я ўспомніў, што жылі некалі побач, колькі разоў, калі былі маладзейшымі, нават адзначалі сем'ямі нейкія святы — то ў яго, то ў мяне.

— Ты куды гэта, Іван? — калі парукаваліся, паглядзеў я на ягоныя баулы.

— Дамоў еду, — ціха прамовіў мужчына.

— А дзе, прабач, цяпер твой дом?

— Там, дзе жыве мама… — прамовіў былы сусед, па голасе цяжка было зразумець, ці ён рады, ці засмучаны, і заспяшаўся на аўтобус: акурат аб'явілі пасадку на ягоны рэйс.

Я хацеў дапамагчы, паднесці былому суседу торбы, але не паспеў.

Увечары расказаў жонцы, што сустрэў Івана.

— Шкада чалавека, — уздыхнула яна. — І не п'е, і не курыць — што яшчэ бабе трэба было? Дык не, збілыталася з другім, ты ж ведаеш… Не пашанцавала Івану, калі і з другой шлюбам пабраўся: піць пачала, кажуць, запоем, не працуе, цягне рэчы з кватэры… Ты хіба не чуў?

Не, пра другую не чуў. Ну, а пра Верку я, канечне, усё ведаю. Новы абраннік, дарэчы, даў неўзабаве лататы, Верка засталася адна.

Але цяпер Іван ужо добра ведаў, дзе ягоны дом — там, дзе мама.

Мамам нашым помнікі ставіць трэба. Пры жыцці.

# «І сэрца абпалена смагай радка...»

## ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

*Не падсумоўвай*
*паквартальнай зводкаю*
*Таго,*
*што вымяраецца радком.*

**А. Куляшоў**

Аркадзь Куляшоў належыць да тых творцаў, з імёнамі і творамі якіх звязана сусветнае значэнне беларускай літаратуры. Гэта быў чалавек высокага творчага палёту, незвычайнай працавітасці і выключнага душэўнага багацця. «Я на ўсё жыццё абраў дарогу, // На якой калючак больш, чым руж…» — пісаў ён пра сябе.

6 лютага 2014 года Аркадзю Аляксандравічу Куляшову — народнаму паэту Беларусі, двойчы лаўрэату Дзяржаўных прэмій СССР, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы, прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, аўтару шматлікіх зборнікаў вершаў і знакамітых паэм «Аманал», «Варшаўскі шлях», «Хамуціус» і інш. — споўнілася б 100 гадоў.

Святкаванне стагоддзя з дня нараджэння — добрая нагода яшчэ раз асэнсаваць творчыя здабыткі паэта, чыя адметная, непаўторная і глыбока нацыянальная творчасць важкім коласам уплецена ў вянок беларускай паэзіі. «Спадарожнічаючы нам з дзяцінства, са школьных год, паэзія А. Куляшова нязменна хвалюе актыўнасцю ідэйнага пошуку, багаццем і дасканаласцю мастацкіх вобразаў, саграе сваёй непадробнай чалавечнасцю, наталяе прагу хараства», — пісаў пра яго творчасць Уладзімір Гніламёдаў.

Аркадзь Куляшоў нарадзіўся 6 лютага 1914 г. у вёсцы Саматэвічы Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і настаўнікаў. Вучыўся ў Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме, на літаратурным факультэце Беларускага вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску. Працаваў у рэдакцыі газеты "Чырвоная змена", на Беларускім радыё, літкансультантам пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі. У гады Вялікай Айчыннай вайны працаваў у рэдакцыі армейскай газеты «Знамя Советов» і ў Беларускім штабе партызанскага руху. Пасля вайны быў рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва», галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм». У 1968 годзе Аркадзю Куляшову было прысвоена званне народнага паэта Беларусі. Яго не стала ў лютым 1978 г. Ён толькі два дні не дажыў да свайго шэсцьдзесят чацвёртага дня нараджэння.



Паэтычная дзейнасць Аркадзя Куляшова адлюстравала найбольш складаныя і пераломныя перыяды нацыянальнай гісторыі. Яна вызначаецца глыбінёй ведання жыцця беларускага народа і асаблівасцей народнай душы.

Творчы шлях паэта выразна падзяляецца на тры асноўныя перыяды: даваенны, ваенны і пасляваенны. Першы з іх — 1920 — 30-я гады — этап творчага сталення паэта. Гэта даволі значная частка жыцця творцы — ад вершаў «Дарога», «Астраном» і інш. да зборніка «Юнацкі свет». Аркадзь Куляшоў выступаў у ім як паэт-наватар. Ён шукаў новыя мастацкія сродкі, асэнсоўваў сваё месца ў літаратуры, вызначаў ідэйна-мастацкія прынцыпы, складаў праграму будучай творчасці, выпрацоўваў адметныя мастацкія манеры. Вершы «Млын», «На сотай вярсце», «Мастацкія хмарка», «Плыла, цалавалася хмара з зямлёй...», «Мая Бесядзь», што ўвайшлі ў гэты зборнік, А. Куляшоў у аўтабіяграфіі вылучыў асобна, адзначыўшы, што, па прызнанні крытыкі, менавіта ў іх ён «знайшоў свой паэтычны голас». Гэта была паэзія пошукаў і перажыванняў маладой асобы, яе культурнага і духоўнага росту, якая прыцягвае чытача поўнай самабытнасцю, адсутнасцю перайманння і штучнасці. Нават Якуб Колас адзначыў, што паэт «ідзе нейкім новым, сваім шляхам, шукае новых сродкаў для рэалізацыі сваіх творчых замыслаў».

Да гэтага ж перыяду належыць і знакаміты верш «Бывай…», які быў напісаны чатырнаццацігадовым юнаком і дзякуючы Ігару Лучанку ў пачатку 70-х гадоў стаў песняй, поўнай лірычнага суму па няспраўджаным каханні:

*Пайшла ты, любая,*
*пад гоман жоўтых сосен,*
*Пайшла, маўклівая,*
*пад хваль жытнёвых шум,*
*Туды, дзе гойдала зялёнае калоссе*
*На сцежках ростані*
*мой адзінокі сум.*

*Пайшла за ціхія,*
*далёкія прасторы*
*Світальнай зоркай ты,*
*што гасне ў сіняве.*
*Душы пакрыўджанай*
*гарачыя дакоры*
*Слязой халоднаю*
*застылі на траве.*

Важкім набыткам не толькі айчыннай, але і сусветнай літаратуры сталі творы Аркадзя Куляшова, напісаныя ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Узнаўляючы суровыя фрагменты ваеннага жыцця, і не толькі франтавога, паэт імкнецца да пазнання ўсеагульных ісцін, асэнсавання экзістэнцыяльных праблем. Паэмы «Сцяг брыгады», «Прыгоды цымбал», вершы «Над брацкай магілай», «Балада аб чатырох заложніках», «Ліст з палону» належаць да лепшых узораў паэзіі. Мужная непахіснасць, гарачы патрыятызм, душэўны боль за тых, хто трапіў у фашысцкую няволю, — галоўныя матывы гэтых твораў. Непасрэдны франтавы досвед, глыбокі роздум пра гістарычны лёс народа, цяжкасці паўсядзённага жыцця, імкненне гранічна шчыра, праўдзіва асэнсаваць «свет вялікі і цяжкі» знайшлі ў іх мастацкае ўвасабленне:



*Фота Уладзіміра Крука*

А. Твардоўскі, А. Куляшоў, М. Лынькоў (на першым плане).

*Мы без слёз іх хаваем,*
*Памятаем*
*Пра свой абавязак,*
*Нашы слёзы саромяцца*
*мужных вінтовак і касак.*
*Мы не плачам, хоць знаем,*
*не проста салдацкія косці*
*Засыпаем мы жвірам халодным,*
*а большае штосьці...*

Вяршыняй творчасці гэтага перыяду з'яўляецца паэма «Сцяг брыгады» — помнік духу чалавека на вайне. У паэме, напісанай у 1942 г. на Калінінскім фронце, адлюстраваныя падзеі першага ваеннага паўгоддзя. Аўтар апявае духоўныя каштоўнасці народа — вальналюбства, высакароднасць, працавітасць, чалавечую годнасць. А. Твардоўскі паэму «Сцяг брыгады» назваў «голасам сэрдца, напоўненага болем за родную беларускую зямлю, плачам па ёй і гарачай, светлай верай у яе сілы да барацьбы, у яе вызваленне».

Паэзію Аркадзя Куляшова пасляваеннага перыяду, перыяду творчай сталасці, калі яна дасягнула найвышэйшага ўзроўню мастацкасці, выразна вылучаюць інтэлектуалізм і філасафічнасць. І разам з тым яна заўсёды цесна перапляталася з рэальнасцю, была вельмі зямной па сваёй сутнасці. Літаратурным *credo* А. Куляшова сталі адмаўленне няшчырасці і адказнасць за кожнае прамоўленае слова.

У першыя пасляваенныя гады паэт піша пра вяртанне жыцця на руіны. Ён часцей звяртаецца да публіцыстычнага верша, а таксама да жанру балады, якая дазваляе рабіць шырокія філасофскія абагульненні (зборнікі «Новая кніга», «Хуткасць»). Пра што б ні пісаў А. Куляшоў — пра далёкія планеты ці жыццё на зямлі — ён заўсёды перадае найважнейшыя ідэйныя прынцыпы чалавечага жыцця. Не абыходзіць увагай і тэму прызначэння Паэта на Зямлі: («Ёсць у паэта свой аблог цалінны...», «Парада сабе самому», «Хуткасць», «Зайздрошчу я мастам...»):

*Свет будзе пець,*
*смяяцца, слёзы ліць*
*Датуль,*
*пакуль на свеце людзям жыць.*
*Сабрат мой па пяру, на суд іх смела*
*Вынось усё, што ў сэрцы набалела.*
*Слёз не стрымаеш — плач,*
*але не тою,*
*Пад пачуццё падробленай слязою,*
*А той,*
*што смех вяртае з небыцця.*

Лірыцы таго часу характэрныя роздум і шырокія абагульненні. Напрыклад, у вершы-споведзі «Спакойнага шчасця не зычу нікому» раскрыта пазіцыя чалавекастваральніка, які заўсёды імкнецца наперад, актыўна змагаецца за шчасце.

У вершы «Я хаце абавязаны прапіскаю» перад чытачом праходзіць усё жыццё лірычнага героя, а лёс асобнага чалавека зліваецца з лёсам народа. Апошняя страфа верша — адкрыты зварот ад імя былога воіна да ўсіх, ад каго залежыць захаванне жыцця на Зямлі, увага акцэнтуецца на адказнасці за лёс будучыні Чалавецтва:

*Пазбавіўшы ад грознага відовішча*
*Свет, не дазволю я, каб дым і пыл*
*Зямлю ператварылі*
*ў бамбасховішча,*
*Мільярд прапісак —*
*у маўклівы прысак,*
*Мільярд калысак —*
*у мільярд магіл.*

У 1965 г. А. Куляшоў напісаў цыкл вершаў, аб'яднаных агульнай назвай «Маналог». Ён прысвечаны памяці сяброў-паэтаў З. Астапенкі і Ю. Таўбіна. У вершах «Маналогу» — сцвярджэнне паэтам непераможнай сілы праўды і справядлівасці, роздум пра маральны абавязак людзей перад памяццю загінуўшых, пра адказнасць творцы перад чытачом і часам:

*Нашто мне зрок,*
*навошта гучны крок,*
*Хвілін імклівасць, цішыні хвіліны,*
*Турботы дня, апошнія навіны,*
*Крывёй не перагнаныя ў радок?*

«Маналог» напоўнены глыбокім асабістым перажываннем, вернасцю былому сяброўству і агульнай справе: «Я — ваша памяць, вы — маё сумленне, // Я — дрэўка, вы — трывалы сцяг на ім». Загінуўшых сяброў ён называе лістамі без дрэў, кнігамі без старонак, дарогамі без слядоў, і таму сваім грамадзянскім і маральным абавязкам лічыць працяг іх справы. Вячаслаў Рагойша назваў гэты цыкл паэмай.

«Лірычны герой паэта — асоба касмічнай значнасці, яго думка валадарыць у самых шырокіх прасторавых каардынатах. Ён паўстае як прадстаўнік сферы чалавечага розуму, высока арганізаванай сістэмы духоўна-энергетычных сувязей з Космасам, носьбіт эмацыянальна-інтэлектуальнай інфармацыі аб прасторы, часе, будучыні», — слушна заўважыў Алесь Бельскі.

Праблемы вайны і міру, захавання чалавецтва, зварот да падзей айчыннай гісторыі — пра гэта і многае іншае Аркадзь Куляшоў гаворыць з надзвычайнай мастацкай сілай і глыбінёй. У 1960 — 1970-я гады паэт піша паэмы «Цунамі», «Варшаўскі шлях», «Хамуціус», у якіх перадае самаадчуванне чалавека ў трывожны, непрадказальны час, яго барацьбу за будучыню без вайны і ўсеагульнае шчасце.

Аркадзь Куляшоў загартоўваў талент у перыпетыях жыцця, якімі пазначана XX стагоддзе, таму яго паэзія да сёння шмат у чым засталася вызначальнай для нацыянальнай ідэнтыфікацыі. Менавіта гэта тлумачыць актуальнасць творчасці Аркадзя Куляшова, ставячы тым самым яго ў шэраг класікаў беларускай літаратуры. У сувязі з гэтым вельмі нелагічным бачыцца той факт, што на паліцах бібліятэк і шчырых прыхільнікаў яго паэзіі да гэтага часу адсутнічаюць тамы Поўнага збору твораў Аркадзя Куляшова.

Адзначаючы шматграннасць таленту Аркадзя Куляшова, неабходна яшчэ раз падкрэсліць, што гэта быў не толькі тонкі лірык, але і паэт-эпік, літаратуразнаўца, перакладчык і кінасцэнарыст. Акрамя таго, ён перакладаў творы Івана Катляраўскага, Аляксандра Пушкіна, Міхаіла Лермантава, Сяргея Ясеніна, Міхаіла Ісакоўскага, Тараса Шаўчэнкі, Андрэя Малышкі, Кайсына Куліева, Генры Лангфела, Расула Гамзатава і інш. Рабіў і аўтапераклады.

Шчодрасць таленту і цеплыню душы Аркадзь Куляшоў назаўсёды пакінуў сваім чытачам. Пімен Панчанка ў вершы-прысвячэнні «Куляшову» яшчэ раз падкрэсліў значнасць і непаўторнасць гэтай спадчыны:

*Пад сонцам*
*І пад небам перуновым*
*Цяжэй нам без цябе пісаць і жыць...*
*І кружыцца планета Куляшова,*
*І песня пра Алесю ўсё звініць.*

**Алена МАНКЕВІЧ**

# Бясконца дарагая і родная

У нашым сямейным альбоме захоўваецца фотаздымак, які да сям'і нашай не мае аніякага дачынення. На адвароце яго напісана: «Л. В. Хрищенович на память о знакомстве с Алесей». Ніжэй — подпіс і дата: 11.5.84 г.

Гэта фота той самай Алесі, якой Аркадзь Куляшоў прысвяціў ці не самы знакаміты свой верш. Алесі, цёплыя пачуцці да якой ён пранёс праз усё жыццё. Як жа трапіў гэты здымак у наш альбом?

У 1980-я гады Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук рыхтаваў выданне збору твораў Аркадзя Куляшова, у які павінна была ўвайсці эпісталярная спадчына паэта. Збор гэтай спадчыны даручылі мне, тады малодшаму навуковаму супрацоўніку аддзела тэксталогіі і выданняў. Падчас работы даводзілася сустракацца з многімі пісьменнікамі, з людзьмі, якія добра ведалі паэта ці сябравалі з ім. Але ніводная не ўразіла мяне так моцна і не запомнілася так добра, як сустрэча ў Роўна з сяброўкай дзіцячых і юнацкіх гадоў Аркадзя Куляшова Аляксандрай Васільеўнай Карыткінай (па мужу Белазоравай). Сустрэча гэта адбылася 10 мая 1984 года.

Дабралася я ў Роўна познім вечарам. Без цяжкасцей адшукала патрэбны дом на вуліцы Бялінскага. Дзверы адчыніла маладая сімпатычная жанчына, як потым высветлілася, Кацярына Мікалаеўна Белазорава, дачка Аляксандры Васільеўны. А потым выйшла пажылая кабета невялікага росту, сціпла апранутая, з гладка зачасанымі і сабранымі на патыліцы чорнымі валасамі. «Мы вас чакалі», — ціха сказала яна і падала руку. Гэта была Алеся.

Мяне гасцінна запрасілі да познюю вячэру. Напачатку адчувалася скаванасць і насцярожанасць. Вяліся самыя розныя размовы: як дабралася, як жыццё, якое надвор'е ў Мінску... Ні слова пра Аркадзя Куляшова. У вачах гаспадыні я заўважыла расчараванне: відаць, чакалі салідната навукоўца, а прыехала дзяўчо. У той вечар гаворка пра Куляшова так і не атрымалася, мы дамовіліся сустрэцца назаўтра раніцай.

Аляксандра Васільеўна пачала з таго, што паклала на стол агульны сшытак, у якім, як яна патлумачыла, занатаваны яе ўспаміны. Дрыготкімі пальцамі адгарнула яго і, сказаўшы: «Я нікому гэтага не чытала, нават сваім. Вы першая»,— пачала чытаць. Але чытала нядоўга, бо слёзы душылі яе: «Прабачце, я зараз...» Яна вярнулася праз колькі хвілін, знешне спакойная, засяроджаная. Кожны ліст Аляксандра Васільеўна чытала сама, уголас, не спяшаючыся, нібы развітваючыся. Сустрэцца з Аркадзем Куляшовым мне не давялося, і па лістах, якія былі сабраны да паездкі ў Роўна, ён уяўляўся мне чалавекам вельмі стрыманым, негаваркім. І раптам — гэта мора пяшчоты і цеплыні...

Ніколі не забыць мне таго, як цяжка развітвалася з лістамі Аляксандра Васільеўна, як, ужо аддаўшы іх мне, усё яшчэ сумнявалася, ці правільна яна зрабіла.

На жаль, выданне, якое планавалася Інстытутам, па невядомых прычынах так і не пабачыла свету. А што з лістамі Куляшова? Праз некаторы час Аляксандра Васільеўна, з якой мы актыўна ліставаліся, стала настойваць на тым, каб я вярнула іх назад, бо без іх яна адчувала «пустэчу ў душы». Я вымушана была задаволіць яе просьбу. Пры гэтым, прызнаюся, некаторыя з лістоў перапісала. Сярод іх ліст, у якім ідзе гаворка пра вядомы верш-песню «Згадай»:

*«Дарагая Саша!*

*Пасылаю табе песню-верш, які ты чула ў выкананні Пархоменкі. Сам я яшчэ не чуў, але мне гаварылі, што выкананне добрае. Верш гэты напісаны ў 1959 годзе. Але я перарабіў яго ў мінулым годзе; перарабляючы, думаў і пра юнацкія* ***нашы*** *дні. Таму з поўным правам пасылаю табе верш-песню, як выкананне тваёй просьбы.*

*Вітаю цябе з маем і вясной. Хай ураўнаважваецца твая душа пасля цяжкай страты. Якую, я гэта добра ведаю, нічым не ўцішыць.* [Маецца на ўвазе смерць мужа Аляксандры Васільеўны, Мікалая Панцеляймонавіча Белазорава — **Л. Х.**] *Час лечыць раны, а ў нас ужо не так многа яго (часу) у запасе — ні ў цябе, ні ў мяне.*

*Сардэчны табе паклон і хай не абыходзяць цябе добрыя ўспаміны...*

*Аркадзь.*

**З мінулага (Згадай)**

*Калі вясною закукуе*
*Зязюля ў лесе раніцой,*
*Ты прыгадай вясну другую,*
*Сустрэчы нашыя з табой.*
*Згадай усё, што сэрцу міла,*
*Што сэрцу дорага было,*
*Што адцвіло, адгаманіла,*
*Адкукавала, адышло.*
*Ты ўспомні ўсё, што нам жадала*
*Зязюля ў гучным гушчары,*
*Забудзь, што ў хованкі гуляла*
*Жаданне з намі да зары.*
*Забудзь, што рэху не вярнуцца*
*Ні да цябе, ні да мяне,*
*Забудзь... Хай сэрцы адгукнуцца*
*Адно другому па вясне.*



**Ар. Куляшоў**
**23.4.74 г.**
**Мінск»**

Чакаючы лётнай пагоды ў аэрапорце Роўна, я перачытвала лісты Аркадзя Куляшова да Алесі, угледалася ў здымак, падараваны мне Аляксандрай Васільеўнай на развітанне, пра які паэт з пяшчотай пісаў у лісце ад 30.7.71 г.: *«Большое спасибо за фотографию. Она, всякий раз, когда я смотрю на неё, согревает душу чем-то бесконечно дорогим и родным...»*

**Людміла ХРЫШЧЫНОВІЧ**

# Слова пра Куляшова

У 1979 годзе на Касцюкоўшчыне, радзіме Аркадзя Куляшова, быў устаноўлены мемарыяльны бюст паэта. Падчас адкрыцця слова ўзяў Аляксей Пысін, даўні і добры сябар А. Куляшова. Прамова гэтая не друкавалася, але ў архіве Еўдакіі Пысінай, удавы паэта, захаваўся рукапіс. Прапаную яго ўвазе чытачоў.

«Сёлетні год — гэта год Куляшова на Магілёўшчыне, якая з'яўляецца радзімай паэта. На многіх прадпрыемствах, у навучальных установах адбыліся літаратурныя вечары, прысвечаныя 65-годдзю з дня нараджэння нашага вялікага земляка, нашага геніяльнага паэта, памяць аб якім будзе жыць заўсёды. Гэтыя вечары былі сапраўдным святам паэзіі Куляшова. Гучалі цудоўныя вершы нашага земляка, гучала яго цудоўная «Алеся». Кожны раз хвалююць, кранаюць да шчымлівага болю радкі:

*Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая,*
*Чаму так горка, не магу я зразумець.*
*Шкада заранкі мне, што ў небе дагарае*
*На ўсходзе дня майго, якому ружавець.*

Мы ведаем, як высока цанілі творчасць Аркадзя Куляшова яшчэ пры жыцці паэта яго чытачы і крытыкі, калегі і пабрацімы. Даволі ўспомніць артыкулы вялікага рускага паэта Аляксандра Твардоўскага.

У сваёй кароткай аўтабіяграфіі Куляшоў пісаў: «Нарадзіўся я 6 лютага 1914 года на Магілёўшчыне ў мястэчку Самацеевічы Касцюковіцкага раёна». А вось пра тое ж у вершы «Маё пасведчанне» (1951).

*ДАДЗЕНА яно сабе самому*
*Ў тым, што нарадзіўся ў год вайны.*
*Нянек не было ў мяне, вядома.*
*Песень не спявалі мне яны.*
[слова ДАДЗЕНА падкрэсліў Пысін. — **В. А.**]

У куляшоўскіх запісах пра сябе і яшчэ сказана: «Цікавіцца вершамі і спрабаваць пісаць іх пачаў з сямі год, а ў 1926 годзе ў клімавіцкай газеце «Наш працаўнік» быў надрукаваны мой першы верш на беларускай мове».

Міне больш за чатыры дзесяцігоддзі, і вядомы ўсёй краіне беларускі савецкі паэт Аркадзь Куляшоў вернецца ў паэме «Далёка да акіяна» ў гэтую найважнейшую для яго пару, калі да яго, хлапчука, сына местачковых настаўнікаў, упершыню з'явілася муза, каб ужо ніколі з ім не раставацца.

У аўтабіяграфічных заметках Куляшова пра свой ранні вырай сказана вельмі сціпла: «У 1928 годзе пасля заканчэння Самацеевічскай сямігодкі я працягваў сваю вучобу ў Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме. У тыя гады Мсціслаў быў своеасаблівым цэнтрам пачынаючых паэтаў і празаікаў, якія гуртаваліся вакол студыі «Маладняка» — самай масавай тагачаснай літаратурнай арганізацыі ў Беларусі. Тут я пазнаёміўся з таленавітымі паэтамі Юліем Таўбіным і Змітраком Астапенкам, вершы якіх друкаваліся ў цэнтральных газетах і часопісах. Юлій Таўбін і Змітрок Астапенка былі старэйшымі за мяне. Творчая дружба з больш вопытнымі таварышамі станоўча ўплывала на далейшае развіццё маіх паэтычных здольнасцей».

Аднойчы Аркадзь Куляшоў, ведаючы, што я з суседняга Краснапольскага раёна, спытаў у мяне: «Ведаеш Касцягаўку?» Касцягаўка — гэта вёска цяперашняга нашага Высокаборскага сельсавета, ад мае роднай вёскі яна — кіламетрах у сямі. «Дык я ў Касцягаўку, — сказаў усміхаючыся Аркадзь Аляксандравіч, — на вечарынкі бегаў». Так і сказаў: «Бегаў». І я ўявіў маладога Аркадзя Куляшова, прыгожага, па-камсамольску бадзёрага і жыццярадаснага. Увявіў яго як вясковага хлопца. Але ўжо вядомага маладога паэта, які весела гуляў на вясковай вечарынцы, танцаваў з дзяўчатамі, смяяўся, жартаваў. Пра гэта сам ён добра сказаў у сваім вершы пра вясковага музыку:

*І я з ім сябраваў, і я спяваў «Да саду»,*
*І ў бубен падбіваў, і танцаваў да ўпаду.*

Так, ужо да вайны Аркадзь Куляшоў быў вядомым паэтам у нашай рэспубліцы. Ім былі напісаны і выдадзены кнігі «Росквіт зямлі» (1930), «Па песню, па сонца» і «Медзі дождж» (1932), паэмы «Аманал» (1933), «Добры чалавек» і «Баранаў Васіль» (1941).

Мне і майму пакаленню асабліва запомніўся даваенны верш Куляшова «Ранак»:

*Выходжу я ў разведку —*
*Рашучы заўтра бой.*
*Ты, ранак, будзь за сведку,*
*Услед ідзі за мной.*
*З табой у згодзе поўнай*
*Жылі мы з першых дзён.*
*У барацьбе няроўнай*
*Я трапіў у палон.*
*І рукі мне звязалі,*
*І ў плечы б'е прыклад.*
*«Вядзі! — мне загадалі, —*
*Паказвай шлях назад!»*
*Ты ранак мой вялікі: у час маіх няўдач*
*Пад ногі кідай пікі, дарогі перайнач.*
*Дзе рэчку помніў розум, там возера кладзі,*
*Дзе корч —*
*з карча бярозу на месцы тым радзі.*
*Дупло зрабі з засечкі,*
*хай птушка ў гэты дзень*
*Туды свае яечкі блакітныя кладзе.*
*У родную краіну дарогі перайнач.*
*А я? А я загіну.*
*А ты? А ты не плач.*

Верш «Ранак» напісаны ў 1940 годзе, за год да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. А ў гэты час грымела на свеце Другая сусветная вайна, якая насоўвалася і на нашу краіну. Паэт прадбачыў немінучасць вайны для нас і ўжо ўзбройваўся духам сам, рыхтаваў да суровых выпрабаванняў сваіх чытачоў. Ён прадбачыў вайну вялікую, зацяжную, якая забярэ шмат людскіх ахвяр. Прадбачыў і немінучасць варожага палону. У баявым статуце нашай Чырвонай Арміі палон тады лічыўся немагчымым і не браўся ў разлік. Паэт больш рэальна глядзеў на вайну, на палон і на свае паводзіны ў самых суровых выпрабаваннях. Я лічу, што верш Куляшова «Ранак» быў своеасаблівым пралогам да яго паэмы «Сцяг брыгады», якая была напісана ў верасні-кастрычніку 1942 года. Гэта паэма — геніяльная. Яна да слёз узрушыла, усхвалявала сваіх першых чытачоў — Аляксандра Твардоўскага і Міхаіла Ісакоўскага, шчырых і адданых сяброў Куляшова. Аляксандр Твардоўскі нават браў рукапіс і глядзеў праз яго на святло, каб пераканацца, што сапраўды на гэтай паперы напісаны тыя радкі, з якіх склалася паэма «Сцяг брыгады». Міхаіл Ісакоўскі тады ж, у 1942 годзе, пераклаў паэму на рускую мову, і яна стала вядома ва ўсёй нашай краіне, набыла шырокую папулярнасць і прызнанне, паставіла яе аўтара ў першы шэраг савецкіх паэтаў.

Яшчэ ў юнацтве Аркадзь Куляшоў вызначыў сваё творчае крэда, свой грамадзянскі абавязак, маштаб і мерку патрабавальнасці да сябе:

*Я ўпарты, не кіну пачатае справы,*
*Каменне крышу, разграбаю пяскі.*
*Пад кпіны аматараў лёгкае славы*
*Пракладваю рэчышча ўласнай ракі...*

І гэтым маштабам і меркай патрабавальнасці пазначана ўсё, што Аркадзь Куляшоў паспеў стварыць. А створанае ім — гэта вялікая бібліятэка паэзіі. Гэта 19 яго паэм! 19 паэм стварыў адзін паэт. Такіх прыкладаў мала ўва ўсёй сусветнай паэзіі. Сярод паэм Куляшова такія выдатныя, як «Дом № 24», «Прыгоды цымбал», «Простыя людзі», «Новае рэчышча», «Толькі ўперад», «Далёка да акіяна», драматычная паэма «Хамуціус».

Аднойчы, калі Куляшоў ачуняў пасля цяжкой хваробы, Аляксандр Твардоўскі сказаў яму: «Эх, Аркадий, какие стихи собирался я написать на твою смерть». Але раней памёр Твардоўскі, і Аркадзю Куляшову давялося пісаць развітальнае слова, якім стала яго выдатная паэма «Варшаўскі шлях», прысвечаная Твардоўскаму. Цяжка ў кароткім слове расказаць пра ўсё зробленае Куляшовым.

У асобе Аркадзя Куляшова наша сціплая ў бярозах і соснах зямля магілёўская, зямля беларуская дала свету вялікага паэта.

Беларускі пісьменнік Аляксандр Капусцін у лютым мінулага [1978. — **В. А.**] года быў разам з Куляшовым у санаторыі «Нясвіж». Ён быў тым чалавекам, які бачыў Куляшова перад самым расстаннем з ім. Свае нататкі Капусцін перадаў мне з просьбай, каб я прачытаў іх сёння на радзіме паэта пры адкрыцці яму мемарыяльнага бюста».

Згаданыя нататкі А. Капусціна ў архіве Пысіных не знойдзены. Іх тэкст можна знайсці ў кнізе А. Капусціна «Перад расстаннем» (1989, с. 265 — 270).

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ**

# Дзённік Анны Франк

**Роўна 70 гадоў таму, у яе трынаццаты дзень нараджэння, бацькі падарылі Анне Франк невялікі клятчасты дзённік. Тады ніхто не мог уявіць, што гэты сшытак стане адным з сімвалаў самай страшнай трагедыі еўрапейскага яўрэйства. Дзённік, выдадзены пасля смерці Анны ў канцлагеры Берген-Бельзен, стаў бестселерам.**



## ПОМНІК І НАТХНЕННЕ

Масавае вынішчэнне еўрапейскага яўрэйства ў час Другой сусветнай вайны, названае Халакостам, — самы вядомы прыклад генацыду ў XX стагоддзі. Тады загінула шэсць мільёнаў бязвінных людзей. Сярод ахвяр апынулася і Анна Франк.

Яе дзённік выйшаў у Галандыі ў 1950-я гады і сёння перакладзены на 67 моў свету. Па версіі аўтарытэтных перыядычных выданняў (напрыклад, *Le Monde*), «Дзённік Анны Франк» з'яўляецца адной з самых чытаных кніг XX стагоддзя. Гэта адно з выданняў, што змянілі свет.

Дзённік натхніў і працягвае натхняць рэжысёраў, паэты прысвячаюць Анне Франк вершы, а тэатры ставяць п'есы. Дом-музей Анны Франк (Anne Frank Huis), дзе яўрэйская дзяўчынка хавалася са сваёй сям'ёй і пісала дзённік, стаў адным з сімвалаў Амстэрдама.

Запісы Анны Франк часта даследуюцца як літаратурны помнік. Яны — узор духоўнага выхавання, прыклад талерантнасці, крыніца звестак пра ўнутраны свет падлетка, які міжволі апынуўся ў цяжкіх абставінах. Ніводны дзённік не атрымаў такога распаўсюджання, ні па адным не было напісана столькі навуковых прац, ні адзін не абудзіў такой працяглай і супярэчлівай палемікі.

## ГІСТОРЫЯ АДНОЙ СЯМ'І

Анна Франк нарадзілася 12 чэрвеня 1929 года ў Франкфурце-на-Майне. У яе была сястра, Марго Франк (1926 г. н.). Бацька, Ота Франк, паходзіў з інтэлігентнай яўрэйскай сям'і банкіра Міхаэля Франка і хатняй гаспадыні Эліс Штэрн. Ота Франк атрымаў адукацыю ў Гейдэльбергскім універсітэце, праходзіў стажыроўку ў Нью-Ёрку. У час Першай сусветнай вайны быў прызваны ў нямецкую армію, дзе даслужыўся да лейтэнанта. Пасля вайны Ота Франк прыняў кіраўніцтва сямейным банкам. Маці Анны, Эдзіт Холендэр, паходзіла з сям'і паспяховага бізнесмена Абрахама Холендэра і хатняй гаспадыні Розы Штэрн.

Пасля прыходу Адольфа Гітлера да ўлады ў Германіі пачалі ўводзіцца дыскрымінацыйныя законы супраць яўрэйскага насельніцтва. Ота Франк, своечасова прадбачыўшы катастрофу, эмігрыруе з сям'ёй у Амстэрдам, дзе становіцца дырэктарам акцыянернага таварыства «Апекта». Да шасці гадоў Анна Франк наведвала дзіцячы садок пры школе Мантэсоры, там жа пайшла і ў першы клас. У Мантэсоры яна правучылася шэсць гадоў, пасля чаго была вымушана перавехаць у яўрэйскі ліцэй.

У маі 1940 года Германія акупіравала Нідэрланды, і акупацыйны ўрад пачаў праслед яўрэйскага насельніцтва. У маі 1941 года сям'я Франк спрабавала выехаць у ЗША, але атрымала адмову. У ліпені 1942 года Франкам прыходзіць павестка ў гестапа — на імя Марго. І тады, ратуючыся, уся сям'я селіцца ў схovішчы. Дапамаглі ім супрацоўнікі фірмы «Апекта», дзе, як мы ўжо казалі, спадар Ота Франк быў дырэктарам. На былой кватэры Ота пакінуў запіску, маўляў, уся сям'я эмігрыравала ў Швейцарыю. 13 ліпеня да іх далучылася сям'я ван Пельс: Герман, яго жонка Аўгуста і сын Петэр. Незадоўга да гэтага Менеер ван Пельс, які ведаў, што насамрэч сям'я Франк стаілася ў сховішчы, распусціў сярод знаёмых чуткі, што Франкі з'ехалі ў Швейцарыю. 16 лістапада 1942 года ў сховішчы з'яўляецца восьмы жыхар — дантыст Фрыц Пфефер.

У 1944 годзе ўлады атрымалі данос пра групу яўрэяў, і 4 жніўня дом, дзе хавалася сям'я Франк, быў абшуканы галандскай паліцыяй і гестапаўцамі. За кніжнай шафай яны знайшлі дзверы ў сховішча, дзе 25 месяцаў знаходзіліся «нелегалы».

Усе восем чалавек былі выпраўлены ў транзітны канцэнтрацыйны лагер Вестэрборк. Там іх змясцілі ў «штрафным аддзяленні» і накіравалі на самую цяжкую працу. 3 верасня дэпартавалі ў Асвенцым. 93-і састаў, у якім было 1019 чалавек, стаў апошнім эшалонам, што адвозіў галандскіх яўрэяў у лагер смерці, — пасля дэпартацыя з Вестэрборка ў Асвенцым спынілася. Маці Анны хутка памерла. У пачатку 1945 года памерла і сястра Марго, пасля чаго ў Анны канчаткова знікла жаданне супраціўляцца. Праз некалькі дзён яе сяброўкі заўважылі, што адно месца пустуе. Анну яны знайшлі нежывой за межамі лагера. Дакладная дата смерці невядомая, гэта адбылося прыблізна ў пачатку сакавіка 1945-га.



Ужо 15 красавіка 1945 года англічане вызвалілі Берген-Бельзен.

Адзіным членам сям'і, што выжыў у нацысцкіх лагерах, быў бацька Анны, Ота Франк. Пасля вайны ён вярнуўся ў Амстэрдам, потым пераехаў у Базель (Швейцарыя), дзе і памёр у 1980 годзе.

Вядома імя таго, хто знайшоў і адправіў у канцлагер Анну Франк, яе сям'ю і яшчэ некалькіх яўрэяў — гэта эсэсавец Карл Ёзэф Зільбербаўэр, які вылучаўся асаблівай жорсткасцю. Аднак пасля вайны ён не быў асуджаны, наадварот — прыняты на службу ў разведку ФРГ, дзе паспяхова зрабіў кар'еру. За кожнага яўрэя ён атрымаў узнагароду ў сем з паловай гульдэнаў (прыкладна 2 долары). Ота Франк адмовіўся браць удзел у расследаванні, і працэс быў спынены, але ў 1963 годзе яго распачалі зноў. На той час дзённік набыў сусветную вядомасць, і многія патрабавалі пакараць злодзея.

## ЗАПІСЫ З ЗАСЦЕНКАЎ

Спачатку Анна Франк вяла дзённік толькі для сябе. Але вясной 1944 года яна пачула па радыё Араньe (рэдакцыя яго эвакуіравалася ў Англію, адкуль вяшчала аж да канца вайны) выступленне міністра адукацыі Нідэрландаў. Ён заклікаў грамадзян захоўваць любыя дакументы, якія стануць доказам пакут народа ў гады нямецкай акупацыі. Адным з важнейшых дакументаў былі названы дзённікі. Пад уражаннем ад выступлення Анна пачынае перапісваць і рэдагаваць свае нататкі, адначасова працягваючы папаўняць іх новымі запісамі.

Анна вяла дзённік на нідэрландскай мове. Ён складаецца з лістоў, адрасаваных выдуманай сяброўцы Кіці: «Вельмі спадзяюся, што змагу табе давяраць так, як не давярала яшчэ нікому, а ад цябе чакаю дапамогі і падтрымкі». Свой дзённік Анна назвала «Het Achterhuis» (літаральна «У задняй частцы дома»). Першы запіс яна зрабіла на дзень нараджэння, 12 чэрвеня 1942 года. Апошні — 1 жніўня 1944 года.

Насельнікам сховішча юная пісьменніца дае псеўданімы, у тым ліку сабе: спачатку хацела назвацца Аннай Аўліс, потым — Аннай Робін. Сямейству ван Пельс Анна прыдумала імёны Петранела, Ганс і Альфрэд ван Даан. Фрыц Пфефер згадваўся як Альберт Дзюсэль.

«Ніхто б не падумаў, што за простымі шэрымі дзвярыма хаваецца столькі пакояў, — пісала дзяўчынка пра сховішча. — Мінаеш маленькую прыступку, і вось ты ўнутры. Справа ад увахода крутая лесвіца наверх, злева маленькі калідорчык і пакой пары Франк. Пакойчык побач — спальня маладых спадарынь Франк, якая служыць ім таксама кабінетам. Справа ад лесвіцы пакойчык з умывальнікам і асобнай прыбіральняй, з другім уваходам у нашую з Марго спальню. А калі падымешся па лесвіцы, то здзівішся яшчэ больш, пабачыўшы вялікую і светлую залу. Гэта былая лабараторыя, таму там ёсць пліта, рукамыйнік і працоўны столік. Цяпер яна будзе служыць спальняй суджэнцаў Ван Даан, а таксама агульнай гасцёўняй і сталовай. Маленечкі прахадны пакойчык пяройдзе ў распараджэнне Петэра Ван Даана. Акрамя таго, ёсць падстрэшша і мансарда, як і ў пярэдняй частцы дома».

Пры арышце Анне не ўдалося ўзяць з сабой дзённік. Па некаторых сведчаннях яго знайшлі Міп Гіз і Беп Фоскейл, якія дапамагалі жыхарам сховішча. Пасля таго, як пра смерць Анны дакладна стала вядома, Міп Гіз перадала запісы Ота Франку. Падаўшыся ўгаворам сяброў, ён рашыўся на публікацыю дзённіка, аднак выключыў некаторыя фрагменты, у якіх Анна звярталася да тэмы сэксу, бо не хацеў, каб яе разважанні на інтымныя тэмы сталі вядомыя шырокаму колу грамадскасці. Таксама былі апушчаны пасажы, у якіх Анна негатыўна адзывалася пра сваю маці і іншых жыхароў сховішча.

**«Субота, 3 кастрычніка 1942 г.**

*Учора чарговая спрэчка вылілася ў нешта пачварнае. Мама пачала расказваць тату пра ўсе мае агрэхі і пры гэтым страшна расплакалася. Я, канечне, таксама, а ў мяне і без таго ўжо моцна балела галава. Нарэшце я расказала тату, што люблю яго намнога больш за маму. Той адказаў, што з часам гэта міне, але я яму не веру. Я ж цяпер проста вытрымаць не магу маміну прысутнасць і ледзьве стрымліваюся, каб не агрызацца на любую яе рэпліку. Ды я б проста адвесіла ёй аплявуху! Сама не ведаю, чаму яна выклікае ў мяне такое моцнае раздражненне. Тата параіў мне прапаноўваць маме дапамогу, выказваць спачуванне, калі ў яе баліць галава ці яна проста кепска пачуваецца. Але гэта немагчыма: я не люблю яе і не ў стане шкадаваць. Я магу, напрыклад, спакойна думаць пра тое, што мама аднойчы памрэ. Але тое, што гэта здарыцца з татам, мне страшна і немагчыма ўявіць. Так, нізка з майго боку, але нічога не магу зрабіць: я так адчуваю. Спадзяюся, што мама ніколі не прачытае гэтыя радкі».*

Падпраўленая версія дзённіка выйшла ў свет у 1947 годзе. Перад смерцю Ота Франк завяшчаў арыгінал Амстэрдамскаму дзяржаўнаму інстытуту ваеннай дакументацыі. Навукоўцы правялі даследаванне, якое выявіла бясспрэчную сапраўднасць арыгінала. Пасля гэтага быў выдадзены новы варыянт — камбінацыя дзвюх версій дзённіка Анны Франк.

Запісы Анны ўвабралі ў сябе практычна ўсе адценні катастрофы еўрапейскага яўрэйства. 24 снежня 1943 года дзяўчынка зрабіла запіс, поўны горычы:

*«Часам я думаю: зразумеў бы нехта мяне, даравАў бы маю няўдзячнасць, незалежна ад таго, яўрэйка я ці не, і ўбачыў бы ўва мне толькі дзяўчынку, якой так хочацца свабоды і радасці? Не ведаю і не магу гаварыць пра гэта ні з кім, таму што баюся расплакацца».*

Нязвыкла сустрэць у запісах трынаццацігадовай дзяўчынкі падобныя думкі: *«І пастаянна ж чуеш, што мы — усе разам — змагаемся за волю, правы і справядлівасць! І вось ужо зараз пачынаецца раскол, і ў яўрэях бачаць людзей другога гатунку. О, як бясконца сумна, што зноў знаходзіш пацвярджэнне старой прымаўцы: "Калі хрысціянін зрабіў памылку, то ён сам мусіць адказаць за яе. Калі памылку зрабіў яўрэй, то адказваюць усе яўрэі"».*

Сёння Анна Франк не проста яўрэйская дзяўчынка, якую паглынула полымя вайны. Яна — сімвал барацьбы за сваю індывідуальнасць, свой народ і сваю веру.

**Аляксей ЖАБІНСКІ**

# Прыцягальная сіла класікі

**Творчасць Аркадзя Куляшова належыць да лепшых дасягненняў беларускай паэзіі, яна не страціла сваёй эстэтычнай значнасці і каштоўнасці па сёння. Больш за тое, з вышыні сучаснасці літаратурная спадчына класіка адкрываецца новымі гранямі, дэманструе сваю вялікую прыцягальную сілу, ісціну і прыгажосць.**

Гэта пацвердзіла рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Творчасць Аркадзя Куляшова ў дыялогу славянскіх літаратур: традыцыі, наватарства, нацыянальная адметнасць», прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры, якая адбылася ў Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры. Адказваў за яе правядзенне аддзел беларускай літаратуры XX — XXI стст. філіяла «Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы» на чале з загадчыцай Аленай Манкевіч.

Канферэнцыя аказалася вельмі прадстаўнічай і фактычна набыла маштабы міжнароднай, бо на форум у Мінск з'ехаліся не толькі навукоўцы з розных гарадоў Беларусі, але і даследчыкі з Украіны, Польшчы, ЗША. Актыўны ўдзел узялі і сваякі славутага паэта — унук Уладзімір Бербераў і пляменнік Віталь Маслоўскі.

Адкрыў канферэнцыю дырэктар Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар гістарычных навук Аляксандр Лакотка, які ў сваім выступленні падкрэсліў важнасць і актуальнасць гэтага навуковага форуму.

З прывітальным словам выступіў акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі Аляксандр Каваленя, які зрабіў акцэнт на актуальнасці і значнасці выдання поўнага збору твораў А. Куляшова. Удзельнікаў і гасцей канферэнцыі віталі таксама першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў, унук Аркадзя Куляшова Уладзімір Бербераў, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч.

З вялікай увагаю былі праслуханы выступленні блізкіх паэта. Яго пляменнік В. Маслоўскі падзяліўся ўспамінамі пра дзядзьку, пра яго бацькоў, пра хату, якая і сёння стаіць у Хоцімску.

З дакладамі пра творчасць А. Куляшова ў цэлым, пра асноўныя прынцыпы стылю паэта, месца ў сучасным яму літаратурным працэсе і ролю ў наш час выступілі акадэмік Уладзімір Гніламедаў, доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт НАН Беларусі Міхась Мушынскі, доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ Алесь Бельскі, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры тэорыі літаратуры БДУ Міхась Кенька.

Было заслухана больш як 80 дакладаў, прысвечаных даследаванню вершаў, паэм, перакладаў, разгляду літаратурнай спадчыны ў кантэксце сусветнай літаратуры. Працавала 8 секцый, у якіх вяліся гарачыя і зацікаўленыя навуковыя дыскусіі і спрэчкі адносна самых розных твораў класіка.

Удзельнікі канферэнцыі мелі магчымасць пазнаёміцца і з тэматычнымі выстаўкамі. Адна з іх «Ад Бесядзі да акіяна», арганізаваная Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры, жыццёвы і творчы шлях А. Куляшова праз фотаздымкі, паэтычныя радкі, кадры з фільмаў.

Пры падвядзенні вынікаў адзначалася навізна погляду на творчасць класіка. Яшчэ раз была агучана думка пра тое, што Аркадзь Куляшоў, безумоўна, заслугоўвае, каб яго творы былі сабраны ў шматтомнік іх поўнага збору.

**Зінаіда ДРАЗДОВА**

# Што цікавіць юных філолагаў?

Днямі ў Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі адбылася штогадовая гарадская навукова-практычная канферэнцыя навучэнцаў, якая сабрала аўтараў лепшых работ па асноўных школьных прадметах. Цікавыя даследаванні прадставілі на секцыях «Беларуская мова» і «Беларуская літаратура».

Сучасныя падлеткі не абыходзяць тэмы, звязаныя з інтэрнэтам, мовай сродкаў масавай інфармацыі, новай лексікай. Так, на секцыю «Беларуская мова» былі прадстаўлены работы пра спецыфіку спартыўнага рэпартажу, стылістычныя памылкі ў друку, новую жаргонную лексіку. Хлопцы з СШ № 142 прапанавалі праект беларускамоўнай суполкі ў сацыяльнай сетцы «ВКонтакте». Іншыя заўважылі, што павялічыліся тыражы беларускамоўных перыядычных выданняў. Знайсці актуальную тэму — «Электронныя слоўнікі — будучыня беларускай лексікаграфіі» Яне Ястрэмскай з СШ № 119 дапамагла яе настаўніца — Людміла Міхайлава, якая заўважыла пераклад з Google у адным з вучнёўскіх сшыткаў. «*Мы актыўна карыстаемся электроннымі слоўнікамі, змешчанымі ў сеціве, больш, чым папяровымі выданнямі. Я сама звяртаюся да такіх праграм, як «Белазар», «Arfabel». Але да электронных дапаможнікаў трэба ставіцца вельмі асцярожна. Прыклад аднаго з такіх «перакладаў» я прывяла ў сваім выступленні*», — распавяла Яна.

Шмат прамоў датычыла асаблівасцей мовы пісьменнікаў, выкарыстання тых ці іншых моўных канструкцый у творах Я. Купалы, І. Шамякіна, Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, В. Паліканінай. Устарэлай лексіцы ў творах У. Караткевіча было прысвечана аж дзве работы, прычым абедзве суправаджаліся мультымедыйнымі дадаткамі, якія дапамагалі зразумець і засвоіць старажытныя словы. Як заўсёды, школьнікаў цікавілі прыказкі і прымаўкі, афарызмы, фразеалагізмы, прычым работы ў гэтым кірунку разглядаліся на секцыі як мовы, так і літаратуры.

Актуальным напрамкам сталі параўнанні асаблівасцей беларускай мовы і літаратуры з замежнымі. Так, летась ужо сустракаліся работы, дзе праводзіліся паралелі ў беларускай і рускай, польскай мовах, беларускай і нямецкай, армянскай літаратуры, а сёлета тры моўныя выступленні датычылі беларуска-польскіх моўных сувязей. Як распавяла маладая настаўніца СШ № 30 Наталля Пушкарова, «*сучасныя дзеці чытаюць лінгвістычную літаратуру і заўважаюць, што тыя ці іншыя з'явы характэрныя і для іншых моў. У СШ № 30 замацавалася практыка курсаў па польскай мове, якую і выбіраюць тут для параўнання другі год запар. Тэмы для даследавання мы вызначаем на пасяджэнні навуковага гуртка нашай школы, і вучні стараюцца знайсці нешта неардынарнае*».

Што да літаратуры, то, як і ў мінулыя гады, вучні шмат увагі надавалі народнай творчасці: анекдотам, песням, прычым сабраным у пэўных мясцовасцях, казкам і г. д. Некаторыя шукалі фальклорныя матывы ў творчасці пісьменнікаў. Таксама былі закрануты тэмы вайны, рэпрэсій (на прыкладзе творчасці С. Грахоўскага), рэлігіі. Вучні СШ № 30 Анастасія Зайкоўская і Міхаіл Тарас зацікавіліся фізіягномікай як мастацкім прыёмам. У даследаваннях прагучалі імёны Ф. У. Радзівіл, А. Міцкевіча, Я. Коласа, Р. Барадуліна, М. Танка, З. Бядулі, У. Ліпскага, І. Пташнікава, В. Буланды. Вучаніца гімназіі № 7 Наталля Чыгрынава не магла абмінуць творчасці свайго стрыечнага дзядулі Івана Чыгрынава. «*Яна вырашыла даследаваць драматургію Івана Гаўрылавіча, якую звычайныя школьнікі не ведаюць: «На аснове апісання характараў галоўных герояў — Рагнеды, Осцея — Альгердавага ўнука, народнага героя Васіля Вашчылы — паспрабавала вывесці асноўныя рысы беларускага характару: талерантнасць, памяркоўнасць і добразычлівасць, а таксама смеласць*», — распавяла Наталля. Варта дадаць, што творчасці найноўшага пакалення аўтараў навучэнцы амаль не ўдзялілі ўвагі, а ў мінулыя гады стваралі на гэтым удалыя даследаванні.

У цэлым канферэнцыя навучэнцаў паказала: цікавасць да беларускай філалогіі ёсць, але творчы пошук — гэта не толькі эмоцыі, але і веды, дбайнасць, уменне аналізаваць і рабіць высновы.

**Кацярына ШЧАСНАЯ**

# Па жыцці з Ясеніным

З вершамі Сяргея Ясеніна Пятро Радзечка блізка пазнаёміўся падчас службы ў войску. Менавіта тады ён вырашыў прысвяціць сваё жыццё вывучэнню і даследаванню творчасці вялікага рускага паэта. Пачаў скрупулёзна збіраць публікацыі пра любімага аўтара, перапісвацца з вядомымі даследчыкамі-ясеніназнаўцамі, а пазней стаў пастаянным удзельнікам шматлікіх навукова-практычных канферэнцый у Маскве і Разані. Быў прыняты ў міжнароднае ясенінскае таварыства «Радуніца», выдаў некалькі кніг, прысвечаных паэту, сярод якіх — «Есенин в белорусской поэзии», «Гомельская Есениниана», «Есенин и Беларусь».

Невыпадкова юбілейную вечарыну ў бібліятэцы № 5 г. Мінска з нагоды 75-годдзя Пятра Радзечкі яе вядучая Наталія Касцючэнка пачала з зачытвання віншавальных тэлеграм, якія паступілі на адрас юбіляра з розных куткоў былога СССР і краін свету ад калег па вывучэнні творчасці Сяргея Ясеніна.

Пісьменніка павіншавалі таксама старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, які ўручыў віноўніку ўрачыстасці нагрудны знак «За вялікі ўклад у літаратуру», калегі-літаратары Мікола Шабовіч і Анатоль Зэкаў, мастак Генадзь Грак, сябар-аднакурснік па БДУ Уладзімір Маліноўскі. Свае песні юбіляру і прысутным на бібліятэчнай вечарыне адрасавалі артысты ансамбля народнай песні і танца «Мінскі гармонік».

Выступіў і Пятро Радзечка, ён распавёў пра свае пошукі матэрыялаў пра Сяргея Ясеніна, а таксама прачытаў эпіграмы і пародыі, якія працягвае пісаць і па сёння. У апошні час выдадзеныя дзве кнігі: «Эпиграмма легче грамма?» і «Поэтический скальпель».

**Анатоль ПАТАПАЎ**

# Эпоха і яе асобы




**Памятаю, якім арэолам славы і пашаны былі акружаны маладыя паэты-філолагі Казімір Камейша, Мар'ян Дукса, Юрка Голуб і іншыя, калі мы вучыліся на філфаку Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў канцы шасцідзясятых — пачатку сямідзясятых гадоў.**

Іх імёны ведалі ўсе студэнты, асабліва дзяўчаты. Прыгожыя, ветлівыя, узнёслыя, маладыя паэты прысвячалі свае творы жанчынам, прыродзе, роднаму краю, маладосці...

Прайшло некалькі дзесяцігоддзяў, а гэтыя таленавітыя людзі працягваюць пісаць і друкавацца.

Адзін з іх — лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Казімір Камейша. На яго рахунку — дзясяткі кніг паэзіі і прозы, а таксама выданняў для дзяцей. І вось — новы зборнік пад назвай «Ад Кромані да Свіцязі», які выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура». У яго ўвайшлі лірычныя запісы, мініяцюры, эсэ. Гэтае выданне — своеасаблівы працяг папярэдняй кнігі аўтара «Паміж кубкам і вуснамі», новыя назіранні, філасофскае асэнсаванне шматлікіх з'яў жыцця і прыроды. Думаю, калі б славуты майстар беларускага слова Янка Брыль быў жывы, то, безумоўна, парадаваўся б дасягненням свайго вучня.

Асобны раздзел кнігі склалі эсэ, дзе аўтар займальна, з нечаканага боку, распавядае пра жыццё і творчасць слынных беларускіх паэтаў і празаікаў Максіма Багдановіча, Анатоля Вялюгіна, Эдуарда Зубрыцкага, Міколы Аўрамчыка, Антона Бялевіча, Піліпа Пестрака, Анатоля Сербантовіча, Юрася Свіркі, Ганада Чарказяна, Міколы Маляўкі і іншых. Змешчаны ў зборніку і эсэ пра калектывы рэдакцый часопісаў «Вясёлка» і «Маладосць», а таксама пра івянецкіх ганчароў і землякоў аўтара.

**Міхась СЛІВА**

*Адначаснікі*



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Анатоль Канапелька

Гэта быў першы «жывы паэт», з якім я пазнаёміўся блізка. Сустрэліся мы ў рэдакцыі полацкай газеты «Сцяг камунізму», дзе я, дзевятнаццацігадовы юнак, працаваў карэктарам.

У дзверы пастукалі, і ў пакой зайшоў невысокі паўнаваты чалавек у добрым гарнітуры, са знаёмым тварам.

— Добры дзень! Мяне завуць Анатоль Канапелька, — сказаў ён.

Я ўжо і так пазнаў паэта, бо з дзявятага класа перачытваў усе літстаронкі роднай газеты. І прозвішча гэта бачыў на іх не раз.А зусім нядаўна купіў у кнігарні тоненькую кніжачку яго вершаў «Зямная сімфонія», дзе быў змешчаны фотаздымак аўтара.

Паэт трымаўся вельмі дэмакратычна. Ён распытваў мяне пра тое, як працуецца, што я пішу, расказваў пра сваё полацкае юнацтва, паведаміў, што пераязджае з Магілёва, дзе працаваў у абласной газеце, у Віцебск — бліжэй да роднага горада. Потым ён прапанаваў прагуляцца па праспекце, бо даўно не быў дома. Сэрца маё спявала ад радасці і гордасці: я іду па вуліцы з самым сапраўдным паэтам!..

Потым мы з Анатолем Мікалаевічам сустрэліся на семінары творчай моладзі ў Браславе, куды я трапіў пасля першай публікацыі ў абласной газеце «Віцебскі рабочы». Дарэчы, ён першы прапанаваў мне перайсці на «ты» і называць яго проста Анатоль.

Бліжэй лёс звёў мяне з Канапелькам пасля таго, як, пакінуўшы пасля трэцяга курса факультэт журналістыкі БДУ і папрацаваўшы літсупрацоўнікам у роднай газеце, я мусіў паступаць у Віцебскі педагагічны інстытут.

Зрэшты, менавіта Анатоль угаварыў мяне на такі крок і як мог дапамагаў прыняць няпростае рашэнне, бо філфака тады ў Віцебску не было — як варыянт заставаўся толькі факультэт пачатковых класаў. Усе гады вучобы ён быў самым зацікаўленым у маіх поспехах і няўдачах чалавекам, не саромеўся вымаўляць мне за легкадумнасць і вельмі ганарыўся, што ўсе дзяржэкзамены я здаў на «выдатна», прычым — адзіны за ўсё існаванне факультэта — на беларускай мове.

Я часта бываў у яго дома, пазнаёміўся з яго цудоўнай жонкай Святланай. Мяне заўсёды кранала, як Анатоль пры кожнай сустрэчы пытаўся: «Ты не галодны?» — нібы старэйшы брат. Дзяцей у іх не было, і ўсю нерастрачаную бацькоўскую пяшчоту ён пераносіў на студэнтаў і блізкіх сяброў.

Выдатны выкладчык, цудоўны арганізатар, Анатоль адчуваў пэўную няёмкасць ад таго, што не меў вучонай ступені. З новымі кнігамі і ўступленнем у Саюз пісьменнікаў таксама складвалася няпроста. Але ён ніколі не хаваў сваёй грамадзянскай пазіцыі, чалавечай прынцыповасці ў стасунках паміж людзьмі.

Дзякуй богу, многае наладзілася. Я віншаваў яго і з новым доўгачаканым зборнікам, і з уступленнем у творчую арганізацыю, прыязджаў у Віцебск на яго сустрэчу з чытачамі…

Пайшоў у іншы свет Анатоль ціха і спакойна — як жыў. І толькі вельмі блізкія людзі шануюць памяць і добрым, шчырым словам успамінаюць цудоўнага беларуса, паэта і сапраўднага грамадзяніна Анатоля Мікалаевіча Канапельку.

# Ліст яго календара

Днямі адзначае 80-гадовы юбілей знакаміты беларускі фалькларыст, літаратуразнавец, пісьменнік, асветнік, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Арсень Сяргеевіч Ліс. З 1955 года выходзяць у друку яго працы, прысвечаныя беларускай культуры. У 1962-м даследчык прыходзіць у Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Пабываўшы ў розных мясцінах, прапусціўшы народную песню праз сэрца і ў той жа час маючы дапытлівы розум, узвышаную паэтычную душу і несумненныя здольнасці літаратара, Арсень Сяргеевіч ужо на пачатку станаўлення беларускай фалькларыстычнай школы займае адну з вядучых пазіцый, якую захоўвае і па сёння. І пры палявым збіранні фальклору, і ў яго аналізаванні і прэзентацыі шырокаму чытачу — адданая, карпатлівая і кваліфікаваная праца нераўнадушнага вучонага.

Арсень Сяргеевіч — адзін з першых і знаных даследчыкаў каляндарна-абрадавай паэзіі беларусаў. Яго ранняя фалькларыстычная манаграфія «Купальскія песні» (1974) выразна засведчыла: у гуманітарнай навуцы з'явіўся вучоны, здольны паказаць свету, ды найперш айчыне, якое гэта багацце — каляндарная спадчына Беларусі. Аналізуючы паэзію ўсяго кола святаў і абрадаў, Арсень Ліс канстатуе: «Спароджаная беларускім этнасам на агульналюдскіх быційных падставах каляндарна-абрадавая творчасць беларусаў дэманструе нам строгую, закончаную сістэму духоўных каардынат і арыенціраў, выражаных у форме абрадаў і звычаяў, высокаэстэтычную паэзію, якая дасягнула выдатнага ўзроўню ў выяўленні філасофскага і паэтычнага генія свайго творцы. Народны каляндар як з'ява этнакультуры грунтуецца на арганічнай лучнасці чалавека з прыроднакасмічнай сферай і ва ўсіх складовых частках сваёй сістэмы паслядоўна выяўляе ідэю залежнасці і ўзаемасувязі чалавека з асяроддзем пражывання».

Манаграфічна, з усёй паўнатою ідэйна-тэматычных, мастацкіх адметнасцей сталіся прааналізаванымі найбольш этнавызначальныя жанры народнай абрадавай творчасці: восеньская, жніўная і асабліва валачобная паэзія. Менавіта ў валачобнай паэзіі беларусаў слова дасягае незвычайнай выяўленчай выразнасці, мастацкай прадуктыўнасці, пераліваецца ўсімі гранямі, адценнямі характва. Як вядома, свой выяўленчы патэнцыял, моц кожная мова выяўляе ў сапраўды вяршынных узлётах нацыянальнага паэтычнага генія. Да ліку такіх шэдэўраў беларускай мастацкапаэтычнай культуры, як пераканаўча даводзіць сваімі даследаваннямі Арсень Сяргеевіч, належаць якраз валачобныя песні, што імкнуліся да як мага больш шырокага ахопу розных праяў жыцця і эстэтычнай кадыфікацыі ў паэтычна-выяўленчых вобразах. Гэтыя тэксты — узор высокай здольнасці ўвасобіць шматгалоссе жыцця ў гаваркім, вобразна-паэтычным слове. Да шэрагу вобразных абагульненняў узнялася і беларуская жніўная песня, паказаная А. С. Лісам ва ўсім багацці разнастайных мастацкіх прыёмаў пераўтварэння быцця, яго рэалій у высокае мастацтва.

Арсень Сяргеевіч — адзін з аўтараў вучэбнага дапаможніка для студэнтаў ВНУ «Беларуская народна-паэтычная творчасць», за працу над стварэннем серыі «Беларуская народная творчасць» у 1986 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію рэспублікі. Арсень Сяргеевіч падрыхтоўваў абагульняльны том «Паэзія беларускага земляробчага календара» (1992), у які сабраў сапраўдныя шэдэўры песеннай творчасці гадавога цыкла.



У даследаванні беларускай фальклорнай песні Арсень Ліс канцэнтруе сваю ўвагу на яе эстэтычных вартасцях, ён умее паказаць тэкст у яго паэтычным харастве, і хараство гэтае арганічна знітаванае з самой ідэяй, задумай і зместам. У даследаваннях каляндарна-абрадавай паэзіі, праведзеных А. Лісам, выяўна і поўна праходзіць перад чытачом чалавек зямлі з яго штодзённымі клопатамі, марамі і пачуццямі. Уся творчасць беларускага народнага календара паўстае як цэласная, арганічная сістэма маральна-этычных каштоўнасцей, кола абрадаў і звычаяў, надзвычай багатая песенная спадчына, якая напоўніцу прадэманстравала філасофскі і паэтычны геній свайго стваральніка. У сваёй навуковай дзейнасці Арсень Сяргеевіч закранаў пытанні ўзаемаўплываў архаічнага і хрысціянскага светабачанняў у сістэме каляндарнай паэзіі, беларуская жніўная песня разглядалася ім у параўнанні з украінскай і балгарскай. Гэта дазволіла не толькі выразна паказаць этнічныя адметнасці, але і сцвердзіць яе генетычную глыбіню.

Значны ўнёсак А. Ліса ў вывучэнне культурнай спадчыны Заходняй Беларусі. У 1965 г. ён абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Народна-паэтычная творчасць Заходняй Беларусі (1919 — 1939 гг.)». А. Ліс — адзін з першых даследчыкаў, што ўзняў праблематыку заходнебеларускага духоўнага жыцця, ужо ў 1960-я пачалі выходзіць яго кнігі, прысвечаныя беларускай культуры, у тым ліку прысвечаныя знакавым асобам: «Браніслаў Тарашкевіч» (1966), «Мікола Шчакаціхін» (1968), «Пётра Сергіевіч» (1970), «Пякучай маланкі след. Эцюды да партрэта мастака Гарыда» (1981), «Вечны вандроўнік» (1984), «Песню — у спадчыну» (1989), «Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы» (з Я. Саламевічам, 1984). У кнігу «Цяжкая дарога свабоды» (1994) увайшлі літаратурныя партрэты А. Смоліча, Р. Шырмы, У. Караткевіча. Арсень Сяргеевіч падрыхтаваў шэраг нарысаў-партрэтаў непасрэдных творцаў беларускай дзяржаўнасці, вучоных, якія выпрацоўвалі канцэпцыі гістарычнага шляху беларускага народа, яго культуры, літаратуры.

Пасільная ўвага ўдзелена мастакам, пачынальнікам беларускай школы жывапісу і графікі, этнамузыколагам, творцам беларускай музычнай культуры, заснаванай на народных вытоках. Варта адзначыць, што руплівыя пошукі на гэтай глебе ўвасобіліся і ў напісанні сцэнарыяў дакументальных фільмаў — «Песня на ўсё жыццё» (пра Р. Шырму, у суаўт. з І. Цішчанкам, зняты ў 1984-м) і «Прысады жыцця» (пра М. Гарэцкага, у суаўт. з А. Вялюгіным, зняты ў 1985-м), «Зямля Тарашкевіча» (у суаўт. з Я. Лецкам, 1991), «Аркадзь Смоліч», «Дзядзька Уласаў» (пра А. Уласава; абодва 1992), «Адвечныя званы» (пра М. Доўнар-Запольскага, 1993). Побач з партрэтамі выбітных прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі Арсень Сяргеевіч абмалёўвае паэтычныя сілуэты таленавітых носьбітаў фальклорнай традыцыі народа, людзей тонкага душэўнага складу і багатага жыццёвага досведу. Сабраныя разам, многія з гэтых партрэтаў увайшлі ў збор твораў з паказальнай назваю «Gloriavictis!» (Мінск, 1998).

У прадмовах да сваіх кніг Арсень Сяргеевіч пазначае: «Справа жыцця цэлай кагорты думных прадстаўнікоў нашага народу, іхнія запаветы, памяць пра іх — святая для беларусаў. Яны абавязваюць нас застацца еўрапейскай нацыяй. Творчая спадчына беларускай інтэлігенцыі мінуласці — актуальная сягоння і заўтра. Яна нясе ў сабе пазнаку высокага інтэлекту, грамадзянскай руплівасці, сыноўскай любові і самаахвярнасці». Браты-фалькларысты Логіны з Наваградка, Р. Шырма, А. Грыневіч, М. Доўнар-Запольскі, Язэп Драздовіч, Міхал Клеафас Агінскі — іх жыцці і творчыя знаходкі, паказаныя ў творах А. Ліса, выяўна дэманструюць этнічную псіхалогію, укарэненую і ўгрунтаваную на роднай зямлі.

Арсень Ліс і сам арганічна ўпісваецца ў гэты шэраг слынных сыноў Бацькаўшчыны, праўдзівых носьбітаў генетычнага шыфру беларускай адметнасці. Хочацца паўтарыць услед за Антанінай Хатэнка: «Моц, горды нораў шляхціча з-пад Смаргоні, з яго надзвычайнай далікатнасцю і абыхоДлівасцю, з яго арганічнай інтэлігентнасцю і — аж да зачаравання! — шырокім усведамленнем Бацькаўшчыны ў свеце падаецца ўзорам інтэлектуальна-народнага стаўлення да жыцця ў грамадстве».

Калегі-фалькларысты, літаратуразнаўцы жадаюць паважанаму Арсеню Сяргеевічу моцнага здароўя, плённай працы на шчодрай ніве беларусістыкі!

**Таццяна ВАЛОДЗІНА**

# Чуцен голас наш далёка

Напрыканцы 2013 года ў Нью-Ёрку ў выдавецтве «Ліберці» выйшла кніга прозы Леаніда Левановіча, куды ўвайшла аповесць «Дух Амерыкі. Бостанскі дзённік», апавяданні, якія друкаваліся ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісах «Полымя», «Нёман», «Наш современник», а таксама эсэ «Самародак» — пра выдатнага паэта, празаіка, перакладчыка Масея Сяднёва. У свой час эсэ друкаваў часопіс «Маладосць».

Кніга выйшла ў перакладзе на рускую мову. Аповесць і апавяданні пераклаў аўтар, пераклад эсэ зрабіла Ірына Качаткова. Вынятκі з вершаў Аркадзя Куляшова, Масея Сяднёва, Алеся Пісьмянкова даюцца ў арыгінале. Радкі Уладзіміра Дубоўкі: «Ніяк не знойдзе шчасця чалавек. Хоць да канца ідзе дваццаты век» аўтар узяў эпіграфам да апавядання «Век». Такім чынам, Нью-Ёрк чытае нашых паэтаў па-беларуску.

Кніга мае даволі смелы загаловак «Оргазм в варшавском отеле», але распусты, залішняй эротыкі ў ёй няма. Аўтар славіць высокае каханне мужчыны да жанчыны. У наш час гэта вельмі важна. Свет выратуе Любоў, пераконвае аўтар чытача.

Нядаўна ў кнігарні № 21 на Пятай авеню Манхэтана з поспехам прайшла прэзентацыя выдання. Кніга Леаніда Левановіча — гэта Амерыка вачыма беларускага пісьменніка. У гэтым яе асаблівая вартасць і прывабнасць.

**Аляксей КАРАНЕЎСКІ**

# Па чароўных сцежках

Казкі — сапраўды ўнікальны, чароўны жанр літаратуры. Заўважце: змяняюцца каштоўнасці, сацыяльныя і культурныя адметнасці часу, а дзеці як захапляліся казкамі шмат стагоддзяў таму, так з задавальненнем чытаюць іх і цяпер. Думаецца, сёння, калі ў Мінску праходзіць XXI Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш, дзе асаблівы акцэнт зроблены на дзіцячай літаратуры, будзе дарэчным і расповед пра новыя дзіцячыя выданні, што пабачылі свет пры падтрымцы ТАА «Харвест».




*Красная Шапочка. Крошечка-Хаврошечка / Составитель Валентина Дмитриева. — Москва: АСТ, 2013.*

Упэўнена, серыя «Казачная школа» абавязкова спадабаецца маленькім чытачам і слухачам. І гэта не выпадкова, бо на яе старонках у выдатных рознакаляровых малюнках ажываюць самыя любімыя героі. Перад намі — і займальныя казкі, і цікавыя гульні. Укладальнікі паставілі перад сабой мэту не толькі расказаць і паказаць казку, але і дапамагчы маленькаму чытачу як мага больш запомніць. Пасля кожнай казкі дзетак чакаюць заданні, выкананне якіх пакажа, ці ўважліва яны сачылі за сюжэтам.

Дапамагчы галоўнаму герою знайсці правільны шлях, заўважыць адрозненні, з дапамогай малюнкаў паўтарыць сюжэт... Дзяцей чакаюць заданні, з якімі і няўважлівы дарослы не адразу справіцца.

Асобную ўвагу хацелася б звярнуць на работу мастакоў. Малюнкі ў дзіцячых выданнях адыгрываюць не менш важную ролю, чым сама казка. Мастакі «Казачнай школы» — сапраўдныя майстры.

А пасля захопленага прачытання вельмі хочацца, каб героі ажылі. Дарэчы, гэта таксама магчыма: напрыканцы выдання падаецца інструкцыя, як з дапамогай нескладаных матэрыялаў можна стварыць героя любімай казкі.




*Елена Агинская. Лесные истории. — Смоленск: Русич, 2014.*

З утрыманнем увагі дзяцей падчас чытання кнігі Алены Агінскай у бацькоў, упэўнена, не будзе цяжкасцей. «Лясныя гісторыі» — невялікія казачкі, якія зразумеюць нават самыя маленькія. Кніга багата аздобленая яскравымі малюнкамі. Усе героі выдання — жыхары лесу. Але, як часта бывае ў казках, сваімі паводзінамі, звычкамі яны вельмі падобныя да нашых сучаснікаў. Колькі праблем тут вырашаецца, колькі няправільных шляхоў выбіраюць персанажы!

Чаму мядзведзіха не адразу сарвала малінку? Каго ў лесе можна назваць самым прыгожым? Як крэсла можа быць для аднаго добрым, а іншаму рабіць толькі кепска? Казкі Алены Агінскай чымсьці нагадваюць байкі Крылова. Тут таксама прадстаўленыя алегарычныя вобразы недахопаў чалавека, не абыходзіцца і без маралі. Але галоўнае — маленькія чытачы не паспеюць стаміцца, будуць імкнуцца хутчэй навучыцца чытаць, а праз яскравыя вобразы запомняць першыя асновы філасофіі жыцця.




*Маша и медведь. Три медведя / Составитель Валентина Дмитриева. — Москва: АСТ, 2013.*

Ён такі вялікі, няўклюдны, але ўсё ж такі добры жыхар лесу. Мядзведзь — адзін з самых галоўных герояў рускіх народных казак. У серыі «Чытаем самі» таксама выйшла кніга казак пра мядзведзяў.

У зборнік увайшлі казкі «Маша і мядзведзь», «Два прагныя медзведзяняткі» і «Тры мядзведзі». Малюнкі, змешчаныя ў кнізе, стылістычна адрозніваюцца ад ілюстрацый да іншых выданняў серыі «Чытаем самі». Але афармленне тут вельмі пасуе да зместу. Усе вобразы выкананы ў стылістыцы савецкіх мультфільмаў, гарманічна ўплываюць на ўспрыманне дзяцей. А яшчэ — дапамагаюць правесці мяжу паміж рускімі і еўрапейскімі народнымі казкамі. Гэтыя фальклорныя творы — адно з адлюстраванняў адметнасцей носьбіту мовы, яго мудрасць, праяўленая праз сваё асабістае багатае ўяўленне.




*Людмила Петрушевская. Красивая Свинка. — Москва: АСТ, 2013.*

Не сакрэт, што жаданне і імкненне быць прыгожай займае шмат месца сярод іншых думак дзяўчат і жанчын. З-за яго праліваецца шмат слёз, дзеля яго набываюцца тысячы, мабыць, не самых патрэбных дробязей. Няўжо толькі прыгажосць можа прынесці жанчыне сапраўднае шчасце?

Няслушныя стэрэатыпы трэба разбураць. Напрыклад, у кнізе — як гэта робіць Людміла Петрушэўская. Выдавецтва «АСТ» выпусціла казку пра дзяўчыну, здольную пайсці на многае дзеля таго, каб стаць прыгажэйшай. Казка адрасаваная ў першую чаргу маленькім дзяўчынкам — як папярэджанне. Але і для хлопчыкаў яна будзе павучальнай, бо паказвае, што межаў чалавечых жаданняў і людской хцівасці не існуе.

Хітры воўк, як умелы маркетолаг, прымушае даволі шчаслівую супольнасць жывёл хацець таго, што ім зусім не патрэбна. Дзеля задавальнення жаданняў яны аддаюць нават тое, што нагадвала ім пра адметнасць свайго роду. Казка пра Свінку вучыць дзяцей адэкватна ацэньваць рэальны кошт падарункаў прыроды.




*Шарль Перро. Золушка. — Смоленск: Русич, 2013.*

Вядома, што Шарль Перо збіраў французскія народныя казкі і літаратурна іх апрацоўваў. Ёсць меркаванне, што шмат сюжэтаў Шарль пачуў яшчэ ў дзяцінстве ад сваёй карміцелькі. А пасля народныя гісторыі ператварыліся ў тыя незабыўныя расповеды, якія дайшлі да нашых дзён. Яны вядомыя ва ўсім свеце. Іх чытаюць і перачытваюць. На аснове казак Шарля Перо створаны не адзін мультфільм.

Новае выданне з дапамогай яркіх малюнкаў, якімі аздоблены ўжо класічныя казкі, стварае для маленькіх чытачоў незабыўны цудоўны свет. У зборнік Шарля Перо серыі «Чытаем самі» ўвайшлі казкі пра Папялушку, Сінюю Бараду, Чубатага Рыке, Асліную Скуру, Чараўніцу і, канечне, пра прыгажуню, якая чакае свайго прынца. Шарль Перо вучыць: за непрывабнай знешнасцю можа хавацца чулая душа.




*Братья Гримм. Три лесовичка. — Смоленск: Русич, 2014.*

Эксклюзіўнай літаратурнай апрацоўкай фальклору займаліся Браты Грым. Нямецкія народныя казкі крыху падобныя да французскіх, але ёсць і асаблівасць: тут жывуць міфічныя істоты, якіх больш не сустрэнеш нідзе.

Звычайна казкі Братоў Грым прапаноўваюць крыху старэйшым чытачам. Але выдавецтва «Русіч» для новай кнігі адабрала самыя добрыя і з іх, што прыйдуцца даспадобы нават маленькім: «Беласнежка», «Тры лесавічкі» і «Маленькія чалавечкі». Казкі пра малых ростам, але вялікіх сэрцам людзей, пра тое, што добрым людзям заўсёды адкрываюцца лепшыя шляхі.

Кніга выдатна афармленая яскравымі малюнкамі, што дапамогуць маленькім чытачам лепей уявіць, як выглядаюць невядомыя нам істоты з даўніх нямецкіх паданняў.




*Михаил Пляцковский. Разноцветные зверята. — Москва: АСТ, 2013.*

Казкі пра жывёл могуць не толькі распавесці пра іх, але навучыць дзяцей павазе і дабрыні да братоў нашых меншых. Менавіта такой мэце служыць кніга выдавецтва Міхаіла Пляцкоўскага. Тут сабрана 12 казак пра жывёл з розных куткоў планеты. Ці добра жыць, калі бачыш свет перакуленым? Ці дастаткова перафарбавацца дзеля таго, каб стаць знакамітым?

Гэтыя звераняты падобныя да дзяцей. Спачатку, не задумваючыся, яны зробяць кепскі ўчынак, а потым шчыра імкнуцца ўсё выправіць.

**Вікторыя ТРЫПУЦІНА**

# Паэтам можаш ты не быць…

Вячаслаў Рагойша — не толькі вядомы даследчык беларускай літаратуры, але і навуковец, які надае вялікую ўвагу беларуска-ўкраінскім, беларуска-рускім і іншым літаратурным узаемасувязям. Да ўсяго Вячаслаў Пятровіч не абыходзіць увагай пытанні тэорыі мастацкага перакладу, плённа вывучае паэтыку. Такія ягоныя працы, як «Гутаркі пра верш» (1979), «Слоўнік-мінімум па літаратуразнаўству» (2000), «Тэорыя літаратуры ў тэрмінах» (2011), «Паэтычны слоўнік» (2004) і іншыя літаратуразнаўчыя кнігі, нязменна запатрабаваныя тымі, хто цікавіцца мастацтвам слова, сочыць за сучасным літаратурным працэсам, а то і сам спрабуе свае сілы ў творчасці.

Несумненна, гэткі ж шчаслівы лёс чакае і кнігу В. Рагойшы «Асновы вершазнаўства», якая толькі што пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». Тым больш што гэтая праца сарыентавана на шырокую аўдыторыю. Як сказана ў анатацыі, «выданне можна з поспехам выкарыстаць пры падрыхтоўцы да алімпіяд па беларускай і рускай літаратуры рознага ўзроўню, яно задаволіць патрэбы школьных факультатываў і літаратурных гурткоў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца пытаннямі тэорыі і практыкі вершаскладання, хто сам спрабуе пісаць вершы».

Апошняя катэгорыя чытачоў, думаецца, на «Асновы вершазнаўства» павінна звярнуць асабліва пільную ўвагу. Як вядома, цяпер назіраецца вялікая цікавасць да паэзіі з боку тых, хто хоча выказаць свае думкі і пачуцці, умоўна кажучы, праз рыфму, а між тым мае цьмянае ўяўленне пра тое, што такое верш і што такое паэзія. Гэта і мае на ўвазе В. Рагойша, калі ў самым пачатку першага раздзела кнігі — «Проза. Верш. Паэзія» — сведчыць: «Відаць, мала знойдзецца юнакоў і дзяўчат, якія, асабліва ў перыяд маладой закаханасці, не пісалі б вершаў. За такімі вершапісцамі, вершаскладальнікамі звычайна замацоўваецца найменне паэта, на іх кладзецца водсвет незвычайнасці, адметнасці. Як жа, яны ўмеюць «складаць» вершы, гавараць «у рыфму». Але, як вядома, такое ўяўленне пра паэзію памылковае, таму В. Рагойша працягвае: «Сапраўды, напісаць *верш* (тут і далей выдзяленне курсівам зроблена самім даследчыкам. — **І. Ц.**) не зусім проста, не кожны здолее (без належных практыкаванняў) зрабіць гэта. Аднак верш — гэта яшчэ не *паэзія.* Далёка не паэзія. Па сутнасці, можна кожнага чалавека навучыць пісаць вершы, як можна, бадай, кожнага навучыць іграць нескладаныя рэчы на фартэпіяна».

Дарэчы, некалі гэта і практыкавалася. Зноў жа чытаем у В. Рагойшы: «У брацкіх школах сярэдневяковай Беларусі часта можна было назіраць такую сцэну: вучні раўнамерна, праз крок ці два, прытупваючы адной нагой, хадзілі туды-сюды па пакоі, мармыталі нешта сабе пад нос. Гэта праводзіліся звычайныя для таго часу практычныя заняткі па «піітыцы»: вучні «складалі вершы», тупаннем адзначалі стопы («ногі», як тады казалі)».

Ніхто не прымаў пад увагу тое, што немагчыма стаць паэтам, асабліва паэтам сапраўдным, які цягам часу ярка раскрыецца як творчая асоба, трэба нарадзіцца. У пачатку мінулага стагоддзя, пра што таксама згадвае В. Рагойша, нават друкаваліся розныя дапаможнікі, як стаць паэтам. Чым паэзія адрозніваецца ад простага верша, пісаў яшчэ да нашай эры ў сваёй знакамітай «Паэтыцы» Арыстоцель.




На жаль, гэтага адрознення і сёння некаторыя не бачаць ці не хочуць яго разумець. Прыкра, што сярод іх ёсць нават тыя, хто выдаў адзін, а то і некалькі «зарыфмаваных» зборнікаў. Аўтару гэтых радкоў аднойчы і ўвогуле давялося быць сведкам анекдатычнага выпадку. Мужчына, гадоў пад семдзесят, тлумачыў, адкуль у яго з'явілася жаданне пісаць вершы. Аказваецца, ён працаваў мастаком-афарміцелем і пра паэзію нават не думаў, а потым пайшоў на пенсію. Цяпер жа — зусім сур'ёзна: «Я непітушчы чалавек, а займацца няма чым, таму і ўзяўся пісаць вершы».

З кнігай В. Рагойшы, несумненна, будзе карысна пазнаёміцца такім непітушчым «паэтам». Аўтар яе, перш чым перайсці да выкладання саміх асноў вершазнаўства, даходліва і ў той жа час аргументавана, спасылаючыся на канкрэтныя літаратурныя творы, тлумачыць, што такое верш, чым ён вызначаецца. Тут жа дае азначэнне той ці іншай стапе, зазначаючы, што «стопы — своеасаблівы «будаўнічы матэрыял»… Кожную стапу можна параўнаць з асобнай цаглінкай. Кладучыся побач, яны ствараюць метрычныя рады верша, накшталт таго як кожны з цагляных радоў сцяны будынка муруецца з аднолькавай па форме цэглы».

Увогуле, «Асновы вершазнаўства» — гэта ўдалы сінтэз тэарэтычных разваг В. Рагойшы-даследчыка, якія затым падмацоўваюцца прыкладамі з самой літаратуры. Прытым падраздзел «Практыкум» у кожным з дзевяці раздзелаў кнігі — гэта яшчэ і падказка: тым, хто ўсур'ёз зацікавіцца выказаным, захоча што-кольвечы з яго прымяніць і ў сваёй творчасці.

Вячаслаў Рагойша кожным разам імкнецца быць як мага больш вычарпальным, прапануе вельмі шмат прыкладаў. Калі прыняць пад увагу, што з «Асновамі вершазнаўства» пазнаёмяцца і літаратары-пачаткоўцы, ён выступае і ў ролі педагога. Дый спіс рэкамендаванай літаратуры, прыведзены ў канцы, таксама прынясе плён.

**Ігнат ЦЯРЭШКА**

# Жыццёва неабходны занятак для душы



Інтрыгуючы мікс рыцарскай рамантыкі, прыгод і магіі, кніга «Суддзя і кароль», якая з'явілася ў беларускіх крамах летась, — зборнік пяці раманаў Іны Сударавай. У планах — падаўжэнне гісторыі. Героі яе не адпускаюць, а чытачы просяць працягу. Аўтар жыве ў Мінску, працуе галоўным рэдактарам сайта аднаго з буйнейшых беларускіх банкаў, займаецца яго рэкламай і піярам (а ў маленстве марыла стаць касманаўтам!). Фантастычныя раманы — занятак для душы, але жыццёва неабходны. Пісаць дапамагаюць музыка, кава і шакалад, добры настрой падтрымлівае сям'я. На старонках гісторый Іны няма чорнага і белага: праўда сябруе з вымыслам, а дабро суседнічае са злом. Да апошняга слова невядома, як усё скончыцца: крывавыя бітвы змяняе каханне, узнёслае, выратавальнае, а каварства пераўтвараецца ў сумленнасць. Пра што ж марыць сёння і што хоча данесці да чытачоў Сударава?

**— Іна, што аб'ядноўвае вашы раманы?**

— Звычайна пішу тое, пра што самой цікава пачытаць. Так і пачалася яшчэ ў 2003 годзе праца над першым раманам цыкла. У галаве склаўся пэўны вобраз: чалавек, надзелены вялікай уладай, прад'яўляе завышаныя патрабаванні да сябе і людзей, прычым думае, што так і трэба. З-за гэтага ён паступова губляе чалавечыя рысы, сувязь з рэальным жыццём. Але жыццё ўпарта б'е яго, падказвае праз боль і страты, што быць толькі суддзёй у яго не атрымаецца... Чалавек увасобіўся ў галоўным героі, імя якому — лорд Фрэдэрык, вяльможа каралеўскай крыві, суддзя Заходняй акругі каралеўства. Дзяўчынкі-падлеткі неяк напісалі мне, што ўразіліся характарамі герояў, хацелі б быць падобнымі да іх. Значыць — чамусьці навучыліся. Добра, калі пішаш, а кожны чытач выносіць з тэксту нешта сваё. Але ў маіх кнігах персанажы, адразу прызнаюся, не заўсёды паступаюць сумленна і высакародна. Я ўпэўнена: бываюць моманты, у якіх сумленнасць можа прынесці большае зло, чым невялікая хлусня. Людзі, пра якіх я пішу, здольныя баяцца, часам праяўляюць жорсткасць, чэрствасць, але імкнуцца быць лепшымі, не паддавацца абставінам. Я не рабіла нікога адназначна белым ці чорным. На пісьменніку ляжыць вялікая адказнасць, бо ён пад выглядам фантаста можа «падсунуць» чытачу карысныя думкі, ідэі, якія не проста пацешаць чалавека, а пасеюць у ім разумнае, добрае, вечнае. На жаль, не ўсе творцы так паступаюць.

**— А жаночыя вобразы? Не бывае рыцарскіх раманаў без чароўных панянак!**

— Жанчыны ў мяне атрымоўваюцца менш выразнымі, але моцнымі духам. Яны інтэлігентныя, прыемныя ў зносінах, смелыя, адказныя за свае ўчынкі і словы. На жаль, сучасныя дзяўчаты грашаць думкай, што варта быць адно прыгожай! І памыляюцца.

**— Можа, рыцара ў наш час няма?**

— Хутчэй за ўсё, ідэальных рыцараў, пра якіх пішуць у раманах, галантных і выхаваных, ніколі і не было на свеце. Таму і не магу сказаць, што іх цяпер няма. Сучаснаму мужчыну, на мой погляд, дастаткова быць надзейным апірышчам для сваіх блізкіх, прыстойным і выхаваным чалавекам, верным сябрам. Подзвігаў, думаю, не варта патрабаваць. Будзе дастаткова рашучасці і цвярозасці ва ўчынках.

**— Што вы адчуваеце, калі пішаце? Многія кажуць пра нябачную сілу, якая занатоўвае думкі на паперы...**

— Здаецца, мая свядомасць, калі пішу, ператвараецца ў арнамент, маляўнічыя вобразы з літар і фраз. Гэта не сіла, не плынь, а адлюстраванне другога «я», пагружэнне ў сябе.

**— Як прыходзіць натхненне?**

— Адназначнага адказу ў мяне няма. Бывае, што проста гляджу ў акно, на лісце, якое ападае з дрэў, на снег — і раптам нешта прыходзіць... Часам мне варта толькі пачуць цікавую фразу з чыхнебудзь вуснаў, убачыць незвычайны твар. Але атрымоўваецца і так — проста садзішся і пішаш: сорамна, што доўга не пісаў. Побач абавязкова кава і шакалад.

**— А цішыня?**

— Хочацца цішыні, але яна рэдкая з'ява. Я ўжо навучылася абстрагавацца ад гукаў, бо пэўны час жыла ў кватэры, дзе было шмат людзей і кожны, вядома ж, шумеў. Лепш не цішыня, а музыка. Пад яе добра складаюцца тэксты. Калі я пішу любоўную сцэну, то выбіраю, напрыклад, рамантычныя балады. А вось бойка на мячах лепш ідзе пад сімфа-метал.

**— Хто першы ацэньвае вашы творы?**

— Лепшыя крытыкі — чытачы ў сецыве. Яны бачаць толькі тэкст, не цябе, таму аб'ектыўна да яго ставяцца, сыплюць адзнакі, каментары. Дачка, калі я пачала пісаць кнігі, казала: «Мама, у цябе зашмат тэксту, цяжка ўспрымаць!» Муж старэйшы за мяне на 6 гадоў, і ён хутчэй прачытае кнігу па Рымскім праве, напрыклад, чым фантастычную гісторыю…

**— Што вы любіце чытаць? Якія аўтары і жанры цікавяць?**

— Выбар залежыць ад настрою. У юнацтве захаплялася казкамі, прыгодамі, фантастыкай — кнігамі Толкіена, Брэдберы, Шэклі, Булычова, Дзюма, Гюго. Нейкі час зачытвалася Кінгам, потым — Лясковым, Меражкоўскім, Набокавым. Наогул, цяжка ўсё пералічыць. Цяпер мне больш падабаюцца не мастацкія, а гістарычныя працы ці артыкулы. Я, дарэчы, вельмі люблю прыказкі і прымаўкі. У іх мудрасці, праўды, сілы больш, чым ва ўсіх навамодных навуковых артыкулах і кнігах ад усялякіх сучасных «гуру».

**— Вы і самі пішаце для дзяцей. Пра што?**

— Мне здаецца, многім па жыцці не хапае смеласці. Я стараюся расказаць малым пра тое, як абудзіць у сабе смеласць, прымусіць зрабіць той рашучы ўчынак, дзякуючы якому адкрыюцца запаветныя дзверы ў светлую будучыню.

**— Можа, прыгадаеце яркі момант з уласнага дзяцінства?**

— Добра памятаю першы салют. Тата, мама і я (мне было гадоў пяць) выйшлі ўвечары 9 мая да праспекта — і раптам неба заквітнела! Я скакала і пляскала ў ладкі. Людзі побач, асабліва дзеці, таксама радаваліся. Цікава, што машын амаль не было — пусты праспект.

**— Як вы сталі пісьменніцай?**

— Мне яшчэ ў дзіцячым садку хацелася пісаць творы. Складала казкі, запісвала ў тоўстыя сшыткі. Усё марыла: як выдатна, калі ёсць кніга з тваім прозвішчам на вокладцы. Гісторыі пра прынцэс і каралевічаў ператвараліся паціху ў фантастычныя апавяданні, якія нават публікавалі ў часопісе «Першацвет» у 90-х гадах. Мне здаецца, што кожны журналіст рана ці позна бярэцца за кнігу. Калі пастаянна апісваеш рэчаіснасць, калі-небудзь захочацца яе прадставіць па-свойму, нешта дадаць, пафантазіраваць. Вось ты ўжо і пісьменнік-выдумшчык.

**— Якія парады адрасуеце пачаткоўцам?**

— Па-першае: ніколі не пісаць пра тое, пра што нічога не ведаеш, бо «з нуля» працаваць нельга. Яшчэ адно добрае правіла: зашмат — не выдатна. Не варта злоўжываць апісаннямі, але і пісаць суха — таксама. Пачатковец не павінен адразу ж «спаўзаць» у кітчавыя тэмы, звязаныя з эротыкай і гвалтам. Яны абуджаюць «нізкія» эмоцыі, развіваюць у чытачоў нездаровую фантазію.

**— Чым вы захапляецеся акрамя літаратуры і журналістыкі?**

— Люблю вязаць. Сама раблю шапачкі, шкарпэткі, сурвэткі. Нешта ёсць у гэтым ад літаратуры — збіраеш пяцельку за пяцелькай, як слова за словам — і атрымліваецца няздрэнная патрэбная рэч.

**— Падзяліцеся, калі ласка, творчымі планамі.**

— У расійскім выдавецтве з 2013 года чакаюць выхаду два мае раманы: «Трэскі на вадзе» і «Цмокавы планы». У першым — гісторыя выдуманай краіны, але цудаў там няма, героі ўсё вырашаюць самі, без магіі. Другі, наадварот, цалкам фантастычны, дзе галоўная ідэя — паказаць чалавека, якога «душаць» завышаныя амбіцыі. Я паспрабавала адказаць на пытанне: да чаго можа прывесці жаданне вырваць у жыцця тое, што табе, па сутнасці, і не патрабуецца? На абодва гэтыя раманы сышло прыкладна два гады.

Цяпер я працую над кнігай, дзе галоўны персанаж — дзяўчына, якая вырашыла даказаць усяму свету, што яна не горшая за мужчын. Яшчэ ў маіх планах — дапісаць стары праект: гумарыстычны раман пра ўсемагутнага чарадзея Іларыёна. Ну і, канечне, мару ўбачыць калі-небудзь зборнік уласных вершаў…

**Марыя ВОЙЦІК**

# КінаЛЕТАПІС

Студыяй «Летапіс» Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» у 2013 годзе было знята 20 дакументальных фільмаў. Айчынныя кінамайстры імкнуцца захаваць лепшыя традыцыі беларускай школы дакументальнага кіно, пры гэтым даследуюць усё больш складаныя тэмы, пільна ўзіраюцца ў характары і акалічнасці жыцця герояў новага часу.

Сярэдні фармат кінастужак узрос з 23 да 35 хвілін. Павелічэнне працягласці фільмаў не з'яўляецца самамэтай, але дазваляеназіраць, як чалавек змяняецца пад уплывам абставін, як прымае жыццёва важныя рашэнні. Захаваць на экране вобразы рэальных людзей, час, эпоху, лёс — асноўная мэта дакументальнага кіно.

Праграму 2013 года рэалізоўвалі 17 кінарэжысёраў. Разам са спрактыкаванымі майстрамі працавалі і маладыя аўтары. Работы Ігара Чышчэні («Андрэй Такіндант. Спынюся ў сярэдзіне») і Наталлі Жамойдзік («Сёстры Парфяновіч. Гісторыя аднаго ўвасаблення») сведчаць пра творчы рост маладых рэжысёраў, іх імкненне найбольш поўна раскрыць характары герояў. Напрыклад, фільм «Андрэй Такіндант. Спынюся ў сярэдзіне» ў імпульсіўнай манеры распавядае пра музыканта і мастака, пры гэтым не губляецца глыбіня спасцікэння ўнутранага свету сучаснага чалавека. А ў кінастужцы Наталлі Жамойдзік прасочваецца стварэнне новай калекцыі адзення маладымі беларускімі дызайнерамі: ад задумы — са спрэчкамі, высвятленнем агульнай мастацкай пазіцыі, пошукам выразных рашэнняў — да ўвасаблення ў матэрыяле і прэзентацыі на подыуме.

У нечаканым ракурсе раскрыўся мэтр беларускай кінадакументалістыкі Міхаіл Жданоўскі. Яго фільм «Таямніца помніка» ўяўляе сабой кінарасследаванне загадак мануметальнага помніка «Тры крыжы», што знаходзіцца ў Баранавіцкім раёне. Версіі ўзнікнення ўнікальнага твора мастацтва еўрапейскага ўзроўню прыводзяць беларускія і польскія даследчыкі.

Пашырыўся жанравы і тэматычны дыяпазон дакументальных фільмаў студыі «Летапіс». Назіранне за звычайным сялянскім жыццём — аснова фільмаў «Шамбала» (Галіна Адамовіч), «Напярэдадні» (Кацярына Махава), «Жыццё як яно ёсць» і «Жыццё кволае» (Уладзімір Дашук). Так, карціна «Шамбала» распавядае пра беларускія балоты, адметныя прыродныя мясціны нашай краіны. Там на нешматлікіх хутарах яшчэ захаваўся стары, традыцыйны ўклад жыцця, на выспах сярод вады яшчэ жывуць людзі.

У новым фармаце створаныя актуальныя для фарміравання нацыянальнай самасвядомасці фільмы-партрэты майстроў культуры і мастацтва, дзяржаўных дзеячаў. Карціна Сяргея Агеенкі «Беларуская дыпламатыя. Першы міністр» вядзе расповед пра жыццёвы шлях Кузьмы Кісялёва, сялянскага хлопца, які ўзняўся да вышынь дзяржаўнай улады: стаў першым міністрам замежных спраў БССР. «Музыка ваенная» Галіны Адамовіч — фільм-роздум пра жыццё Марка Мермана, кампазітара, які нарадзіўся і атрымаў адукацыю ў Беларусі, а пасля з'ехаў у ЗША. У кінастужцы канцэртныя нумары пераплятаюцца з хронікай, дакументальныя кадры — з інтэрв'ю і гісторыяй нашай краіны.

Тэма вайны і тэма патрыятычнага выхавання моладзі традыцыйна прысутнічае ў кінастужках студыі «Летапіс». Карціна «Афганістан. Я памятаю» (Халіма Хасанава) — гэта праўдзівы аповед у асобах пра трагічныя падзеі і мужнасць людзей, што прайшлі вайну ў Афганістане.

У 2013 годзе ўпершыню чатыры дакументальныя фільмы студыі «Летапіс» былі прадстаўлены ў праграме секцыі *Short Film Corner* («Куток кароткага метра») на 66-м Міжнародным кінафестывалі ў Канах (Францыя). Гэта карціны «Пячнік» (Ала Вольская), «Асаблівы тэатр. У пошуках шчасця» (Кацярына Махава), «Аксана Волкава A prima vista» (Наталля Жамойдзік), «Забраны край» (Юрый Цімафееў).

**Таццяна ШЫМУК**

# Кітайскі стыль



*«Па волі ветру», 2014 г.*

Арыгінальны аўтарскі стыль прадэманстравала мастачка Марына Эльяшэвіч на выстаўцы «Карункі снегу белага» ў галерэі «Панарама» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Творца патлумачыла: «Выстаўка спецыяльна зроблена ў 2014-м — год Каня па Усходнім календары.

Экспазіцыю складаюць жывапісныя работы, зробленыя ў тэхніцы традыцыйнага кітайскага мастацтва (рысавая папера, манахромная і каляровая туш).

Вольная і артыстычна раскаваная манера пісьма дазваляе падкрэсліць тонкія адценні пачуццяў і настрояў аўтара ў кожным палатне, прадстаўленым на выстаўцы.

— Кітайскі жывапіс зусім не падобны да еўрапейскага. Тым не менш Марына Эльяшэвіч здолела гарманічна аб'яднаць у сваёй творчасці кітайскую і беларускую культуры, — адзначыў першы сакратар пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Ся Гуань Юань, які прысутнічаў на адкрыцці.

Для вобразнага кантрасту мастачка ўвяла ў экспазіцыю шэраг інсталяцый, што дазваляюць гледачам больш глыбока пранікнуцца створанай атмасферай: можна, напрыклад, прайсці скрозь сілуэт каня ці дакрануцца да рыштунку для верхавой язды.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**



# Вялікі дэкаратар

*Я. Чамадураў. Эскіз дэкарацыі да оперы «Сарачынскі кірмаш» М. Мусаргскага, 1952 г.*

Яўген Чамадураў — майстар высокага ўзроўню сцэнаграфічнага мастацтва. У творчасці прытрымліваўся прынцыпу спалучэння ў адзінае цэлае сутнасці музычнага твора, рэжысёрскай задумы і акцёрскага выканання. Яму не раз давялося афармляць спектаклі ў тэатрах розных краін. У 1953 годзе ён працуе над «Аідай» Дж. Вердзі ў Румынскім дзяржаўным тэатры оперы і балета (першая пастаноўка савецкім мастаком замежнай класікі за мяжой). У 1975-м у вядомым тэатры Буэнас-Айрэса «Калон» у дэкарацыях Чамадурава быў пастаўлены «Барыс Гадуноў» М. Мусаргскага. Уменне выкарыстоўваць у афармленні асаблівасці новай сцэнічнай пляцоўкі — адзін з бакоў майстэрства вялікага дэкаратара. Яўгену Рыгоравічу заўсёды дапамагала ў працы веданне сусветнага мастацтва: у «Аідзе» ён выкарыстоўвае матыў старажытнаегіпецкіх рэльефаў, у «Рустаме і Сухрабе» — персідскую мініяцюру, рускі іканапіс у оперы «Барыс Гадуноў», пастаноўка «Жызэль» пабудавана на аснове французскіх гравюр XVIII стагоддзя і г. д.

З нагоды 100-годдзя народнага мастака Беларусі ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры адкрылася выстаўка «Я. Чамадураў. Творчая рыса — шматграннасць». Унікальныя эскізы, афішы, дэкарацыі, яркія і прыгожыя касцюмы, што прадстаўлены ў экспазіцыі, узяты з фондаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі і Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры: «Князь Ігар» А. Барадзіна (1956), «Калючая ружа» Ю. Семянякі (1960), «Пікавая дама» П. Чайкоўскага (1960), «Дон Кіхот» Л. Мінкуса (1962), «Балеро» М. Равеля (1963), «Альпійская балада» Я. Глебава (1967) ды іншыя.

Афармляючы спектаклі, Я. Чамадураў заўсёды знаходзіў нешта новае, арыгінальнае, уласцівае менавіта яму. Імкнуўся да вобразнага раскрыцця драматургіі, умела выкарыстоўваючы кампазіцыю, малюнак, колер і святло.

**Таццяна ШЫМУК**

# Цымбалы спявалі

У канцэрце інструментальнай музыкі ў Салігорскай дзіцячай музычнай школе мастацтваў прагучалі арыгінальныя творы для беларускіх цымбал. Імпрэзу падрыхтавала лаўрэат міжнародных конкурсаў, лаўрэат спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Вераніка Прадзед.

Распачала вечар польская народная песня ў апрацоўцы кампазітара Віктара Войціка «Там, каля млына», дзе яскрава адчуваўся шапэнаўскі матыў. Сучасную авангардную музыку ў праграме прадставілі творы студэнтаў Кацярыны Сінкевіч і Вячаслава Пацько. Гучала і музыка заснавальніка беларускай цымбальнай школы Іосіфа Жыновіча: беларускія танцы «Мікіта», «Лявоніха», «Вяселле ў дарэвалюцыйнай вёсцы». Асабліва спадабалася прапанаваная апрацоўка твораў «Песняроў»: папуры на тэмы песень «Ой, рана на Івана», «Волагда», «Белоруссия», «Касіў Ясь канюшыну» ў выкананні Аляксандры Крымко і Аляксандра Анісімава. У сюіце «Вяснянка» Людмілы Шлег, як і ў п'есе Яўгена Ларыёнава «Кропелькі», адчуваўся чароўны голас музычнага сімвала Беларусі. На завяршэнне — сола Галіны Гарэлавай «Экако — шэсце з пірагом».

Удала сыграны канцэрт Веранікі Прадзед пацвердзіў думку, выказаную Міхаілам Соланавым: «Цымбалы — прыгажосць і гонар беларусаў».

**Сяргей ЯКІМОВІЧ**

# Кур'еры Страху. Дзяржаўная мяжа

Працяг знакамітага савецкага шматсерыйнага фільма «Дзяржаўная мяжа» беларускія тэлегледачы змогуць убачыць у 2015 годзе.

Нагадаем, што першыя восем фільмаў гэтага гісторыка-прыгодніцкага серыяла выйшлі яшчэ ў 1988 годзе. Яны распавялі пра службу савецкіх пагранічнікаў на тэрыторыі СССР з 1917 па 1980-я гады.

Паводле слоў генеральнага дырэктара Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» Алега Сільвановіча, ужо зняты дзявяты фільм другога сезона серыяла «Дзяржаўная мяжа. Кур'еры Страху». Падзеі разгортваюцца ў пачатку 90-х гадоў на фоне развалу СССР. Афіцэр-пагранічнік Антон Пякарскі, прайшоўшы вайну ў Афганістане і адслужыўшы дзесяць гадоў на мяжы ў Сярэдняй Азіі, вяртаецца ў родную Беларусь. Яго веды і вернасць абавязку аказваюцца запатрабаванымі на Радзіме, дзе праз дзяржаўную мяжу кантрабандысты спрабуюць перавезці радыяцыйна небяспечны груз.

Усяго ў межах праекта плануецца выпусціць чатыры фільмы, кожны з якіх будзе складацца з дзвюх серый. Рэжысёрам-пастаноўшчыкам першага фільма другога сезона серыяла стаў Ігар Чацверыкоў. Сцэнарый напісаны Валянцінам Залужным пры ўдзеле Ільі Цофіна і Ігара Чацверыкова. Галоўныя ролі выканалі беларускія і расійскія акцёры: Павел Харланчук-Южакоў, Ігар Дзянісаў, Алена Козырава, Рафаэль Мукаеў, Міхаіл Месхі, Томас Жайбус. Бюджэт карціны склаў амаль мільён долараў. Завяршыць працу над праектам плануецца ў 2016 годзе.

**Таццяна ШЫМУК**

# Разам...

У мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» адкрылася выстаўка «Арт-вучпрацэс» мастака-кераміста Валерыя Калтыгіна і яго вучняў.

Асноўная мэта — пазнаёміць грамадскасць, навучэнцаў, мастакоў-выкладчыкаў, кіраўнікоў студый выяўленчага мастацтва з творчасцю вучняў дзіцячай школы мастацтваў імя У. А. Дамарада горада Бабруйска і іх настаўніка. Вучэбны працэс у мастацкай школе — сутворчасць вучня і настаўніка. Разам яны ствараюць маленькі, але эксклюзіўны керамічны твор.

Асоба мастака, яго пазіцыя ў мастацтве і прафесійны ўзровень уплываюць і на выкладчыцкі працэс. Мастак працягвае асабістую творчасць у методыцы выкладання, даводзіць пачаткоўцам сваё разуменне практычнай і тэарэтычнай прафесійнай дзейнасці ў мастацтве. Назапашаны досвед дазволіў Валерыю Калтыгіну распрацаваць уласную методыку і прыёмы працы па навучанні керамічнаму мастацтву самых розных вучняў.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

# «Павінна быць святая павага да кнігі з боку грамадства»



Аляксей Кананенка — вядомы ўкраінскі паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік. А яшчэ — дырэктар Дэпартамента выдавецкай справы і прэсы Дзяржаўнага камітэта тэлебачання і радыёвяшчання Украіны. Ён часта прыязджае ў Беларусь, сябруе з беларускімі пісьменнікамі. Займаецца перакладамі беларускай паэзіі. З Аляксеем Кананенкам пагутарыў наш карэспандэнт.

**— Пісьменнік і чыноўнік — антаганістычнае спалучэнне... Як вам, Аляксей, удаецца спалучаць гэтыя ролі?**

— Ва ўсе часы былі пісьменнікі, якія працавалі чыноўнікамі. Не магу параўнаць сябе з Аляксандрам Грыбаедавым, Алішэрам Наваі, Шата Руставелі, Чынгізам Айтматавым. Аднак для мяне гэта нармальная сітуацыя, тым больш што «сюжэт» маёй працы — кнігі, выдаўцы, пісьменнікі, людзі самых розных творчых прафесій. Штодня я бяру ў рукі не адну, а некалькі, нават дзясяткі кніг. Таму антаганізму не адчуваю.

**— Уявім, што ў вас аўтограф-сесія. Падыходзіць чытач з пытаннем пра найболей значныя творы...**

— Адказаць будзе нялёгка, бо кожная кніга — дарагое дзіця, якое я песціў. Маючы каля сарака кніг, я ніколі не кажу, што вядомы пісьменнік. У нейкай ступені я вядомы свайму чытачу, як вядомы слухачам сваімі песнямі. Мая візітка — «Доня, мая донечка», якую выконвае народны артыст Украіны Мікола Свідзюк, хаця ёсць яшчэ каля ста твораў, якія спяваюць вядомыя ўсёй Украіне артысты. Дык вось, і кніжкі свае, і песні шаную, як родных дзяцей.

Першая кніга — «Персанажы славянскай міфалогіі» (слоўнік) — выйшла на рускай мове. Гэта быў 1993 год, тады пасля цэнзуры савецкага часу пачалі выходзіць падобныя кнігі пра міфалогію — славянскую, украінскую і народаў колішняга СССР. Мая кніга выйшла накладам 50 тысяч асобнікаў, разышлася па Украіне, Беларусі, Расіі.

Былі творы, якія пісаліся зусім нечакана. Неяк я паспрачаўся з таварышамі і ў 2000 годзе напісаў баявік «Забойца бычкоў». У мінулым годзе ён перавыдадзены пад назвай «Мяснік».

Дарагая для мяне «Українська міфологія та культурна спадщина» (выдавецтва «Фоліо»). Шмат гадоў я працаваў над гэтай кнігай, у ёй больш як дваццаць раздзелаў. Акрамя тлумачэння сімволікі раслін, дрэў, каменя, людскіх пачуццяў ідзе размова пра звычаі, абрады, духаў прыроды, музычныя інструменты... Словам, распавядаецца пра жыццё славяніна, украінца на працягу многіх стагоддзяў, пра тое, што ён адчуваў, пра калізіі і катаклізмы.

Сабраны багаты матэрыял. Шмат што браў і ў іншых даследчыкаў, фалькларыстаў, гісторыкаў, этнографаў, археолагаў. Спасылаюся на сваіх папярэднікаў, нават прысвяціў раздзел людзям, дзякуючы якім я зрабіў кнігу, распавёў пра іх лёсы ў звязцы з дасledаваннямі народнага жыцця.

Гэтая тэма вельмі мяне захапіла. Дарэчы, усе міфалогіі, эпасы, фальклор цесна звязаны, таму што чалавек, як кветка, рос з аднае Зямлі. Канечне, мясцовасць і клімат у нейкай меры ўплывалі. Думкі людзей нараджалі казкі, абрады, заклінанні, якімі звалі сонца, дождж, прасілі добрага ўраджаю, адганялі хваробы. І гэтыя думкі ў большасці народаў падобныя. Мяне цікавяць падабенствы і адрозненні. Гэта падштурхнула да стварэння кнігі «Белая юрта. Міфалогія і эпас Туркменістана», якая выдадзена ўкраінскай моваю.

Апошнія два мае паэтычныя зборнікі — «Штодзённік мужчыны на мяжы стагоддзя» (выдавецтва «Фоліо») і «Рэгістрацыя пачуццяў» (выдавецтва «Золоті ворота»). Першая кніга — вершы апошніх гадоў. Другая пісалася на працягу двух дзесяцігоддзяў, гэта падарунак маіх сяброў, якія выдалі зборнік, за што я ім вельмі ўдзячны.

**— Вашыя вершы пазбаўлены пафасу. Лірыка носіць прыватны, інтымны характар. Што для вас жанчына ў самым шырокім разуменні?**

— У нашай у сям'і ў сяле Раздоллі Кіравагradскай вобласці жылі дзядуля, бацька і тры сыны — усе «на плячах» нашай матулі. Яна ў нас заўжды была найпрыгажэйшая і найразумнейшая. Адтуль — павага і любоў да Жанчыны. Пафас і патэтыка — не мой стыль. Што ў жыцці можа замяніць любоў жанчыны — маці, сястры, дачкі, каханай? Прыходзіць да мяне вершы лірычныя, інтымныя. Цешуся гэтым.

**— Якім быў для вас год мінулы, чаго чакаеце сёлета?**

— Выйшаў з друку «жаночы» раман «Нелюб» (выдавецтва «Дніпро»), у выдавецтве «Фоліо» пабачыла свет бібліятэчка ўкраінскага гумару ў сямі кнігах — «Кума і кумкі», «Жэзлам па бамперы», «Жаночая і мужчынская логіка», «Ні пуху, ні лускі», «Здаравенькі будзьма!», «Мужчынскае чытанне», «Усё-ўсе-ўся». Гэта анекдоты і цікавыя гісторыі. Аўтар — народ, а ўкладальнік і аўтар нейкіх паэтычных рэчаў — я. Выйшлі з друку кнігі для дзяцей: «Войска Дажджбога» (выдавецтва «АВІАЗ») — аўтарскія казкі пра даўніх славян, іх багоў, пра духаў, пра чалавечыя стасункі, і «Барабашка і ўсе іншыя» (выдавецтва «Либідь»), якая прызнана лепшай дзіцячай кнігай на міжнародным конкурсе краін СНД «Мастацтва кнігі». «Украінская міфалогія і культурная спадчына» прызнана ўкраінскімі экспертамі лепшай кнігай 2013 года ў намінацыі «Падлеткавая і юнацкая літаратура».

Новы год таксама пачаўся добра. У выдавецтве «АДЕФ-Україна» вярстаецца кніга вершаў паэтаў Беларусі, Грузіі, Азербайджана, Узбекістана, Казахстана, Туркменістана ў маіх перакладах. Акрамя паэтаў-класікаў у кнізе прадстаўлены вершы майстроў сучаснай паэзіі, якіх я асабіста добра ведаю, чый мастацкі досвед мне досыць цікавы, як, напрыклад, армянскага паэта Эдуарда Мілітаняна, азербайджанскага Чынгіза Аліаглу, беларускіх паэтаў Алеся Бадака, Людмілы Рублеўскай, Віктара Шніпа. Гэта глыбокія, удумлівыя паэты, у іх пранізлівыя вершы, якія пераклікаюцца з маім уласным бачаннем свету, іх цікава перакладаць. У выдавецтве «Дніпро» знаходзіцца ў вытворчасці новы раман «Безхатка». У выдавецтве «ІМЕКС-ЛТЛД» (горад Кіравагрáд) рыхтуецца да выдання паэтычная кніга «І адкрытую душу ратуе душа..: Выбранае». У выдавецтве «Букрек» (Чарнаўцы) выйдзе кніга «Неверагодная смаката ад разумнага ката». У розных выдавецтвах плануюцца да перавыдання кнігі для дзяцей. Некалькі кніг — на пісьмовым стале, у рабоце.

**— Ці не надта многа?**

— Мудрыя настаўнікі яшчэ на пачатку маёй літаратурнай дзейнасці навучылі мяне: «Не насіся з адным рукапісам, а працуй!» Я выконваю іх настаўленне.

**— Ці не здаецца вам, што час «дружбы народаў» праз «дружбу літаратур» даўно мінуў?**

— Для мяне — не. Увогуле, мне здаецца, што настае новы этап пазнання народаў якраз праз літаратуру. Час пераўтварэння былых савецкіх рэспублік у незалежныя краіны — перыяд, калі была ацэнена «свабода слова», — выкінуў на паверхню ўсіх, хто думаў, што ён можа пісаць і друкавацца. Маса макулатуры запаланіла паліцы кнігарань і бібліятэк. Але з'явіліся і глыбокія, не вядомыя дагэтуль пісьменнікі. І я ўпэўнены, што яны сваімі творамі пяройдуць межы, кардоны, стануць вядомымі не толькі ў сваіх краінах. Адродзяцца школы перакладчыкаў, ажывуць альманахі перакладных літаратур. Творцам важна генерыраваць свае думкі не толькі ў сябе дома, а пашыраць прастору інтэлектуальнага патэнцыялу і адначасова сябе ўзбагачаць ведамі.

**— Хто з вядомых пісьменнікаў — вашыя сябры?**

— Да слова «сябар» стаўлюся з вялікай павагай, сяброў у мяне мала, можа, два ці тры, гэта мой запаведнік-аазіс. А вось таварышаў, прыяцеляў дужа багата. Сярод пісьменнікаў Украіны найболей стасуюся з Андрэем Курковым, Уладзімірам Лісам, Мар'янам Саўкам, Ганнай Чубач, Анатолем Качаном, Віталем Барыспальцом, Уладзімірам Барна. Лічу сваімі добрымі таварышамі Івана Драча, Юрыя Мушкецікa. Маю прыязныя адносіны з цудоўнай паэтэсай Людмілай Гнацюк. Добрымі сябрамі лічу Алеся Бадака, Людмілу Рублеўскую, Віктара Шніпа, Чынгіза Аліаглу, Эдуарда Мілітаняна.

Калі кажу, што калекцыяніраю людзей, звычайна суразмоўцы не разумеюць... Маўляў, калекцыяніраваць можна рэчы. А я з задавальненнем калекцыяніраю яшчэ і мясціны і з вялікай асалодай дару іх сябрам, каханай. Калекцыяніраю людзей, і гэта мая самая цудоўная калекцыя, ці галерэя. Хай ніхто не крыўдуе, калі кажу: «У мяне ёсць такія цудоўныя, дарагія экспанаты». За гэтым — паяднанне з яркімі асобамі, адкрыццё сімпатычных людзей. Кожны з нас мае свой свет, ён, магчыма, у нейкіх сюжэтах меней багаты, чым свет твайго партнёра. Кожны пісьменнік, выдавец, мастак, кампазітар, з якімі працую, для мяне ўяўляе Сусвет, і я сціпла далучаюся.

**— Цікава было б даведацца пра вашых родзічаў — каманду Кананенкі...**

— Маю братоў-двайнят, яны на сем гадоў малодшыя за мяне. Сяргей — дыпламат, працуе ўжо ў трэцяй краіне: спачатку ў Грузіі, пасля — у Азербайджане, цяпер ва Узбекістане. Чым дапамагае Сяргей? Зборам матэрыялу. Скажу па праўдзе, дыпламаты — такія хлопцы, у якіх работа забірае практычна ўвесь час. І ўсё ж Сяргей абараніў кандыдацкую дысертацыю па паліталогіі. Я кінуў спробы «дацісnуць» яго — прыцягнуць да мастацкай літаратуры. А вось у Віктара было нямала цікавых вершаў, пранізлівых радкоў, у нас нават выйшла супольная кніжачка «Тры-з-на», дзе вершы мае, Віктара і майго сына Максіма. У вершах Віктара ёсць рытм, думка, пачуцці, што досыць важна. І як мастак ён выяўляе сябе спаўна: меў багата выставак, у тым ліку і ў ЗША, Венгрыі, Балгарыі. Член Нацыянальнага Саюза мастакоў Украіны. Актыўна працуе як кніжны ілюстратар. Мае болей як паўсотні аформленых кніг розных аўтараў. Я вельмі яму ўдзячны за ілюстрацыі да маіх кніг.

Сын Максім — малады дыпламат. Цяпер працуе ў Страсбургу. У яго цудоўныя вершы на рускай і ўкраінскай мовах, але ў свой час ён спыніўся. Я спадзяваўся, што яшчэ вернецца да паэзіі. Часам бяру яго вершы ў свае кнігі — як эпіграфы, як самадастатковыя фрагменты, «ілюстрацыі». Такая ў мяне каманда, ёю цешуся. Гэта і ёсць кола сяброў, невялічкае, роднае.

**— У чым спецыфіка кніжнай справы ва Украіне?**

— Мы мусім быць аптымістамі, хаця ёсць дзве сур'ёзныя рэчы, якія негатыўна ўплываюць на яе развіццё. Першае — у нас няма высокага палітычнага лобі кнігі. Яно павінна было б быць сярод дэпутатаў, чыноўнікаў высокага рангу. І другое — павінна быць святая павага да кнігі з боку грамадства. Спадзяюся, прыйдзе час, калі дзяржаўнікі зразумеюць: без літары, з якой пачынаецца асвета кожнага дзіцяці, без мудрага слова, якое з літар складаецца, не будзе дзяржавы. Толькі гуманітарная база дае дзяржаве магчымасць развівацца паспяхова.

**— Набліжаецца 200-годдзе з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі. Якія выдавецкія праекты рыхтуюцца ва Украіне да гэтай падзеі?**

— Літаратары і выдаўцы сур'ёзна ставяцца да падрыхтоўкі юбілею вялікага Паэта. Пералічу толькі выданні, якія ўжо выйшлі з друку. Чарговыя тамы Поўнага збору твораў Тараса Шаўчэнкі ў дванаццаці тамах: том 8 «Мастацкая спадчына. Жывапіс і графіка. 1843 — 1847», том 9 «Мастацкая спадчына. Жывапіс і графіка. 1847 — 1850». Шаўчэнкаўская энцыклапедыя — том 3 і том 4. Факсімільнае выданне ўнікальнага рукапіснага зборніка паэтычных твораў Тараса Шаўчэнкі «Тры леты». Факсімільны рукапісны зборнік «Тарас Шаўчэнка. Вялікая кніга». Даведачнае выданне «Дакументальная скарбніца Шаўчэнкаўскіх лаўрэатаў». Зборнік выбраных твораў Т. Р. Шаўчэнкі ў арыгінале і ў перакладах на грузінскую мову Рауля Чылачавы. Выданне Кабзара ў перакладах на польскую мову. І гэта далёка не поўны пералік.

Дарэчы, большасць са згаданых выданняў прадстаўлена на XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы ў Мінску, якая завяршае сваю работу на гэтым тыдні.

**Максім ЗАЗЕРКА,**
**Кіеў — Мінск**

# Тэатр без кіраўніка?

Як вы лічыце, панове, якая самая непатрэбная пасада ў тэатры? Каго можна скараціць, каб ніхто і не заўважыў? Артыст масоўкі? А хто прамовіць сакраментальнае «Кушать подано?» Можа, цётку прыбіральшчыцу? У што ператворыцца зала? Вось кіраўніцтва Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача пачухала патыліцу і вырашыла… скараціць пасаду мастацкага кіраўніка! А што? На сцэну ён не выходзіць, падлогу не мые… Якая з яго карысць? Тым больш, як кажа прымаўка, дзе многа за сталом сядзіць, там нядоўга хлебу быць. Такім чынам, «застацца павінен толькі адзін» (так, гэта з іншага фільма, але ў ТЮГу, паверце, кіно пачалося надзвычай цікавае — Дункан Маклауд адпачывае!)…

## СЕРЫЯ 1. «ХУДСОВЕТ»

У мае рукі патрапіла некалькі дакументаў, якія дастаткова выразна адлюстроўваюць стан спраў і настрої ў тэатры. Напрыклад, пратакол пасяджэння мастацкага савета Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача ад 24 студзеня 2014 г. № 1 (не хваліўцеся, калі ласка, члены савета далі згоду на публікацыю!). Прысутнічалі там людзі вядомыя і паважаныя: да прыкладу, заслужаныя артысткі Рэспублікі Беларусь Ларыса Горцава і Вера Кавалерава, заслужаныя артысты Рэспублікі Беларусь Барыс Барысёнак, Леанід Улашчанка, галоўны мастак Ларыса Рулёва, лаўрэат II Нацыянальнай тэатральнай прэміі, вядучы майстар сцэны Аляксандр Палазкоў, а таксама сакратар мастсавета, загадчык літаратурна-драматургічнай часткі Жана Лашкевіч, старшыня прафкама тэатра Алена Шабад ды інш. Дарэчы, старшыня мастацкага савета — гэта якраз мастацкі кіраўнік тэатра Уладзімір Савіцкі.

Далей варта працытаваць сам пратакол (sic!):

*«Ж. Лашкевіч нагадвае пра тое, што мастацкая рада даручыла мастацкаму кіраўніку тэатра У. К. Савіцкаму далажыць аб перспектыўных планах развіцця тэатра на 2014 — 2015 гг. і аб планах адкрыцця адрамантаванага будынка Тэатра юнага гледача па вуліцы Энгельса, 26, ажыццяўленне якіх прадугледжвае інфармаванне мастацкага савета аб творчай сітуацыі ў тэатры.*

*У. Савіцкі кораткa апісвае сітуацыю, якая склалася ў тэатры з прыходам дырэктара М. В. Казюліна. Усе канструктыўныя спробы ўзаемадзеяння з худруком па пытаннях рэкламы, штатнага раскладу, пастановачных і перспектыўных планаў дырэктар спыніў, заявіўшы, што ў яго будзе свая мастацкая рада. <…>*

*М. В. Казюлін забараніў збіраць трупу для навагодніх віншаванняў, а таксама забараніў праводзіць прафсаюзны сход. У. К. Савіцкі неаднаразова прасіў дырэктара паспрыяць у прасоўванні дакументаў для надання тэатру статусу «акадэмічны», у чым дырэктар адмовіў. Напрацоўкі па змяненні штатнага раскладу, зробленыя яшчэ з Ю. У. Куліком, таксама былі адхіленыя без разгляду. Аднак у выхадным з тэатра дакуменце пад № 4 ад 2014/01/08 аб аптымізацыі штатнай колькасці тэатральна-відовішчных установ у адказ на запыт Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Мінгарвыканкама дырэктар паведаміў аб тым, што «намі распрацаваны новы штатны расклад», і прапанаваў скараціць штатныя адзінкі артыстаў драмы (дзве адзінкі) і машыністаў сцэны (дзве адзінкі) «у сувязі з уводам новага вельмі складанага тэхналагічнага абсталявання, электронікі, механікі і больш маштабных творчых задач і праектаў, якія стаяць перад абноўленым тэатрам» (стыль аўтара захаваны. — **Ж. Л.**).*

> **Генадзь Гаранскі, артыст:**
>
> **— Калі ведаеш, што ў цябе моцны тыл, калі ўпэўнены ў мастацкім кіраўніку і яго праграме, ідзеш і працуеш!**

*У выходным з тэатра дакуменце пад № 12 ад 2014/01/22 «у мэтах эканоміі і больш рацыянальнага выкарыстання бюджэтных сродкаў, а таксама ў сувязі з пераносам тэрмінаў здачы тэатра» дырэктар Казюлін М. В. просіць дазволу «сродкі, выдзеленыя на пастаноўку спектакля “Сіняя птушка”, выкарыстаць на аднаўленне спектакля “А зоры тут ціхія...” і пастаноўку спектакляў “Перазагрузка” і “Зімовая казка”, а адкрыццё тэатра ажыццявіць спектаклем “Тарас на Парнасе”» (стыль аўтара захаваны. — **Ж. Л.**; «Перазагрузка» — п’еса актрак тэатра Т. Жданавай і Н. Якаўлевай па матывах п’есы Я. Шварца «Казка пра страчаны час», «Зімовая казка» — «Снежная каралева» Я. Шварца па матывах Х. К. Андэрсена, спектакль запланаваны да пастаноўкі У. К. Савіцкім, рэжысёр-пастаноўшчык — Я. У. Лёгкін).*

*Нарэшце, 21 студзеня, у аўторак, на штотыднёвай нарадзе, якую У. К. Савіцкі не наведвае таму, што рабочыя пытанні на ёй не падымаюцца, дырэктар абвясціў аб скарачэнні пасады мастацкага кіраўніка тэатра ў прысутнасці сваіх намеснікаў.*

*У. К. Савіцкі лічыць падобныя дзеянні недапушчальнымі, бо ён праслужыў у тэатры чатыры гады і не можа разарваць адносіны з трупай простым скарачэннем пасады мастацкага кіраўніка.*

*У. К. Савіцкі абвяшчае папярэджанне: дзеянні рашэнню мастацкага савета і просіць членаў мастацкага савета быць вельмі ўважлівымі і прынцыповымі ў складанні меркаванняў і прыняцці рашэнняў, бо гаворка ідзе пра будучыню тэатра».*

Далей у пратаколе прыводзяцца думкі членаў мастацкага савета наконт даведзенай да іх інфармацыі. Да прыкладу, артыст Б. Барысёнак нагадвае, што «мастацкае кіраўніцтва тэатрам — вобласць надзвычай складаная, далікатная, якая патрабуе спецыяльных ведаў, досведу і магутнага чалавечага складніка асобы мастацкага кіраўніка». Па чыёй ініцыятыве і на якой падставе гэтую асобу скарачаюць? Гэтае пытанне хвалюе ўсіх прысутных.

Уносіцца прапанова запрасіць на пасяджэнне мастацкага савета дырэктара тэатра М. В. Казюліна. Артысты А. Палазкоў і І. Сідорчык выклікаюцца запрасіць дырэктара на пасяджэнне мастацкага савета.

Адказваючы на пытанні членаў мастацкага савета, якія датычаць падстаў для скарачэння пасады мастацкага кіраўніка, дырэктар тлумачыць свае дзеянні аптымізацыяй і скарачэннем штатаў, а таксама прызнаецца, што не знайшоў за некалькі месяцаў сваёй працы паразумення з мастацкім кіраўніком. Дырэктар сцвярджае, што ўсе ўзгадненні па скарачэнні гэтай пасады ім атрыманы, і падкрэслівае, што яго прызначылі правесці рэарганізацыю тэатра. Спаслаўшыся на тэрміновую працу, М. В. Казюлін пакідае сход.

> **Ларыса Горцава, заслужаная артыстка Беларусі:**
>
> **— Мастацкі кіраўнік ведае, куды ідзе тэатр, і ён за гэта адказвае! Дзеці цяпер столькі бачаць — «Гары Потэр», «Хронікі Нарніі» і г. д. — калі мы іх, малых, не навучым любіць сваю Радзіму, ніхто іх не навучыць!**

Далей уносіцца прапанова аб правядзенні на наступны дзень агульнага сходу работнікаў тэатра. На сходзе запланавана распавесці калектыву падрабязнасці сітуацыі, якая склалася ва ўстанове. Акрамя таго, мастацкі савет не пагаджаецца са скарачэннем пасады мастацкага кіраўніка і прымае за аснову далейшай працы «Перспектыўны план развіцця Беларускага рэспубліканскага Тэатра юнага гледача на перыяд 2014 — 2015 гг.».

## СЕРЫЯ 2. «ЯК ЖЫЦЬ?..»

«Як нам яшчэ год жыць тут, у Доме літаратара? Чаму нельга знайсці агульную мову? Чаму добра павінна быць не нам, а некаму там? Чаму такое пагардлівае стаўленне да традыцый?»

Гэта далёка не ўсе пытанні, якія гучалі падчас агульнага сходу калектыву і прафсаюзнага камітэта Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача, што адбыўся 25 студзеня 2014 г. у Доме літаратара.

Яшчэ за чвэрць гадзіны артысты хваляваліся: ці падтрымаюць іх калегі «па цэху» — пашывачным, манціровачным і г. д., — усе тыя, каго не бачна на сцэне, але ад каго залежыць штодзённая беспярэпынная праца ўсяго тэатра. Калегі не падвялі: усяго на агульным сходзе прысутнічалі 89 чалавек.

Выслухаўшы пратакол пасяджэння мастацкага савета, супрацоўнікі тэатра пачалі выказваць свае меркаванні. Па-першае, усіх прысутных усхвалявала рашэнне аб скасаванні пасады мастацкага кіраўніка, прынятае дырэктарам без узгаднення з калектывам. Вера Кавалерава заначыла: «Пакуль у нас ёсць мастацкі кіраўнік — мы абароненыя! Як толькі пасада мастацкага кіраўніка прыбіраецца, як толькі ён становіцца галоўным рэжысёрам, дырэктар у любы момант можа перапыніць з ім дагаворныя адносіны і паставіць пад удар артыстаў, спектаклі, выкананне плана».

Па-другое… «Чатыры гады тэатр знаходзіцца ў вельмі складаных умовах працы на арандаваных пляцоўках. У верасні памёр дырэктар тэатра Ю. У. Кулік. У такіх абставінах мастацкі савет справядліва турбуецца аб перспектыве і планах уезду ў адрамантаваны будынак на вуліцы Энгельса, 26, дзе будзе больш тэхнікі, цэхаў, службаў і спектакляў», — падкрэслівае Аляксандр Палазкоў і нагадвае, што на першым пасяджэнні 2014-га мастацкаму савету быў прадстаўлены «выразны, ясны і шырокі план развіцця», які распрацоўваўся два гады. Аднак немагчыма ўявіць, як ажыццявіць яго без мастацкага кіраўніка, які патрэбны і для адбору педагогаў Тэатральнай студыі, і як гарант выканання дзяржаўнай праграмы па выхаванні і навучанні ў Тэатральнай школе. Цэнтру сучаснай нацыянальнай драматургіі для дзяцей і падлеткаў неабходны драматург і рэжысёр, які разбіраецца ў драматургічнай справе. Тым больш, У. К. Савіцкі — лаўрэат некалькіх драматургічных конкурсаў, аўтар інсцэніровак і п’ес. Заяўлены Міжнародны фестываль-форум таксама мае патрэбу ў мастацкім кіраўніцтве.

Усе заяўленае, выказаў упэўненасць агульны сход, можа ажыццявіць толькі той, хто прайшоў з калектывам чатыры доўгія, цяжкія гады — мастацкі кіраўнік тэатра У. К. Савіцкі.

«Каб аб’яднаць трупу ў адным спектаклі, каб выкарыстаць і паказаць усе магчымасці новай сцэны і здзівіць гледача, да пастаноўкі была прапанаваная «Сіняя птушка» М. Метэрлінка, сусветная класіка, якую дырэктар М. В. Казюлін назваў «прадуктам заходнееўрапейскай культуры з вельмі складаным філасофскім падтэкстам». Чаму У. К. Савіцкаму не даюць зрабіць гэтую праграмную пастаноўку?» — задаецца пытаннем Ларыса Горцава.

Калі слова ўзяў сам Уладзімір Савіцкі, ён найперш падкрэсліў, што не хоча ўплываць на рашэнне агульнага сходу калектыву, але не жадае таксама штурхаць тэатр у выявленым адносін. Для яго важна толькі тое, што працуе на тэатр. Рэжысёра падтрымліваюць і маладыя артысты, якія заяўляюць пра сваю гатоўнасць пайсці з тэатра разам з ім.

Такім чынам, агульны сход калектыву і прафсаюзнага камітэта Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача пастанавіў:

*1. Зацвердзіць Перспектыўны план развіцця тэатра на 2014 — 2015 гг. і Праграму ўваходжання ў адрамантаваны будынак, прапанаваныя мастацкім кіраўніком тэатра У. К. Савіцкім сумесна з мастацкім саветам. Хадайнічаць перад Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь аб недапушчальнасці скарачэння пасады мастацкага кіраўніка ў ДУ «Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача».*

*2. Аб’явіць вотум недаверу дырэктару тэатра М. В. Казюліну.*

*3. Прасіць Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь падтрымаць вотум недаверу дырэктару тэатра М. В. Казюліну. Хадайнічаць перад Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь аб вяртанні ДУ «Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача» ў падпарадкаванне Міністэрству культуры Рэспублікі Беларусь.*

*4. Звярнуцца з пісьмовым хадайніцтвам у Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Адміністрацыю Прэзідэнта. Звярнуцца па падтрымку ў СМІ.*

## СЕРЫЯ 3. «ПРАЦЯГ БУДЗЕ…»

Не прамінуў і тыдзень пасля агульнага сходу, як у «ЛіМ» з ТЮГа патрапіў яшчэ адзін пратакол. 29 студзеня ізноў быў скліканы мастацкі савет, на якім Уладзімір Савіцкі паведаміў пра вынікі свайго візіту ў Мінгарвыканкам па запрашэнні намесніка старшыні І. В. Карпенкі.

Да слова, І. В. Карпенка даў даручэнне падрыхтаваць і правесці 6 лютага агульны сход калектыву тэатра з удзелам М. В. Казюліна і У. К. Савіцкага. Акрамя таго, паводле І. В. Карпенкі, на сёння пасада мастацкага кіраўніка не скарачаецца.

Для вырашэння сітуацыі з дырэктарам тэатра М. В. Казюліным І. В. Карпенка ўсталёўвае месячны тэрмін — па 27 лютага 2014 г. Па-другое, па словах І. В. Карпенкі, загад аб пастаноўцы спектакля «Сіняя птушка» М. Метэрлінка аддадзены на зацвярджэнне Міністу. Калі ён будзе зацверджаны, можна прыступаць да працы.

У. К. Савіцкі не сумняваецца, што кожны член калектыву на працягу месяца будзе па-ранейшаму дакладна выконваць свае абавязкі, а праз месяц мастацкі кіраўнік і мастацкі савет працягнуць размову ў Мінгарвыканкаме. Відавочна, што любая затрымка з вырашэннем сітуацыі ў ТЮГу можа сарваць адкрыццё тэатра пасля рамонту, а гэта — падзея дзяржаўнай важнасці, падкрэслівае мастацкі кіраўнік.

Дарэчы, падчас сустрэчы ў Мінгарвыканкаме ў прысутнасці І. В. Карпенкі, С. А. Хільмана і В. У. Рудзікавай дырэктар тэатра М. В. Казюлін прызнаў свае памылкі і папрасіў прабачэння ў кожнага з прысутных членаў мастацкага савета, абвясціўшы пра гатоўнасць напісаць заяву аб сыходзе. У. К. Савіцкі прабачэнні не прыняў. Рашэнне дырэктара звольніцца з тэатра мастацкі савет ухваліў, але ў выпадку змены рашэння пакінуў за сабой права звярнуцца да дырэктара тэатра з прапановай пакінуць калектыў.

## HAPPY END?

Здавалася б, канцоўка — у лепшых традыцыях Галівуда. І можна спакойна ісці рамантаваць сваю пабітую кулямі хату, аднак…

Паводле навінаў з крыніц у ТЮГу, там пачынаецца новая частка гэтага серыяла… А часу да адкрыцця новага будынка, між іншым, усё менш і менш…

**Таццяна СІВЕЦ**

# Who is Mr. Kaziulin?

Агульны сход Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача за апошнія чатыры гады не збіраўся ніводнага разу! А тут спачатку адзін — тэрміновы, па просьбе мастацкага савета, 6 лютага (у час падпісання газеты ў друк) — другі, па рашэнні Мінгарвыканкама…
Дык хто ж такі спадар Казюлін, асоба якога выклікала такое хваляванне ў тэатры, што перажыў на сваім вяку не аднаго дырэктара? Хто ён, той, каму агульны сход ТЮГа амаль аднагалосна (толькі адзін устрымаўся) выказаў «вотум недаверу» (*гл. стар. 15*)?
На сайце ўстановы яго біяграфія ўкладаецца роўна ў два радкі: «Казюлін Мікалай Віктаравіч, нарадзіўся 19 красавіка 1959 года ў вёсцы Александрына Міёрскага раёна Віцебскай вобласці». Ні звестак пра адукацыю, ні пра ранейшыя месцы працы.
«ЛіМ» вырашыў «рассакрэціць» гэтую інфармацыю і пагутарыць з Мікалаем Казюліным пра апошнія падзеі.

**— Як вы пракаменціруеце сітуацыю, што склалася ў ТЮГу?**

— Так бывае, што погляды людзей адрозніваюцца — і гэта слушна не толькі для тэатральнай грамадскасці. У краіне ідзе аптымізацыя, і ўсім варта вучыцца працаваць у новых умовах, не толькі ў плане эканамічным, адміністрацыйным, але і творчым таксама. Я лічу, што нічога страшнага не адбылося. Упэўнены, што з цягам часу мы з мастацкім кіраўніком знойдзем агульныя падыходы. Наш калектыў — са сваімі традыцыямі, але, як і ў любым калектыве, раз-пораз узнікаюць спрэчныя моманты. У 2010-м у ТЮГу было ўжо нешта падобнае: спрэчкі, высвятленні адносін… Але гэта рабочы момант, перамелецца — мука будзе! А гэты дырэктар ці іншы, будзе вырашаць кіраўніцтва горада. Я ж не выбіраўся на агульным сходзе — мяне прызначылі, і мая мэта — стварэнне каманды прафесіяналаў, дзе людзі будуць падтрымліваць адзін аднаго, змогуць на поўны голас выказваць свае думкі, а не хаваць іх. Тэатр — гэта не толькі акцёрская трупа, гэта ўвесь калектыў, паяднаны адной ідэяй. Якой? Стварыць сапраўдны дзіцячы тэатр, каб чарга стаяла па квіткі, каб чуткі пра яго сягалі далёка за межы краіны, маўляў, у ТЮГу ёсць тое, чаго няма нідзе больш! А перамены заўжды ўспрымаюцца востра: людзі па сутнасці сваёй кансерватыўныя. Каб нешта змяніць, часам трэба націснуць, давесці сваю думку — і адзін раз, і другі, і трэці. А потым самім будзе прыемна! З-пад пяра майстра павінна выходзіць нешта геніяльнае, а не шараговае, сярэдняе, каб людзі набывалі квіткі і выходзілі з тэатра з пачуццём вялікага задавальнення. А для гэтага якраз і трэба, каб у самім тэатры стасункі былі сяброўскія, каб людзі паважалі адзін аднаго!

**— Ці ёсць у вас канкрэтная праграма развіцця тэатра на бліжэйшыя гады?**

— Я працую тры месяцы, і ў мяне ўжо ёсць канкрэтнае бачанне, куды павінен ісці тэатр. 45 акцёраў у нас — ёсць і заслужаныя артысты, і моладзь. Мне хацелася б, каб кожны меў сваю творчую нішу, сваю сур'ёзную ролю і магчымасць сябе праявіць. Каб на гэтую тэатральную «паляну» выходзілі ўсім складам! Каб працавалі разнапланавыя рэжысёры… Кансерватыўны падыход (маўляў, «мы заўжды рабілі толькі так») — гэта фундамент, аднак ёсць рэчы класічныя, а ёсць і новыя падыходы. Я ўпэўнены, што дзіцячы спектакль найперш павінен быць дынамічным. Калі малеча ў зале не разумее, што адбываецца, калі гучаць доўгія дыялогі і мала дзеяння, то ім нецікава! Нават у межах класічнага рэпертуару заўжды ёсць магчымасць зрабіць «крыху інакш»…

**— На жаль, звестак пра ваш жыццёвы і прафесійны досвед вельмі мала. Ці не распаведзяце самі пра яго чытачам «ЛіМа»?**

— З прыемнасцю. Нарадзіўся я ў вёсцы Александрына Міёрскага раёна Віцебскай вобласці (тады гэта была Маладзечанская вобласць). Бацька памёр даўно, маці, дзякуй богу, яшчэ жыве ў Міёрах. Пасля школы скончыў культурна-асветнае вучылішча (цяпер такая ўстанова завецца каледжам мастацтваў), два гады адслужыў у арміі, пасля працаваў на Мінскім аўтамабільным заводзе слесарам-інструментальшчыкам, чым ганаруся! Пасля завода паступіў у Мінскі інстытут культуры, потым працаваў дырэктарам Дома культуры ў Слуцкім раёне, кіраваў музычнымі калектывамі, так званымі «агітбрыгадамі». Затым быў прызначаны загадчыкам клуба Упраўлення беларускіх чыгуначных войскаў. Калі ж распаўся Саюз, я патрапіў у Беларускі фонд культуры, якім на той час кіраваў Іван Чыгрынаў. Тады пазнаёміўся з многімі вядомымі творцамі, мастакамі, Адам Восіпавіч Мальдзіс часцяком завітваў на прэзідыум, браты Басалыгі заходзілі… Я ж займаўся там праграмай, якую сам і распрацаваў, «Адраджэнне духоўнай культуры старажытных гарадоў і мястэчак Беларусі». Праз тэатралізаваныя святы мы нагадвалі жыхарам, якімі былі іх гарады ў часы Вялікага Княства Літоўскага, рабілі тэатралізаванае свята ў Друцку, якое моцна ўразіла дручан (на Друцкім гарадзішчы, дарэчы, многія расійскія даследчыкі «адкапалі» свае навуковыя званні). Да слова, рэжысёрам быў Мікола Макарцоў — на жаль, яго ўжо няма з намі, — надзвычай таленавіты творца. З Мікалаем Паніным мы рабілі рыцарскае свята ў Міры і Карэлічах у 1994 годзе, здаецца. Таксама займаліся кнігавыданнем, супрацоўнічалі з бібліятэкамі.

Потым я перайшоў у Беларускі фонд сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў «Мы — дзецям» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Грыдзюшкі. Недзе восем год працаваў там, займаўся вялікім шматжанравым фестывалем «Усе мы родам з дзяцінства». Ездзіў па Беларусі, шукаў таленавітых дзетак, калектывы, арганізоўваў праграмы на тэлебачанні. Шмат было іншых цікавых праектаў, і кнігавыдавецкіх у тым ліку: напрыклад, «Казкі дзяцей Беларусі», напісаныя самімі дзецьмі і выдадзеныя ў 1998 годзе па-беларуску, па-англійску і па-руску. Разам з Кацярынай Дубінскай мы стварылі часопіс для дзетак «Качели»…

Пасля закрыцця фонду мне давялося шукаць працу… на рынку! Так, папрацаваў «на Жданах» — прадаваў паясы ды пальчаткі і пазнаёміўся там са многімі адукаванымі людзьмі: і медыкамі, і педагогамі — каго толькі не было… А потым мяне запрасілі на працу ў прыватную ўстанову — Прадзюсарскі цэнтр «Спамаш», які стварыў Аляксандр Шакуцін, старшыня савета дырэктараў ААТ «Амкадор». Там працавалі Іван Буслай, Алёна Ланская, Дарыя. Як выканаўчы прадзюсар я якраз апекаваўся Алёнай Ланской — праўда, яна дзяўчына самастойная, з характарам, таму, пэўна, шмат чаго ў жыцці дабілася… Крыху пазней тагачасны міністр культуры Уладзімір Мацвяйчук запрасіў мяне ўзначаліць Маладзёжны тэатр эстрады. Там я прапрацаваў, лічу, што нядрэнна, каля чатырох год — адносіны ў нас з калектывам складаліся неблагія, але пан міністр вырашыў, што час мне ісці, і я заняўся «рэканструкцыяй аб'екта» — былога Дома культуры «Камволь», дзе некалі пачынаў працаваць Уладзімір Мулявін, калі яны з яго музыкантамі яшчэ не былі «Песнярамі» і нават «Лявонамі»! Цяпер гэта Дзяржаўная культурна-асветная ўстанова «Палац культуры "Лошыцкі"». Мне ўдалося «выбіць грошы», і няхай і не так проста, але справа зрушылася з мёртвай кропкі… Увогуле, маё крэда — «Хлопцы, а зарабляць спрабавалі?» Не за кошт, канечне, каб голымі па сцэне бегаць, але працаваць з улікам жаданняў і магчымасцей гледача! Як дырэктар ТЮГа я найперш зацікаўлены ў тым, каб на нашыя спектаклі прыходзіла як мага больш людзей. А для гэтага трэба, каб пастаноўкі былі яскравыя, цікавыя і па духу — беларускія. Як ні дзіўна, я лічу, што нам не заўжды трэба вучыцца ў некага, капіраваць расійскія праекты, стварацць у сябе комплекс непаўнавартаснасці. Мы павінны падпітвацца нашым словам, нашым фальклорам, духоўнай культурай…

**— А што да вашай згоды напісаць заяву «па ўласным жаданні»?..**

— Я гатовы сысці хоць зараз — я агучыў гэтую думку на нядаўняй сустрэчы з гарадскім кіраўніцтвам. Аднак, агледзеўшыся, пабачыў людзей, якія хочуць, каб я працаваў, мацаваў каманду, без якой немагчыма стварыць ніводзін праект. Я настроены на працу, але гатовы зрабіць так, як скажа маё кіраўніцтва. Скажуць, што не справіўся, — пайду. Скажуць: «Працуй, хлопча!» — буду працаваць, наладжваць кантакты з усімі абсалютна, у тым ліку з мастацкім кіраўніком. У мяне хопіць на гэта мужнасці, як хапіла яе на тое, каб прынесці свае прабачэнні членам мастацкага савета. Я ж бачу, што ўсе яны — людзі таленавітыя, перажываюць за тэатр, а вось прыйшоў «нейкі Казюлін» і хоча ўсё парушыць! Але ж я першы мару, каб Тэатр юнага гледача стаў лепшым не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі!

**Таццяна СІВЕЦ**



# Казкі для дарослых

Выстаўка батыку і тэкстыльных пано Алы Шкарадзёнак «Страчаныя ключы дзяцінства» адкрылася ў Гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва. У работах, якія складаюць экспазіцыю, мастачка імкнецца вярнуць сабе і гледачу па-дзіцячы радаснае ўспрыманне навакольнай рэчаіснасці.

Творца свядома імкнецца адысці ад клішэ і паказаць паўнавартаснасць тэкстыльнага мастацтва як сродку перадачы самых разнастайных тэм і сюжэтаў.

— Успаміны пра дзяцінства для мяне — прамень надзеі, які паказвае шлях выратавання ад адзіноты, руціны і аднастайнасці, — прызналася Ала Шкарадзёнак.

Аўтар выстаўкі скончыла Беларускую акадэмію мастацтваў, з'яўляецца членам Беларускага саюза дызайнераў, членам клуба «Батык». Брала ўдзел у міжнародных выстаўках у Расіі, Літве, Германіі, Швейцарыі, Францыі.

Як адзначыла куратар выстаўкі Крысціна Лядская, Ала Шкарадзёнак — сапраўдны майстар, які заўсёды знаходзіцца ў пошуку новых выразных сродкаў, імкнецца давесці выключнасць дэкаратыўнай тэхнікі.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**


ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-97-09
крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-97-09
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 3600 рублёў

Наклад — 2548.
Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк
06.02.2014 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 628.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686